28 жніўня 2015 | № 32 (449)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Рэванш правага паўшар'я

стар. 4

5 **МІКОЛА СТАТКЕВІЧ: МАРЫНА – ГЭТА ШЧАСЦЕ, ЯКОЕ МНЕ ВЫПАЛА**



Гэта размова не пра палітыку і планы Статкевіча. А пра іх жыццё адзін без аднаго, пра пачуцці, пра шчасце…

28 **Я МІШУ БАЧЫЎ!**

Так здарылася, што я выпадкова стаў сведкам антыкарупцыйнай акцыі адэскага губернатара Міхаіла Саакашвілі і паспрабаваў зрабіць своеасаблівы партрэт палітыка

9–24 **Літаратурная Беларусь**

30 **ЯН ДАМЕЛЬ: ШЛЯХ МАСТАКА З КРАЮ**

У Сібіры, апрача роспісаў храмаў ды шэрагу купецкіх партрэтаў, Дамель шмат рабіў архітэктурных, а таксама жывых жанравых замалёвак з побыту мясцовага насельніцтва



# З прычынаў глыбокага прагматызму

**Лукашэнка вызваліў палітвязняў. Але ці ўдасца афіцыйнаму Мінску нармалізаваць адносіны з Захадам?**



Сяргей ПУЛЬШАА

З разумела, ніякім «гуманізмам», як гэта напісана ва ўказе аб памілаванні, вызваленне палітвязняў і не патыхае.

«Гуманізм» быў бы, калі б усе былі вызваленыя з «першай хваляй» памілаваных «за Плошчу», то бок у 2011 годзе. Зараз, калі амаль усе да канца адбылі свае турэмныя тэрміны, пра «гуманізм» казаць складана. Асабліва ўлічваючы той момант, што некаторым не так даўно яшчэ і навесілі дадатковыя тэрміны зняволення за «парушэнне правілаў адбыцця пакарання».

Відавочна, што ўладу прыціснула. І разлік на тое, што вызваленне палітвязняў, а затым абяцаныя нам «самыя празрыстыя і сумленныя выбары» будуць ацэненыя ў Еўропе. Менавіта «ацэненыя», і Захад у чарговы раз дасць нам грошай, напрыклад, у выглядзе крэдыту МВФ. Сапраўды, колькі можна ўбухваць сотні мільярдаў еўра ў Грэцыю, дзясяткі — ва Украіну, і шкадаваць «вартых жалю» трох-пяці мільярдаў для «сінявокай» у самым цэнтры Еўропы. Інакш як «грошы» беларуская ўлады «нармалізацыю адносінаў з Захадам» не ўспрымаюць. Тым больш, што грошы зараз неабходныя як ніколі.

Шмат хто непакоіцца, што пасля выпуску палітвязняў і адноснай «лібералізацыі» на выбарах беларускі рэжым будзе легітымізаваны на міжнароднай арэне. На тое спадзяецца і ўлада.

Але, на маю думку, гэтыя спадзяванні, як мінімум, перабольшаныя, як максімум — нічым не абгрунтаваныя.

Найперш, варта зазначыць, што вызваленыя не ўсе палітвязні. Па-ранейшаму за кратамі застаецца «вяршыня» праваабарончай арганізацыі «Платформа» — Андрэй Бандарэнка і нядаўна асуджаны Міхаіл Жамчужны. Замест адпушчаных улада набрала новых «закладнікаў» — маладзёнаў, затрыманых па справе аб патрыятычных і антыфашысцкіх графіці ў Мінску. беларускія праваабаронцы, нават насуперак сваёй традыцыі «дачакацца судовага працэсу», ужо абвясцілі іх вязнямі сумлення.

Што ж тычыцца выбараў… Канешне, Аляксандр Рыгоравіч крыху паламаў планы апазіцыі. Найперш, той не вельмі шматлікай яе часткі, якая выступала за байкот. Вызваліўшы Статкевіча, ён выбіў з іх рук самы моцны козыр. Маўляў, якія выбары, калі кандыдат у прэзідэнты з мінулай кампаніі яшчэ сядзіць? Зараз Статкевіч на волі, і гэтага козыра ўжо няма.

Я сумняваюся, што вызваленне палітвязняў (яшчэ раз падкрэслю — не ўсіх) адаб'ецца на стаўленні Захаду да беларускіх выбараў. Канешне, гэты факт будзе адзначаны як «станоўчы крок» падчас электаральнай падзеі. Але Лукашэнка ўжо столькі разоў вызваляў палітвязняў перад выбарамі, што гэта ўжо не дзіва. Да гандлю ўжо звыкліся, і наўрад ці канстатацыя «станоўчага кроку» якімсьці чынам паўплывае на стаўленне да выбараў.

Час ужо зразумець, як разглядае выбары Еўропа. Выбары — гэта не вынік, і не апошні дзень галасавання, а працэс. Працэс ад пачатку іх абвяшчэння і да разгляду апошняй скаргі па іх выніках у судзе. У гэтым працэсе важнае ўсё, і гэты працэс ужо зараз наўрад ці выглядае «дэмакратычным».




Пачынаючы ад абвяшчэння выбараў. Напрыклад, былы суддзя Канстытуцыйнага суда Міхаіл Пастухоў лічыць прызначэнне даты галасавання 11 кастрычніка «датэрміновымі выбарамі», што не адпавядае Канстытуцыі і заканадаўству. Потым — «брутальны выруб» з кампаніі Юрыя Шульгана. Нерэгістрацыя ініцыятыўнай групы Мікалая Статкевіча ў тым жа шэрагу. Не таму, што Статкевіч, як судзімы, не мае права балатавацца на прэзідэнта, а таму, што было абмежаванае выбарчае права не Статкевіча, а цалкам законапаслухмяных грамадзянаў, — іх права вылучаць таго, хто ім падабаецца.

Свабодныя выбары ўключаюць у сябе шмат фактараў. Напрыклад, свабоду слова. А якая можа быць свабода слова, калі ўлады адкрылі сапраўдны «сезон палявання» на журналістаў-фрылансераў? Толькі за паўгода — больш за 20 асуджаных журналістаў! Свабодныя выбары ўключаюць і правы грамадзян на аб'яднанне ў арганізацыі і асацыяцыі. А ўлады ўжо ў пяты раз забаранілі БХД. З той жа серыі і права на правядзенне мірных акцыяў, і права на выказванне сваіх меркаванняў… Передвыбарчыя пікеты па зборы подпісаў за кандыдатаў у прэзідэнты дазволеныя, але паўсюдна забараняюць пікеты на іншую тэматыку — супраць збяднення насельніцтва альбо супраць дэкрэту аб дармаедах.

Гэта той «выбарчы працэс», як яго разглядаюць у Еўропе. А не «дзень галасавання», як выбары разглядаюць у Беларусі.

Таму аднамомантны выкід палітвязняў не можа ўплываць на прызнанне выбараў.

Не выключана, што Еўропа ў чарговы раз выкруціцца. Што мы атрымалі за «міратворчую дзейнасць, за ўсе «мінскія дамоўленасці» і «кантактныя групы»? Беларусь палітычна прынялі ў Балонскі працэс. Крок добры, але наўрад ці той, на які разлічвалі ўлады.

Магчыма, у адказ на вызваленне шасці палітвязняў мы таксама атрымаем наступны крок. Але наўрад ці ён будзе такім, на які спадзяецца афіцыйны Мінск.

# Трусаў прэзентаваў праект закона аб культуры

Марат ГАРАВЫ

**25 жніўня гісторык, археолаг і грамадска-палітычны дзеяч, старшыня «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» Алег Трусаў прэзентаваў аўтарскую версію праекта Закона аб культуры Рэспублікі Беларусь.**

Прэзентацыя адбылася на круглым стале «Урад для народа», ініцыяваным аргкамітэтам па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» і Інстытутам развіцця дэмакратыі і сацыяльнага рынку для Беларусі і Усходняй Еўропы (Вільня).

Сярод галоўных навацый свайго праекту Алег Трусаў назваў наступныя: асобны раздзел «Беларуская мова — асноўны кампанент культуры Беларусі», спецыяльныя артыкулы «Рэлігійная спадчына», «Гістарычна-культурная спадчына і турызм», «Рэстытуцыя гістарычна-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь», увага да аховы помнікаў, увядзенне прыватнай формы ўласнасці для арганізацый культуры, падтрымка дзейнасці розных творчых саюзаў аднаго профілю, забарона на прапаганду ў сферы культуры наркотыкаў, алкаголю, палення тытуню, парнаграфіі, а таксама лаянкі і рускага мату, прамое бюджэтнае фінансаванне галіны і абавязковае стварэнне грамадскіх саветаў па культуры пры органах улады ва ўсіх раёнах і абласцях краіны.

Алег Трусаў акцэнтаваў увагу на неабходнасці павышэння дзяржаўнай значнасці шэрагу структураў у сферы культуры, узроўню іх прафесіяналізму і адказнасці за вынікі сваёй працы. Дзеля гэтага, між іншым, прапанавана стварыць пры кіраўніку дзяржавы Дэпартамент беларускай мовы, а пры ўрадзе краіны — Дзяржаўную інспекцыю Рэспублікі Беларусь па ахове гістарычна-культурнай спадчыны, у складзе якой прадугледзець Беларускую рэспубліканскую навукова-метадычную раду па пытаннях аховы гістарычна-культурнай спадчыны і Фонд аховы, зберажэння і аднаўлення гістарычна-культурнай спадчыны народа Беларусі. Апроч таго, як маркуе аўтар праекта, пры Савеце міністраў неабходна заснаваць Камісію па выяўленні, вяртанні, сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны ўжытак культурных каштоўнасцяў, якія апынуліся за межамі Рэспублікі Беларусь, а таксама Банк звестак аб гістарычна-культурнай спадчыне Рэспублікі Беларусь.

Паводле яговых словаў, аўтарскі праект будзе апублікаваны ў кнізе «Маніторынг беларускай мовы», што рыхтуе ТБМ, а восенню можа быць накіраваны на абмеркаванне ў ніжнюю палату беларускага парламента, дзе чакае разгляду ў першым чытанні груваскі праект Кодэксу Рэспублікі Беларусь «Аб культуры», падрыхтаваны Саветам міністраў краіны.

# Няма чаго прапанаваць, апроч спайвання

**Галоўным слоганам і сутнасцю палітыкі дзеючай улады павінен стаць слоган «відовішчаў і гарэлкі». Такое меркаванне выказаў сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі, каментуючы адмену абмежаванняў па продажу алкаголю ў Мінску.**

«Адмяняючы абмежаванні на продаж алкаголю, якія былі прынятыя ў адказ на патрабаванні жыхароў Мінску і не сустрэлі пярэчання з боку грамадзян краіны, яна дэманструе, што апроч брутальнага спайвання і падману ім няма чаго прапанаваць грамадзянам», — заявіў ён.

«Дзеля хуткага папаўнення бюджэтаў улада ахвяруе здароўем і дабрабытам беларускіх грамадзян і сем'яў. Дабрабытам усёй Беларусі. Спайванне насельніцтва абарочваецца велізарнымі эканамічнымі стратамі праз выдаткі на медыцыну і ліквідацыю іншых наступстваў алкагалізацыі. Гэтыя выдаткі ніяк не пакрываюцца даходамі ад продажу алкаголю. Разбітыя сем'і, страчаныя жыцці людзей нагогул вылічыць у фінансавым вымярэнні немагчыма», — падкрэсліў сустаршыня БХД.

Ён адзначыў, што «цяпер за кожнае страчанае жыццё па прычыне алкаголю нясе персанальную адказнасць улада і Аляксандр Лукашэнка, на нарадзе з удзелам якога быў санкцыянаваны новы этап спайвання беларусаў, знішчэння беларускай нацыі».

«У падтрымку абмежавання продажу алкаголю выказаліся тысячы грамадзян, іх подпісы накіравалі органам улады. Але спачатку пайшоўшы на саступкі, улады зноў ігнаруюць волю народу. Беларускія хрысціянскія дэмакраты будуць намагацца адмены гэтага рашэння, будзем працягваць барацьбу ў абарону беларусаў, абарону беларускіх дзяцей ад алкаголю», — дадаў Віталь Рымашэўскі.

**bchd.info**

# Назіральнікі БДІПЧ АБСЕ не ацанілі памілаванне палітвязняў

Сяргей ПУЛЬША

**З 26 жніўня ў краіне афіцыйна працуе місія Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ па назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі.**

Місію ўзначальвае пасол Жак Фор, яна ўключае зараз 11 экспертаў. Бліжэйшым часам у краіну прыбудуць 36 доўгатэрміновых назіральнікаў. Апроч гэтага, БДІПЧ запросіць і 400 кароткатэрміновых назіральнікаў, якія будуць праводзіць маніторынг у дзень выбараў.

Як заўважыў на прэс-канферэнцыі Жак Фор, місія пачынае працу толькі з 26 жніўня. Таму «па-за бортам» пытанняў гэтай місіі засталіся ўжо існуючыя «спрэчныя пытанні» кампаніі. Прынамсі, нерэгістрацыя ініцыятыўнай групы Міколы Статкевіча. Мандат назіральніцкай структуры зараз прадугледжвае сачэнне за працэсам рэгістрацыі кандыдатаў у прэзідэнты, агітацыйнымі мерапрыемствамі, працай выбарчай адміністрацыі і адпаведных дзяржаўных органаў, выбарчым заканадаўствам і яговым прымяненнем, а таксама разглядам скаргаў, якія звязаныя з выбарамі.

Але гэта не азначае, што нерэгістрацыю групы Статкевіча не заўважылі зусім. Заўважылі, проста гэтым займалася іншая місія — місія па ацэнцы мэтазгоднасці накіравання ў Беларусь гэтай місіі, — якая працавала ў Беларусі ў ліпені.

Назіральная місія БДІПЧ АБСЕ — і гэта было выразна сказана на прэс-канферэнцыі — будзе адсочваць выбары як працэс. Сярод іншага будуць сустрэчы з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці, прадстаўнікамі СМІ. Будзе нават асобны маніторынг асвятлення выбарчай кампаніі ў сродках масавай інфармацыі. То бок, выбары для БДІПЧ АБСЕ — не дзень галасавання, яны ўключаюць у сябе шмат фактараў.

«Нашая метадалогія працы ўключае ў сябе ўсе дзейсныя для краіны міжнародныя абавязальніцтвы. Пытанне ацэнкі нацыянальнага заканадаўства таксама актуальнае, — як нацыянальнае заканадаўства адпавядае міжнародным абавязальніцтвам. Улічваючы, што Беларусь з'яўляецца сябрам АБСЕ, ёсць пэўныя тэксты дакументаў, якія павінны быць імплементаваныя ў нацыянальнае заканадаўства. Гэта мы таксама будзем адсочваць», — заявіў кіраўнік місіі Жак Фор.

Паабяцалі сябры місіі звярнуць увагу і на магчымы пераслед грамадскіх актывістаў, які здараецца ў час усіх выбараў у Беларусі. Праўда, не ў межах гэтай місіі. Але было падкрэслена, што БДІПЧ АБСЕ створаная не толькі дзеля назірання за выбарамі. У арганізацыі ёсць і іншыя накірункі дзейнасці. Магчымыя арышты актывістаў яны па-за ўвагай не пакінуць.

Пэўна, з такім падыходам да выбараў, — «выбары як працэс», — беларускай уладзе нічога добрага ад назіральнай місіі БДІПЧ АБСЕ чакаць не даводзіцца.

Вынікі дзейнасці місіі мы пабачым не раней, чым выбары скончацца. Папярэдне будзе агучаная прамежкавая справаздача — без высноваў, заключэнняў і каментараў: голыя факты. Заяву аб папярэдніх высновах агучаць на наступны дзень пасля выбараў. А канчатковы даклад з заўвагамі, высновамі і рэкамендацыямі будзе гатовы недзе праз восем тыдняў пасля выбараў.

# Дабрачынцы + Velcom + Аліна Талай = новы будынак дзіцячага хоспісу

Марат ГАРАВЫ




**Каб да канца бягучага года з'явіўся новы будынак дзіцячага хоспісу ў вёсцы Бараўляны, трэба тэрмінова сабраць 400 тысяч долараў. Пра гэта 26 жніўня паведамілі ўдзельнікі прэс-канферэнцыі ў штаб-кватэры кампаніі «Velcom».**

Новы будынак павінен стаць буйнейшай структурай дзіцячай паліятыўнай дапамогі ў Беларусі.

Дзеля таго, каб аблягчыць жыццё хлопчыкаў і дзяўчынак, якія пакутуюць ад невылечных захворванняў, забяспечыць ім прыстойную медычную і псіхалагічную дапамогу, а таксама падтрымаць іх сямейнікаў, у комплексе мяркуецца стварыць усе неабходныя ўмовы для таго, каб дзеці прайшлі спецыяльны курс лячэння, а іхнія бацькі змаглі атрымаць часовую перадышку і троху адпачыць.

Вось чаму ў новым будынку прадугледжаны шэраг асабліасцяў. Напрыклад, у кожнай з 10 палат плошчай 20 квадратных метраў, вокны якіх выходзяць выключна на сонечны бок, будзе пражываць толькі адно дзіця; архітэктары адмовіліся ад калідорнай сістэмы памяшканняў; замест пакояў для гульні будуць гульнявыя зоны; на кожныя дзве палаты прадугледжаны асобны санітарны вузел; для ляжачых пацыентаў запланаваныя спецыяльныя ліфты і столевыя пад'ёмнікі; комплекс будзе забяспечаны ўсім неабходным сучасным медычным абсталяваннем.

Каб сабраць сродкі, апякунская рада грамадскага дабрачыннага аб'яднання «Беларускі дзіцячы хоспіс» арганізавала шэраг тэлемарафонаў, атрымала падтрымку ад дзяржавы і шэрагу прыватных кампаній («А-100» і «Сервалюкс»). Паколькі было сабрана 80 адсоткаў неабходных грошай, апякунская рада звярнулася да кампаніі «Velcom», якая выказала гатоўнасць не толькі фінансава падтрымаць будаўніцтва, але і дзейна дапамагчы ў зборы тых 400 тысяч долараў, якіх нестае для завяршэння ўзвядзення комплексу.

«Velcom» прапанаваў сваім абанентам накіроўваць «смс дапамогі» з хэштэгам #velcombegon ці патэлефанаваць на кароткі нумар 2015, тым самым ахвяраваўшы ў фонд будаўніцтва 10 тысяч рублёў. 26 жніўня пра пачатак прыёму ахвяраванняў заявіла амбасадар дабра кампаніі «Velcom», выбітная беларуская спрынтарка, чэмпіёнка Еўропы Аліна Талай. Свой заклік да беларусаў знакамітая бягуння агучыла праз анлайн-трансляцыю з Пекіна, дзе зараз адбываецца чэмпіянат свету па лёгкай атлетыцы.

Апроч таго, Аліна Талай разам з кампаніяй «Velcom» правядзець 6 верасня ў Мінску каля цэнтральнага ўваходу ў сталічны Парк Перамогі дабрачынны дзіцячы забег #velcombegom на адлегласць ад 50 да 150 метраў, у якім змогуць стартаваць усе жадаючыя хлопчыкі і дзяўчынкі ва ўзросце ад 4 да 12 гадоў. За ўдзел у гэтым забегу кожнага юнага спрынтэра «Velcom» пералічыць 150 тысяч рублёў на будаўніцтва хоспісу. Між іншым, Аліна Талай пазнаёміць дзяцей з элементамі рухомай зарадкі, адмыслова распрацаванай знакамітай бягунняй, а пераможцам забегаў «Velcom» рыхтуе кубкі і медалі. Для рэалізацыі гэтага праекту ў Парку Перамогі 23 жніўня адчынілася мабільная дзіцячая пляцоўка #velcombegom, якая будзе працаваць усе выходныя верасня.

Дырэктар «Беларускага дзіцячага хоспісу» Ганна Гарчакова выказала падзяку ўсім дабрадзеям, хто падтрымаў будаўніцтва новага комплексу для невылечна хворых дзетак, а таксама надзею на тое, што будынак будзе ўзведзены да канца бягучага года.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# У чаканні місіі на Марс

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мяне апаноўвае падвойнае пачуццё — ці то радасці, ці то прыкрасці. З аднаго боку, прыемна, калі тваё прагнозы спраўджваюцца, — значыць, не такі ты ўжо і дурны. З другога — лепш бы такія прагнозы не спраўджваліся ўвогуле.**

НЧ неаднаразова пісаў пра хуткую дэвальвацыю нацыянальнай валюты. Прагноз пра дэвальвацыю спраўдзіўся, але мы меркавалі, што яна будзе больш плаўнай. Насамрэч, інакш як «абвалам» сённяшнюю сітуацыю назваць нельга.

Долар у продажы банкамі пераскочыў чарговы псіхалагічны рубеж у 18 тысяч. Еўра на пакупцы таксама больш за 20,5 тысячы рублёў. Зараз паўсюль адны размовы: «Вы новыя курсы валют бачылі?» Прычым гэта выклікае не здзіўленне, не абурэнне, а нейкія сумныя ўсмешкі. Беларусы ўжо нават не расчароўваюцца і не злуюцца з нагоды абвалу рубля, а проста смяюцца. Прызвычаіліся ўжо, што тут плакаць...

Паводле падлікаў АФН, з пачатку жніўня беларускія ўлады дэвальвавалі нацыянальную валюту на 17%. Зараз мы з удзячнасцю ўзгадваем спадарыню Ермакову з яе ідэяй плаўнай дэвальвацыі — яна за год апусціла рубель толькі на 10%.

Дэвальвацыя ў 17% зараз (а жнівень яшчэ не скончаны) супастаўляльная з 20-працэнтнай дэвальвацыяй 2009 года. Але зараз нешта не бачна «панічных» фотак з крамаў бытавой тэхнікі, як пяць гадоў таму, калі людзі скуплялі лядоўні і тэлевізары — абы патраціць беларускія грошы. Зараз мы бачым толькі чэргі ў абменніках. Значыць, сапраўды прывычаіўся народ. Альбо людзі прыслухаліся ўсё ж да незалежных эканамістаў, якія гэтую дэвальвацыю прадказвалі ці не з таго моманту, як прайшла папярэдняя. І маюць нейкую «падушку бяспекі» ў выглядзе схаваных пад падушкай колькі соцень долараў.

Безумоўна, дэвальвацыю трэба было праводзіць. На фоне падзення валюты ў нашага асноўнага экспарцёра — Расіі, беларускія тавары станавіліся проста не канкурэнтнымі па кошце. Да таго ж, паслабленне «зайца» крыху стрымлівае насельніцтва ад хітраватых схемаў, калі так патрэбная нам валюта перацякала праз мяжу, дзе з-за падзення расійскіх грошай тавары апынаіліся значна таннейшымі.


Безвыходнасць?

Але дзіўна, што ўлада не датрымвала з гэтымі крокамі да прэзідэнцкіх выбараў. Толькі-толькі нам з гонарам адрапартавалі, што рэальны заробак у ліпені перавысіў чэрвеньскі на 1,6% — і тут на табе...

А можа, рэальны заробак яшчэ нават вырасце ў жніўні. Не верыце? А дарма. Справа ў тым, што ён разлічваецца «з улікам росту цэн на спажывецкія тавары і паслугі». Тут улада камандуе цэнам: «Стаяць!». Напрыклад, кіраўніцтва Мінска ўжо з 25 жніўня ўзмацніла кантроль за цэнаўтварэннем і прымяненнем гандлёвых надбавак суб'ектамі гаспадарання сферы гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоўвання. Як паведамляе ўпраўленне гандлю і паслуг Мінгарвыканкама, меры прынятыя «ў мэтах недапушчэння неабгрунтаванага росту цэн і тарыфаў». У выпадку выяўлення парушэнняў парадку цэнаўтварэння да суб'ектаў гаспадарання будуць прымяняцца меры адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Праўда, як заўсёды, не сказана, што рабіць з імпартам, які набываецца не за беларускія рублі і павінен падаражэць. Памятаеце, як у пачатку года намесніца міністра гандлю Ірына Наркевіч замест таматаў прапаноўвала есці агуркі, а Аляксандр Лукашэнка прызнаваўся, што не ўжывае бананаў? Вось тое самае напаткае нас і зараз. Колькі разоў ужо можна паўтараць, што абмежаванне коштаў на імпарт вядзе да збяднення асартыменту тавараў, і ўрэшце прыводзіць да супрацьлеглага выніку: вымыванне валюты з краіны толькі павялічваецца. Бо людзі купляюць валюту і едуць за тым, што ім патрэбна, за мяжу.

З «камандным цэнаўтварэннем» мы наступаем на тыя ж граблі, спадарства.

Але ёсць і добрыя навіны. Расія працягвае падкідваць беларускім прадпрыемствам дробныя бонусы. Услед за знішчэннем харчоў Расспажыўнагляд узяўся за іншыя тавары. Ён распарадзіўся зняць з продажу шэраг імпартных мыйных сродкаў з-за неадпаведнасці патрабаванням бяспекі.

У прыватнасці, узніклі прэтэнзіі да прадукцыі «Henkel»: у пералік патрапілі кандыцыянер для бялізны «Вернэль Вясновая свежасць», пральны парашок «Персіл Эксперт Сэнсэтыў» і мыйны сродак «Пемас дзіцячы». Таксама ў пераліку апынуліся сродак для мыцця посуду «Fairy Platinum» (пастаўляецца Procter&Gamble з Чэхіі), вадкае мыла «Palmolive Натурэль» (Colgate-Palmolive, Турцыя), нямецкі сродак для чысткі і догляду за падлогай «Emsal» (Werner&Mertz GmbH) і шэраг іншых.

Ёсць дзе разгарнуцца пральнаму парашку «Мара» і Гомельскаму тлушчавому камбінату з ягоным «Мылам гаспадарчым 72%»! Галоўнае, шанцы не губляць.

Падзеннем расійскага рубля скарысталіся не толькі кемлівыя грамадзяне. Мінабароны Беларусі падпісала кантракт з «Расабаронэкспартам» на пастаўку ў 2016 годзе 5-ці зенітных ракетных комплексаў «Тор–М2К». Дэталі кантракта не паведамляюцца, але відавочна, што яны абышліся нам танней, чымсьці гэта магло быць, напрыклад, год таму.

З усіх гэтых дэвальвацыяў і ўяўных поспехаў усё больш і больш назіраецца тэндэнцыя размежавання краіны. Грамадзяне Беларусі жывуць у краіне — з усімі яе дэвальвацыямі, падзеннем узроўню жыцця, павелічэннем беспрацоўя і гэтак далей. А вось улады жывуць у дзяржаве. У дзяржаве ўсё добра, яна жыве ў свеце нармальных сацыяльна-эканамічных паказчыкаў, якія малюе Белстат, у «эканамічным цудзе», дзе павялічваецца экспарт і імпарт, і плануецца станоўчы ВУП. І дзе можна будаваць амбітныя планы.

Аж да таго, што дзяржава плануе паляцець на Марс!

Так-так, гэта не жарт. Гендырэктар Касмічнага агенцтва ААЭ Мухамед Насер аль-Ахбабі, які наведаў Мінск, заявіў, што Аб'яднаныя Арабскія Эміраты разглядаюць Беларусь у якасці партнёра ў даследаваннях Марса. «Мы плануем запусціць місію на Марс. Гэта будзе першы падобны запуск у рэгіёне. Мы думаем, што сумесная праца з Беларуссю ў гэтай сферы будзе шматабяцальнай», — сказаў аль-Ахбабі.

Можа б, і сапраўды, зляцела б адсюль тая «дзяржава». Тады б грамадзяне засталіся ў «краіне» без усялякіх падаткаў на вяселле, на беспрацоўе і іншых падобных «падаткаў на паветра». Лягчэй жылося б у краіне...

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Андрэй Дамарацкі

**Намеснік старшыні Мінгарвыканкама ў вачах усяго прагрэсіўнага чалавецтва зараз будзе выглядаць галоўным алкаголікам краіны.**

Па ягоным даручэнні было знятае галоўнае антыалкагольнае дасягненне Мінска — забарона на продаж алкагольных, слабаалкагольных напояў і піва з 22 да 9 гадзінаў.

«Учора ўжо тры раёны — Заводскі, Партызанскі і Першамайскі — адмянілі абмежаванні. Сёння ўсе раёны прадставяць мне такія рашэнні, — каменціруе начальнік упраўлення гандлю і паслуг Мінгарвыканкама Ніна Емяльянава. — Таму з сённяшняга дня ўсе крамы будуць рэалізоўваць алкагольную прадукцыю на працягу ўсяго рэжыму працы». Гэта значыць, калі крама працуе да 23.00 або 2.00, то продаж дазволены да самага закрыцця. Гэта ж тычыцца ранішняй рэалізацыі: з таго моманту, калі гандлёвая кропка адкрываецца, яна мае права прадаваць алкаголь.

Абмежаванне «з 22 да 9» пратрымалася два месяцы і дзесяць дзён. Між тым, адзначаецца, што рашэнне пра зняцце гэтага абмежавання прынята «ў працяг нарады ў кіраўніка дзяржавы па пытаннях вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі».



## Леанід Судаленка

**Гомельскі праваабаронца займеў чарговыя праблемы на мяжы. 25 жніўня Леанід Судаленка вяртаўся з літоўскай сталіцы на радзіму, і яго знялі з цягніка «Вільня–Мінск».**

Прычым, знялі Судаленку аж у Маладзечне. «Мытнікі праверылі — усё нармальна. Падышлі памежнікі для праверкі пашпарту, і тут жа пачалі па рацыі выклікаць галоўнага. Нічога забароненага я не правозіў, прапаноўваў тут жа правесці асабісты дагляд, як яны любяць гэта рабіць, але мне сказалі, што будуць здымаць мяне з цягніка на станцыі ў Маладзечне. Ніякіх прычын не тлумачылі», — паведаміў праваабаронца.

На пункце мытнага дагляду правялі асабісты дагляд Судаленкі, перапісалі ўсе, што было ў яго пры сабе, нічога забароненага не выявілі і адпусцілі са словамі: «Вы свабодныя».

У маі ў яго канфіскавалі ноўтбук. Зараз праваабаронца спрабуе вярнуць тэхніку праз суд. «Прыгоды на мяжы» можна расцэньваць як помсту за тое, што я якраз суджуся зараз з Ашмянскай мытняй», — лічыць Леанід Судаленка.

## Віктар Ганчарэнка

**Беларускі трэнер «Урала» патрапіў у гісторыю, якая моцна ўзняла яго ў вачах заўзятараў. У СМІ з'явілася інфармацыя, што ён прыняў рашэнне пакінуць екацярынбургскую каманду «па ўласным жаданні», прапрацаваўшы там усяго два з паловай месяцы. Нібыта Ганчарэнка сышоў у адказ на прапанову «здаць» гульню грозненскаму «Цераку» ў наступным туры.**



Букмекерскія канторы сапраўды называюць гэты матч падазроным. Каэфіцыент на перамогу «Церака» складае 1,4 да 1, на «Урал» — 5,4, хоць каманды абсалютна роўныя.

Клуб вымушаны быў выступіць з тлумачэннем: Ганчарэнка застаецца галоўным трэнерам «Урала».

«Футбольны клуб «Урал» абураны спробамі некаторых СМІ растлумачыць не пацверджаную інфармацыю аб сыходзе Віктара Ганчарэнкі рознымі фактарамі, якія супярэчаць духу сумленнай гульні. Такія здагадкі лічым паклёпам, скіраваным на тое, каб ачарніць імідж клуба — клуба, які заўсёды спавядаў і будзе вызнаваць прынцыпы FAIR PLAY», — гаворыцца ў заяве ФК «Урал».

«Афіцыйна заяўляем: Віктар Ганчарэнка застаецца галоўным трэнерам «Урала». Просім СМІ надалей устрымацца ад публікацый афіцыйна не пацверджанай клубам інфармацыі і паведамляем, што аб усіх зменах у трэнерскім штабе каманды клуб заўсёды аператыўна паведамляе на сваім афіцыйным сайце і іншых інфармацыйных рэсурсах», — адзначае «Урал».

А ўвогуле, кіраўніцтва клуба «разглядае падобныя інфармацыйныя ўкіды як спробу дэстабілізаваць сітуацыю ўнутры каманды, якая ў штатным рэжыме рыхтуецца да адказнага матчу супраць «Церака».

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Рэванш правага паўшар’я

**Сучасныя дзеці авалодваюць кампутарам раней, чым пачынаюць чытаць, што спрыяе «кліпаваму мысленню».**




Днямі маёй суседкай у аўтобусе апынулася немаладая жанчына. Пачалі размаўляць. Яна, нягледзячы на сталы ўзрост, працягвае працаваць у школе настаўніцай малодшых класаў. 53 гады педагагічнага стажу — гэта сапраўды істотна. Тут ёсць пра што распытаць. На маё галоўнае пытанне пра адрозненні цяперашніх першакласнікаў ад іх аднагодкаў пачатку 60-х гадоў атрымаў чаканы адказ: «Сучасным школьнікам цяжка засяродзіцца на словах настаўніка».

Чаму такі адказ быў для мяне чаканы, я і паспрабую растлумачыць у гэтай «Азбуцы паліталогіі».

### «Вось гэта заб’е тое»

Адкрыем Евангелле ад Яна і прачытаем першы радок: «Напачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Бог».

Першы пераклад гэтага радка на славянскую мову ажыццявілі Кірыл і Мяфодзій. Менавіта яны паняццем «Слова» перавodзілі грэчаскі «Логас». Далей пад «Логасам» мелі на ўвазе і закон сусветнага развіцця, і нейкую Вышэйшую Сілу, што кіруе сусветам. Пазней, у працах хрысціянскіх мысляроў, сам «Логас» атаясамліваўся з Сынам Бога, Ісусам Хрыстом.

Сучасны чалавек — прадукт логацэнтрычнай культурнай сістэмы. Яна сцвердзілася ў I тысячагоддзі да н.э., і цэнтральным яе элементам з’яўлялася слова. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што мы думаем словамі.

Уся кніжна-пісьмовая культура — гэта логацэнтрызм. Але і імкненне чалавека да праўды таксама з’яўляецца тыповай праявай логацэнтрызму, як і звычка ўсталёўваць нормы і выбудоўваць іерархіі.

З «дзяцей прыроды», якія жывуць дзе-небудзь у джунглях Амазонкі або пустынях Аўстраліі, аўтарытарную дзяржаву не пабудаваць (маем на ўвазе, зразумела, уяўны эксперымент). А з «чалавека савецкага», які складае аснову беларускай «большасці», такая дзяржава атрымліваецца як бы сама сабой. Ні «рукі Крамля», ні іншых таямнічых «рук» для гэтага не трэба, бо логацэнтрык не можа жыць па-за жорсткай іерархічнай структурай.

У рамане Віктора Гюго «Сабор парыжскай Божай Маці» ёсць раздзел «Вось гэта заб’е тое». Што такое «гэта», якое выступае ў ролі забойцы? І што такое «тое», над чым навісла смяротная пагроза? Звернемся да тэксту рамана: «Гэта быў страх духоўнай асобы перад новай сілай — кнігадрукаваннем. Гэта быў жах і здзіўленне служыцеля алтара перад друкарскім станком Гутэнберга, што выпраменьвае святло. Царкоўная кафедра і манускрыпт, вуснае слова і слова рукапісное білі трывогу ў роспачы перад словам друкаваным... <...> Гэта азначала, што новая сіла зменіць старую сілу; іншымі словамі — друкарскі станок заб’е царкву».

Апасенні літаратурнага персанажа (святара) былі недарэмнымі. Друкарскі станок зрабіў даступнай адукацыю не толькі для абраных, што дазволіла паставіць «вытворчасць» адукаваных людзей на паток. Адукаваных — а значыць, тых, хто рацыянальна думае, хто не прымае нічога на веру.

Пры дасягненні крытычнай масы «чалавека рацыянальнага» сярэднявечная Еўропа рашуча ступіла ў Новы час. Гістарычную статыку змяніла дынаміка. Перамены ў эканоміцы, палітыцы ў сацыяльнай сферы пасыпаліся як з рога дастатку. Логацэнтрызм атрымаў другое дыханне. Гэта ў пачатку Слова было ў Бога, і ён валодаў ім на правах манапаліста. Але пасля вынаходніцтва друкарскага станка патэнт на права карыстацца словам атрымалі тысячы адукаваных людзей: палітыкаў, пісьменнікаў, журналістаў.

### Шмат літар

«Усё мінае, пройдзе і гэта», — сказана ў кнізе Эклезіяста. Размова з настаўніцай у аўтобусе пацвердзіла слушнасць старазапаветнай мудрасці. Сучасным вучням цяжка засяродзіцца на словах. «Гэта» ў чарговы раз забівае «тое». Забівае на чарговым вітку развіцця. Учарашні забойца сам стаў ахвярай. Прыйшла яго чарга. Экран (тэлевізара, кампутара, смартфона) забівае друкарскі станок.

Не выключана, што ўсплёск цікавасці да друкаванага слова ў гады перабудовы варта разглядаць у якасці яго лебядзінай песні. Дваццаць гадоў таму, паводле дадзеных НІСЭПД, толькі 2% беларусаў не чыталі газет (гл. табліцу). У сакавіку 2012 года колькасць «нечытачоў» складала чвэрць ад дарослага насельніцтва. І гэта пры тым, што 58% рэспандэнтаў скарацілі колькасць газет і часопісаў, якія яны выпісваюць, у параўнанні з 1991 годам, у той час як павялічылі — толькі 5%.

Калі верыць адзінаму палітыку, «мы ліміт рэвалюцый вычарпалі ў мінулым стагоддзі». Сцвярджэнне спрэчнае. Але ў тым, што мы жывем у эпоху экраннай рэвалюцыі, сумнявацца не даводзіцца.

Экранная рэвалюцыя, паводле культуролага Андрэя Пеліпенкі, «выступае адным з планаў выяўлення захаду і распаду логацэнтрычнай культурнай парадыгмы, г.зн. глабальнага культурна-гістарычнага этапу ў чалавечай гісторыі». Яе феномен не варта зводзіць да інфармацыйных тэхналогій. Гаворка ідзе пра феномен агульнакультурны. Феномен, што мяняе не толькі ўмовы жыцця чалавека, але і самога чалавека.

На нашых вачах нараджаецца новы культурна-гістарычны суб’ект. Тэкст ён не ўспрымае — шмат літар, разбірацца з якімі няма ні часу, ні жадання.

### «Людзі Слова» супраць «людзей Лічбы»

Не ведаю, пашанцавала мне і маім сучаснікам, або ўсе мы з’яўляемся таварышамі па няшчасці, але на нашых вачах завяршаецца чарговы этап у псіхафізіялагічнай эвалюцыі чалавека.

Для далейшага прасоўвання наперад мне спатрэбіцца звярнуцца да паняцця «міжпаўшарная асіметрыя». Спадзяюся, большасці чытачоў вядома, што з левым і правым паўшар’ямі ў чалавека звязаны два тыпы мыслення — абстрактна-лагічнае і прасторава-вобразнае адпаведна. Левае паўшар’е мозгу адказвае за моўныя здольнасці. Яно кантралюе мову, здольнасць да чытання і пісьма, запамінанне фактаў, датаў, іменаў і іх напісанне. Правае паўшар’е спецыялізуецца на апрацоўцы інфармацыі, якая выяўляецца не ў словах, а ў сімвалах і вобразах.

Адно з паўшар’яў, як правіла, з’яўляецца дамінуючым. Якое? Прапаную эксперымент. Усё, што трэба, — гэта адкласці газету ўбок і пляснуць у ладкі. Пляскалі? Калі зверху апынулася правая рука, то гэта дакладная прыкмета дамінавання левага паўшар’я, калі левая рука — правага паўшар’я.

Чалавек атрымаў у спадчыну ад прыроды дамінаванне правага паўшар’я. Таму для пераходу ад першабытнага стану да стану цывілізаванага (г.зн. да логацэнтрычнай культуры), спатрэбілася змяніць дамінантнае паўшар’е. Канчатковы рэвалюцыйны скачак быў здзейснены ў Заходняй Еўропе ў эпоху Рэнесансу і Рэфармацыі. У новаеўрапейскай цывілізацыі прынцып дамінавання левага паўшар’я дасягнуў свайго апагею.

Але сёння мы назіраем рэванш правага паўшар’я. На змену «людзям Слова» прыходзяць «людзі Лічбы», носьбіты так званай «кліпавай свядомасці». Сучаснае дзіця авалодвае кампутарам раней, чым вучыцца чытаць. У выніку такой ракіроўкі фармуецца свет, у якім спачатку было не Слова, а Малюнак (сімвал, вобраз).

Свет, пабудаваны з выпадковым чынам падабраных малюнкаў — гэта свет, пазбаўлены маральных, інтэлектуальных і іншых аўтарытэтаў. Апошні піск моды ў свеце кліпавай свядомасці — Instagram.

Рэгіструйцеся і калекцыянуйце лайкі. Калі ваша актыўнасць у сеціве не атрымлівае належнай увагі, не адчайвайцеся. У два клікі інтэрнэт дапаможа вам пазнаёміцца з тэхналогіямі паднясця асабістага рэйтынгу шляхам накруткі лайкаў.

«Пустая марнасць — усё марнасць». Тут я зноў звярнуўся да цытавання кнігі Эклезіяста. Але як прыемна мітусіцца, расстаўляючы і атрымліваючы лайкі!

### Падводзіць баланс яшчэ рана

Загніванне капіталізму — любімая тэма савецкіх прапагандыстаў. І яны мелі рацыю. Капіталізм у яго заходнім варыянце пачаў загніваць. Аднак механізм загнівання апынуўся прынцыпова іншы. У «агульнага крызісу капіталізму» нечакана выявіўся антрапалагічны складнік, што праявіўся ў фарміраванні новага тыпу культурнага суб’екта.

У адрозненне ад свайго папярэдніка (логацэнтрыка) прадстаўнік новай натуральнасці не гатовы ахвяраваць чым-небудзь істотным дзеля ісціны. У палітыцы гэта праяўляецца ў адсутнасці пасіянарнасці. Немагчыма сёння ўявіць фанатыкаў, якія ваююць пад сцягам Еўрасаюза, але сабраць фанатыкаў пад зялёным ісламскім сцягам зусім не складана.

У цэлым жа падвесці баланс плюсаў і мінусаў ад рэваншу правага паўшар’я не так і проста. Мы ўжо адзначалі схільнасць логацэнтрыка да іерархіі. Таму яго сыход з гістарычнай арэны створыць масу праблем для аматараў выбудоўваць «вертыкалі» ўлады.

Не ведаю, ці будзе пакаленне цяперашніх першакласнікаў жыць пры камунізме, але жыццё пры аўтарытарызме (а тым больш за пры неататалітарызме) ім не пагражае. І яшчэ адна істотная дэталь: правае паўшар’е адказвае за творчасць. А гэта якраз тое, чаго не хапае сёння большасці з нас.

**ЯКІМ ЧЫНАМ ВЫ ЗВЫЧАЙНА АТРЫМЛІВАЕЦЕ ГАЗЕТЫ?**

| Варыянт адказу | 04’92 | 03’12 |
|---|---|---|
| Падпісваюся | 86 | 31 |
| Купляю ў кіёсках «Саюздруку» | 8 | 33 |
| Купляю на вуліцах, у падземных пераходах, на мітынгах | 1 | 5 |
| Бяру пачытаць у бібліятэцы, у знаёмых | 4 | 8 |
| Не чытаю газет | 2 | 25 |

# Мікола Статкевіч: Марына — гэта шчасце, якое мне выпала

Аксана КОЛБ

**Скажу шчыра, патэлефанаваць Марыне і Міколу я наважылася не адразу. Было неяк няёмка квапіцца на іх час — шчаслівы час нарэшце разам. Але прафесія перамагла. Мы сустрэліся, каб пагутарыць, аднак не пра палітыку і планы Статкевіча на волі. А пра іх жыццё адзін без аднаго, пра пачуцці, пра шчасце.**



А шчасце было паўсюль: у іх вачах, словах, у тым, як яны трымалі адзін аднаго за рукі. Ні на хвіліну не адпускаючы, нібыта, калі адпусціць руку, гэты цуд скончыцца. Тым, хто не перажыў таго, што зведалі Марына Адамовіч і Мікалай Статкевіч, амаль немагчыма зразумець, праз што яны прайшлі.

***— Марына, што вы адчулі, калі даведаліся, што Міколу выпусцілі?***

***Марына Адамовіч:*** Быў такі цудоўны ціхі вечар у вельмі прыгожым месцы на Ушацкіх азёрах. Я другі раз за пяць гадоў з'ехала за горад адпачыць. І раптам званок журналістаў з Прагі: «Гэта праўда, што Міколу адпусцілі?» Я проста адразу з'ехала на лаву, рукі затрэсліся. Я чакала гэтага кожны дзень, але калі гэта прыйшло, атрымалася зусім нечакана. А потым я ўжо нічога не ўсведамляла, бо пачаўся шквал званкоў. Але я чакала, што патэлефануе Мікола. Сказала, што пакуль ён не патэлефануе, нічога каментаваць не буду. Яшчэ вырашыла падыйсці да крынічкі. І вось якраз ля гэтай крынічкі, патэлефанаваў Мікола. Калі я пачула яго голас... Гэта ўжо былі проста радасць, проста шчасце. На вачах з'явіліся слёзы, слёзы шчасця... Я сказала яму, што я даеду, што паспею, што абавязкова яго сустрэну.

***Мікалай Статкевіч:*** Нават калі мне сказалі збірацца з рэчамі, я падумаў: калі адпускаюць, то вельмі не своечасова. Бо я не хацеў, каб легітымізавалі гэтыя выбары. Таму я еду ў аўтобусе і думаю, што нам рабіць. Я столькі прайшоў, столькі вытрымаў, каб Беларусь была нармальнай... Я адчуваў, што зараз мяне выкарыстоўваюць. І з аднаго боку, добра, што я ўбачу Марыну, родных... А з другога — што рабіць: мяне прадалі, як патрыманы аўтамабіль, і гэта будзе супраць усяго таго, што я хацеў. Гэтыя думкі сапсавалі мне радасць ад таго, што мяне выпусцілі. Але гэта дваістасць адразу знікла, калі я выйшаў на вакзале, амаль выскачыў у незвычайную энергетыку людзей, што мяне сустракалі.

***— Марына, было страшна, што гэта будзе няпраўда, што Міколу на самай справе не выпусцяць?***

***М.А.:*** Канешне, было страшна. Але я за гэтыя гады прывучылася да таго, каб не даць нікому на сябе ціснуць. Таму была гатова, што гэта можа быць няпраўдай. Што гэта можа быць такі здзек: даць надзею, а потым адабраць...

***М.С.:*** У мяне таксама былі думкі, што я зараз дацягну гэтыя ўсе рэчы, а мне скажуць, што пераводзяць у іншую камеру. Я, шчыра кажучы, думаў так: гэты правядзе выбары па сваім сцэнары, а потым ужо скарыстае мяне, калі прыедзе чарговая місія МВФ. Бо мне так і не далі распісацца за адмову ад амністыі. Кожнаму даюць распісацца, хто не падпадае пад амністыю. А мне праз тры месяцы так і не далі. Але, мабыць, я недаацаніў усю складанасць эканамічнай сітуацыі.

Таму, шчыра кажучы, не выключаў, але не чакаў, што мяне цяпер адпусцяць.

***— За гэтыя амаль пяць гадоў у вас былі моманты адчаю?***

***М.А.:*** Канешне былі. Чаго ўжо там хаваць. Але адзін раз сабе сказаўшы, што дзеля гэтага мужчыны я не дазволю сабе зламацца і не дам нікому дачакацца маіх слёз, знаходзіш сілы пераадолець адчай.

***— Акрамя вашага кахання, што яшчэ дапамагала не зламацца?***

***М.А.:*** Мікола часта кажа, што ўсё ў сабе. Дык вось, гэта ўсё ў сабе і дапамагала. Гэта першае. А другое, тое, што мы, родныя зняволеных за Плошчу, амаль адразу пазнаёміліся і аб'ядналіся. На прыступках таго самага СІЗА КДБ. Яны зрабілі каласальную памылку, яны далі нам аб'яднацца. І гэта дазволіла нам перажыць разам самыя цяжкія першыя месяцы.

***М.С.:*** Я лічу, што Марыне было складаней. Мне было прасце, бо я мужчына, я ў байцы... Але самы вялікі страх быў — страх, які я хаваў, — за яе. Марына для мяне — чалавек вельмі важны, акрамя таго, што я яе кахаю, што мы шчаслівы разам, мы яшчэ адной крыві. Мы аднолькава глядзім на гэты свет. У нас аднолькавая сістэма каштоўнасцяў. Таму я вельмі баяўся за яе, за тое, што з ёй можа штосьці здарыцца.

Быў адзін момант, калі адвакатка сказала, што Марыну выклікаюць на допыт. Я папрасіў адвакатку, каб пасля Марына мне неяк паведаміла, што выйшла. І, мабыць, адвакатка забылася ёй гэта перадаць. Я некалькі дзён не меў звестак ад Марыны, не ведаў, ці яна на волі. Таму прыгразіў, што перайду на сухую галадоўку, калі не будзе звестак ад маёй жонкі. Не ведаю, ці гэта паўплывала, але ад Марыны прыйшла вестка.

А маральна асабіста мне было вельмі лёгка, бо я ведаў, на што іду. Цяжарам былі толькі думкі пра тое, што там з Марынай, каб з ёй нічога не здарылася. Таму што былі, напрыклад, і спробы фабрыкаваць супраць яе крымінальную справу. У калоніі гэта робіцца вельмі проста. Некалькі зэкаў даюць паказанні пра склад нейкага злачынства супраць сваякоў, і далей усё закручваецца.

Таксама я вельмі спужаўся, калі Марына з адвакатам трапілі ў аварыю. Я лічу, што гэта была спроба забойства. Гэта было перад самітам у Рызе, і калі б у іх атрымалася, мяне б спрабавалі прымусіць напісаць прашэнне пра памілаванне, каб, прабач Марыначка, трапіць на пахаванне.

***— Вось Мікола сказаў, чаго ён баяўся. А чаго баялася Марына Адамовіч?***

***М.А.:*** А я вось і зараз не скажу. Я ніколі не агучваю ў космас свае страхі. Бо я веру, што агучанае можа здарыцца. Таму — нічога я не баюся. На самай справе, ёсць рэчы, якіх я баюся, але я ніколі пра іх не скажу.

***— Вы абодва прайшлі шмат праз што. І пасля гэтага, цяпер, калі вы разам, ці засталося нешта, што вы не маглі б адзін аднаму дараваць?***

***М.С.:*** Мы дастаткова ведаем адзін аднаго. Безумоўна, ёсць рэчы, якія немагчыма дараваць. Але гэта не пра Марыну. Тыя рэчы, якія нельга дараваць, Марына проста не здольная зрабіць.

***М.А.:*** Я ўжо некалі камусьці з журналістаў казала, што ў гэтым чалавеку абсалютна ўпэўнена. Я заўсёды ведала, што гэта мой мужчына. І ён ніколі не зробіць чагосьці такога, чаго я не змагу яму прабачыць. А ўсё астатняе — дробязі.

***— Марына, чым вы жылі ўвесь гэты час без Міколы? Мінулым — цёплымі ўспамінамі? Ці будучыняй — прыгожымі летуценнямі?***

***М.А.:*** Не-не. Я жыла якраз «сёння». Па-першае, таму, што ты разумееш: тваё «сёння» недзе там, за кратамі, і ты мусіш штодня нешта рабіць, каб тваё «заўтра» было іншым. І менавіта ў дзень сённяшні скіраваныя ўсе твае высілкі. Ты сёння мусіш падтрымаць тых, хто ў такім жа становішчы, як і ты. Ты сёння мусіш рабіць штосьці, каб хоць неяк наблізіць момант вызвалення. Так што я не дазваляла сабе ні ва ўчора сыходзіць (магчыма, толькі ў хвіліны слабасці), ні летуценнічаць. І наогул, у мяне ніколі не было адчування, што ён недзе далёка. Ён заўсёды быў разам са мной...

***М.С.:*** Абсалютна тое ж самае было адчуванне. Пачуцця самоты абсалютна не было.

***М.А.:*** Я з ім размаўляла ўвесь час у думках, у лістах. Бывае, пішаш яму ліст, а заўтра прыходзіць ліст ад яго з адказам на тое пытанне, якое ты ставіла.

***М.С.:*** Ёсць рэчы, у якія, здаецца, немагчыма паверыць. Але яны існуюць. Я чытаў некалі пра эксперыменты з перадачай вобразаў праз вялікія адлегласці з удзелам людзей. А яшчэ пра вопыты на смаўжах. Сфармаваную пару смаўжоў развозілі па розных баках акіяну, і калі на адным беразе калолі смаўжа, і ён сціскаўся, на супрацьлеглым беразе смоўж таксама сціскаўся. І мы — як тыя смаўжы. Шмат разоў было, калі ў мяне здаралася нейкая канфліктная ці крытычная сітуацыя, а потым прыязджаў адвакат, і ў яго ў нататніку я бачыў пытанне ад Марыны: «Што з табой было ў такі-та дзень раніцай? Мяне насіла страшэнна». Гэта было не адзін і не два разы. Я нават напісаў Марыне пра гэтых смаўжоў. А ў нас была такая маёрша-цэнзарша, якая не разумела беларускай мовы, і яна напісала: «Если еще раз циничные выражения типа «смаўжа» будут использоваться, ваше письмо будет конфисковано».

***М.А.:*** Калі ў яго была траўма на лесапілцы, мяне проста раніцай падкінула на ложку. Я не магла зразумець, што адбываецца. А потым праз некалькі дзён даведалася пра яго траўму.

***— Мікола, не было пачуцця віны, што твая каханая праз цябе вымушана столькі цярпець?***

***М.С.:*** Безумоўна, такое пачуццё было. Але, з другога боку, яна ведала, які я. Як кажуць, бачылі вочкі, што ручкі бралі. Магчыма, каб я быў іншым, ёй быў бы і не патрэбны. Такога яна, мабыць, хацела, такога і знайшла. Затое ў яе не было іншага кшталту хваляванняў: яна дакладна ведала, дзе я і з кім (смяецца).

***— Марына, а ніколі не было жадання ўсё кінуць? Бо такая прыгожая жанчына лёгка знайшла б сабе другога мужчыну і жыла б без усіх гэтых праблем і пакут.***

***М.А.:*** Нават думка такая мне ў галаву ніколі не прыходзіла...

***М.С.:*** Я, дарэчы, часам казаў, што ў яе заўсёды ёсць такая магчымасць: сысці. Што я гэта зразумею. І яна тады вельмі крыўдзілася і злавалася.

***— Я так разумею, пакуль Мікола быў за кратамі, была адна мара — яго пабачыць. А зараз пра што вы марыце?***

***М.А.:*** Толькі пра гэта. (Марына паказвае на сплеценыя разам іх рукі). Каб ён заўсёды быў са мной.

***М.С.:*** Я яшчэ хачу сказаць, што вельмі ўдзячны Марыне за тое, што яна ўвесь гэты час яшчэ і даглядала майго бацьку. Кожны дзень яму тэлефанавала, ездзіла да яго, хаця ў яго даволі складаны характар. І тое, што бацька мяне дачакаўся, гэты і заслуга Марыначкі.

А наогул, гэта вялікая раскоша для мужчыны — жыць не проста з прыгожай жанчынай, але з чалавекам, які з табой, што называецца, з аднаго сусвету, з якім табе заўсёды цікава, час пабач з якім ляціць вельмі хутка. І гэта шчасце, якое мне выпала. Гэта мара збылася...

Сяргей ПУЛЬША

# Анатоль Лябедзька: Усё толькі пачынаецца

**Аб'яднаная грамадзянская партыя, падаецца, не толькі не збянтэжаная, але нават і задаволеная, што яе лідара Анатоля Лябедзьку не ўдалося вылучыць кандыдатам у прэзідэнты. Маўляў, мы збіраліся скарыстаць гэтую кампанію — і скарысталі.**

Было агучана, колькі подпісаў сабрана ў падтрымку вылучэння лідара АГП Анатоля Лябедзькі кандыдатам на прэзідэнта. Лічба апынулася сціплай — 52 158 подпісаў. Гэта падлічаныя на 24 жніўня, прычым дадзеныя яшчэ працягвалі паступаць. Кіраўнік выбарчага штабу Лябедзькі Віктар Карняенка адзначыў, што за гэтыя подпісы нікому грошы не плаціліся, яны сабраныя выключна на валанцёрскім падмурку, а таму ні ў каго не было стымулу, каб нешта «дамалёўваць» ці прыпісаць. Усе подпісы знаходзяцца ў офісе АГП, і цікаўныя маглі іх памацаць і пабачыць.

Карняенка таксама распавёў і пра хібы гэтай прэзідэнцкай кампаніі, якія не дазволілі сабраць сто тысяч за Лябедзьку. Найперш, адзначыў ён, у адрозненне ад усіх мінулых кампаній, вельмі дрэнна спрацаваў звыклы абыход кватэраў «ад дзвярэй да дзвярэй». «Людзі фактычна адсутнічаюць у сваіх кватэрах, бо адпачынкі і гэтак далей. Зборшчыкі подпісаў, якія на папярэдніх кампаніях такім чынам збіралі 30–50 аўтографаў за вечар, зараз абмяжоўваліся лічбай у 10–12», — адзначыў Карняенка.

Другі момант, які не спрацаваў, — гэта збор подпісаў на прахадных прадпрыемстваў, на якія вельмі спадзявалася група Лябедзькі. «Мы думалі, што народ, якому пагражае беспрацоўе, будзе больш актыўны. Але людзі, патупіўшы вочы, праходзілі міма», — зазначыў ён.

Добры вынік дала праца з індывідуальнымі прадпрымальнікамі. Гэта зразумела, бо яны — мэтавая група Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Яшчэ адна памылка — АГП не вельмі актыўна збірала подпісы ў малых гарадах. А там, па словах Карняенкі, найбольшая колькасць незадаволеных дзеючай уладай. «Я асабіста быў у Стоўбцах, Дзяржынску, Бярэзіне... Нянавісці ў людзей да існуючай улады там больш, чым у буйных гарадах ці сталіцы. Людзі там пакінутыя сам-насам, задаволеныя заробкам у два мільёны, і казкі пра пяцьсот ці тысячу долараў заробку іх вельмі раздражняюць», — кажа ён.

Карацей, партыя ўжо прааналізавала хібы ў гэтай кампаніі. Таму Анатолю Лябедзьку давялося асабліва шчыра дзякаваць тым, хто прайшоў з ім гэты этап збору подпісаў. «Людзі, якія гэта рабілі, паказалі проста цуд, — зазначыў Лябедзька. — Шчыра скажу, калі ў нас у партыі была дыскусія, ці плаціць за подпісы грошы, я быў прыхільнікам фінансавага падыходу. Зараз я прызнаю сваю памылку. Я не чакаў, каб людзі пасля працы беглі ў пікеты, бралі адпачынкі, каб збіраць подпісы, не атрымліваючы за гэта нічога, апроч «пікетнага загару»... Нават калі стала зразумела, што ў нас дынаміка не тая, — гэта не спыніла людзей. Я думаю, зараз ніводная структура не валодае такой сеткай валанцёраў, якія гатовыя за ідэю, па іх перакананнях, нешта рабіць».



Анатоль Лябедзька і ягоная каманда зусім не выглядаюць расчараванымі зборам подпісаў

Што тычыцца нязбору неабходных ста тысяч, то Лябедзька нагадаў тры асноўныя задачы, якія вызначыла перад сабой АГП у гэтай кампаніі і якія зафіксаваныя ў дакументах партыі. «Першая: сабраць доказы, што ў Беларусі няма свабодных і сумленных выбараў, і такім чынам не дапусціць легітымацыі вынікаў выбарчай кампаніі. Другая: як мага больш шырока прарэкламаваць нашу пазітыўную альтэрнатыву, праграму «Мільён новых працоўных месцаў». Трэцяе: павялічыць колькасць удзельнікаў палітычнага працэсу», — агучыў ён. Нагадаў палітык і пра красавіцкае рашэнне Палітрады АГП, якая зацвярджала ўдзел у выбарах прэтэндэнта ад АГП з актыўным байкотам выбараў на апошнім этапе перадвыбарчай кампаніі.

Так што Лябедзька перад галасаваннем усё роўна мусіў зняцца. І адзінае, што партыя страціла з-за несабраных подпісаў, — гэта эфірны час для кандыдата ў прэзідэнты на радыё і тэлебачанні, і публікацыю праграмы ў дзяржаўных газетах. Але што да стасункаў з выбаршчыкамі — гэта ўсё адбылося.

«Таму мы абвяргаем такія фармулёўкі, як «сышлі з дыстанцыі», «скончылі ўдзел у выбарах». Пра якую дыстанцыю, пра якія выбары можа ісці размова ў Беларусі? Для нас гэта ад самага пачатку была палітычная кампанія, і ні я, ні мая каманда не сыходзім з гэтай палітычнай кампаніі», — заявіў Лябедзька. І адразу ж агучыў планы на будучыню.

«Як толькі скончыцца «час цішыні», мы пойдзем да людзей, мы выйдзем з пікетамі і будзем збіраць подпісы ў падтрымку праграмы «Мільён новых працоўных месцаў». І мы будзем збіраць подпісы за адстаўку ўрада і спадарыні Ярмошынай як сімвала ўсяго гэтага глупства, «лахатрону», які ёсць сёння ў Беларусі. Мы нікуды не сыходзім, мы застаемся з нашым выбаршчыкам, і будзем актыўна працаваць на гэтай заключнай фазе кампаніі. І, канешне ж, калі мы кажам пра крызіс гэтай мадэлі ўлады, трэба, каб людзі гэта пацвердзілі. Самы лепшы вынік — гэта пустыя выбарчыя ўчасткі. Толькі гэта можа прымусіць уладу памяняць правілы гульні перад парламенцкай кампаніяй. І мы на гэта нацэльваемся і на гэта будзем працаваць», — заявіў Лябедзька.

Але што значыць збор подпісаў пад праграмай «Мільён новых працоўных месцаў»? Куды яны потым пойдуць, як будуць скарыстаныя? І ці не паўтораць гэтыя подпісы лёс подпісаў пад «Народным рэферэндумам», калі сабраныя ў падтрымку гэтай ініцыятывы аўтографы грамадзян бясследна згінулі недзе ў мурах будынку парламента?

Не згінуць, кажа Лябедзька, таму што ніхто ў «чорную дзірку» парламента гэтыя подпісы не панясе. Яны будуць скарыстаныя прыкладна так, як зараз подпісы за «НР» скарыстала Тацяна Караткевіч. Менавіта «рэферэндумныя» подпісы склалі аснову яе ста тысяч у прэзідэнцкай кампаніі, чаго яе каманда і не хавала.

«Фінансава-эканамічныя праблемы будуць толькі нарастаць, і на праграму «Мільён новых працоўных месцаў» попыт будзе толькі ўзрастаць. Тыя МАЗаўцы, ці людзі з трактарнага заводу, якія праходзілі міма нашых пікетаў і не ставілі подпісы, будуць шукаць нас: «Дзе тыя людзі з іх праграмай «Мільён новых працоўных месцаў»? Сябры партыі ўжо пачалі апрацоўку сабраных намі зараз подпісаў у прывязцы да выбарчых акругаў на парламенцкую кампанію наступнага года», — сказаў Лябедзька.

То бок, шляхам подпісаў пад «пазітыўнай альтэрнатывай» АГП хоча і стварыць базу дэмакратычна настроеных грамадзянаў па парламенцкіх акругах, вызначыць сваіх сімпатызантаў, прыцягнуць іх да грамадскай дзейнасці і (чым чорт не жартуе) нават узмацніць свае шэрагі. Прынамсі, па словах Лябедзькі, збор подпісаў у гэтую прэзідэнцкую кампанію быў настолькі ўдалы, што ў некаторых рэгіёнах АГП нават можа ўзнавіць працу сваіх суполак, — адпаведныя актыўныя людзі знайшліся.

Карацей, ад гэтага часу АГП займаецца не толькі прапановай «актыўнага байкоту» прэзідэнцкіх выбараў, але, можна сказаць, што і пачынае парламенцкую кампанію. І, можа быць, яна пачнецца нават раней, чым скончыцца «час цішыні», — то бок час, адведзены на праверку подпісаў і рэгістрацыю кандыдатаў у прэзідэнты. Па словах Лябедзькі, ён працягне вандраваць па рэгіёнах сінявокай, бо ёсць рэгіёны, да якіх ён у час збору подпісаў з-за недахопу часу не даехаў, але вельмі хацеў бы туды патрапіць.

# TV

## 31 ЖНІЎНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Клуб рэдактараў.
**10.45** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**11.45** Камедыйная меладрама «Кахаю, бо кахаю» (Украіна).
**12.00** Навіны.
**12.10** Камедыйная меладрама «Кахаю, бо кахаю» (Украіна).
**13.40** Меладрама «Шчаслівы шанец» (Расія). 1-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Меладрама «Шчаслівы шанец» (Расія). 2-я серыя.
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Арэна.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.15** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.35** Навіны.
**23.50** Дзень спорту.
**00.05** Меладрама «З чыстага ліста» (Расія).

### НТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жыць здарова!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.55** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Серыял «Алмазы на дэсерт».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Вучыцца жыць».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Зваротны адлік.
**18.55** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Справа прынцыпу.
**22.15** Мастацкі фільм «Траса 60».



**00.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.25** «Таямніцы нашай планеты».
**10.20** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 9». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Дарагая перадача».
**15.10** Чыстая праца.
**15.50** Зямля. У пошуках стваральніка.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Вялікі горад».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «За гарызонтам часу».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Ваенная таямніца».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Тыдзень спорту.
**23.30** «Успаміны няўдачніка».
**01.25** «Іншапланецяне таксама людзі».

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Арол і рэшка.
**10.35** Тэлебарометр.
**11.05** Анімацыя для ўсёй сям'і.
**12.05** Азбука густу.
**12.40** Тэлесерыял «Сышчык без ліцэнзіі».
**13.50** Мастацкі фільм «Піцер - Масква».
**17.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сышчык без ліцэнзіі» (Расія). 1-я серыя.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** КЕНА.
**21.45** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.40** Рэпарцёр.
**23.25** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.15** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Зямля Саннікава». Прыгодніцкі фільм (СССР, 1972 г.).
**09.30** «Майстэрня на набярэжнай». Дакументальны фільм пра вядомага падарожніка Фёдара Конюхава.
**10.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**10.55** «Наперад у мінулае».
**11.20** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**11.50** «Любоў і жыццё маё..». Дакументальны фільм пра кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча.
**12.25** «Калейдаскоп».
**12.35** «Наш чалавек у Гаване». Крымінальная камедыя (Вялікабрытанія, 1959 г.).
**14.20** «АРТиШОК». Мастачка Надзея Бука.
**14.45** «Валерый Чкалаў». Кінааповесць (СССР, 1941 г.).
**16.25** «Набіраючы вышыню». Дакументальны фільм.
**16.55** «Калейдаскоп».
**17.05** «Данская аповесць». Драма (СССР, 1964 г.).
**18.35** «Святая Рыма». Дакументальны фільм.
**19.15** «У агні броду няма». Ваенная драма (СССР, 1967 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**21.35** «Звон адыходзячага лета». Кінааповесць. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**23.40** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**00.10** «Бард-легенда: Юлій Кім».
**01.00** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.15** Спорт-мікс.
**07.30** PRO спорт. Навіны.
**07.50** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**10.10** Хакей. Ліга чэмпіёнаў.
**12.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі.
**13.50** Гандобл.
**15.20** Хакей. КХЛ.
**17.10** Час футболу.
**17.55** Футбол. Чэмпіянат Беларусі.
**22.00** Футбол. Чэмпіянат Англіі.
**23.00** Еўрапейскі покерны тур.
**23.05** PRO спорт. Навіны.

### Белсат

**07.00** Каханне ля поплаву, тэлесерыял.
**07.50** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**08.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.05** Рамін, д/ф.
**10.05** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Нацыянальнае адраджэнне 2-ой пал. XIX ст.: ч. 1.
**10.20** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Устаўныя граматы і абвяшчэнне БНР.
**10.35** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Глускага замку.
**10.50** Мова нанова: Кватэра.
**11.10** Беларусы ў Польшчы.
**11.25** Бывайце, дзеці.., м/ф.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**16.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.10** Дэмакратыя. Год нулявы, д/ф.
**18.05** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Анатоль Лябедзька.
**18.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**18.40** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Нацыянальнае адраджэнне2-ой пал. XIX – пач. XX ст.: ч. 2.
**18.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валерый Урублеўскі.
**19.05** Праз прыцэл і аб'ектыў, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** 54 % (публіцыстычная праграма).
**21.45** Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні, д/ф.
**23.25** Бывайце, дзеці.., м/ф.
**01.10** Студыя «Белсат».

## 1 ВЕРАСНЯ, АЎТОРАК

### 1 Беларусь

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Меладраматычны серыял «Дзявочае паляванне» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Выходжу цябе шукаць 2» (Расія).
**16.35** «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.10** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Дэтэктыў «Выходжу цябе шукаць 2» (Расія).

### НТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** «Час пакажа».
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тэлесерыял «Шулер».
**23.05** Мастацкі фільм «Я, робат».



**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Каханне з паведамленнем».
**10.10** «Далёкія сваякі».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 9». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**14.00** Ежа багоў.
**14.45** «Меч». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Цэнтральны рэгіён».
**17.25** «Міншчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** «Нябачныя госці».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Тэрыторыя памылак».
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Простыя пытанні.
**23.20** Аўтапанарама.
**23.40** «Меч». Серыял.
**01.20** «Нам пагражае астэроід».

### 2 Беларусь

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Арол і рэшка.
**10.00** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**10.55** Зразумець і абясшкодзіць.
**11.30** Беларуская кухня.
**12.00** Тэлесерыял «Сышчык без ліцэнзіі».
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.00** «Арол і рэшка.
**17.00** «ПІН_КОД». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**21.45** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**01.45** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

### 3 Беларусь

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «У агні броду няма». Ваенная драма (СССР, 1967 г.).
**09.30** «Пігмаліён». Камедыйная меладрама (Вялікабрытанія, 1938 г.).
**11.10** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова.
**11.35** «Міколка-паравоз». Дзіцячы прыгодніцкі фільм (СССР, 1956 г.).
**13.05** «Калейдаскоп».
**13.15** «Звон адыходзячага лета». Кінааповесць. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1979 г.).
**15.25** «Настаўнік». Драма (СССР, 1939 г.).
**17.05** «Горкі. Акадэмія на пяці ўзгорках». Дакументальны фільм.
**17.25** «Пігмаліён». Камедыйная меладрама (Вялікабрытанія, 1938 г.).
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.10** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (Расія, 2012 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**21.30** «Расклад на паслязаўтра». Школьная кінааповесць (СССР, 1978 г.).
**22.55** «Дыя@блог». «Пра мову».
**23.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова.
**23.45** «Міколка-паравоз». Дзіцячы прыгодніцкі фільм (СССР, 1956 г.).
**01.15** «Калейдаскоп».

### 5 Беларусь

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі.
**10.50** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Агляд тура.
**11.30** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**14.20** Футбол. Чэмпіянат Беларусі.
**16.10** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**18.25** Спорт-кадр.
**18.55** Гандбол.
**20.40** Змешаныя адзінаборствы.
**22.40** Еўрапейскі покерны тур.
**23.35** PRO спорт. Навіны.

### Белсат

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**09.15** 89 міліметраў ад Еўропы, рэпартаж.
**09.30** Гісторыя стравы і душы, д/ф.
**10.45** Сон-трава, канцэрт гурта «Троіца»: ч. 1.
**11.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Нацыянальнае адраджэнне II пал. XIX–пач. XX ст.: ч. 2.
**11.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Валерый Урублеўскі.
**11.40** 54 % (публіцыстычная праграма).
**12.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Анатоль Лябедзька.
**12.20** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**12.35** Час гонару, серыял.
**16.00** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**16.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.10** Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні, д/ф.
**18.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**19.00** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Свет падчас I Сусветнай вайны.
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Яўхім Карскі.
**19.25** Невядомая Беларусь: Пашпарт для беларуса, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Маю правы (юрыдычная праграма).
**21.50** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Глускага замку.
**22.05** Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа, дак. серыял: ч. 9: З Пекіну ў Паўднёвую Карэю.
**23.00** Напад Гітлера на Польшчу. Як пачалася Другая сусветная вайна, д/ф.
**00.00** Студыя «Белсат».

TV

## 2 ВЕРАСНЯ, СЕРАДА

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Меладраматычны серыял «Дзявочае паляванне» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Выходжу цябе шукаць 2» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5» (Украіна).
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Нашы.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Актуальнае інтэрв'ю.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.55** Навіны.
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Дэтэктыў «Выходжу цябе шукаць 2» (Расія).

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**15.05** Час пакажа.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Тэлесерыял «Шулер».
**23.05** «Кітай. Засакрэчаная вайна».
**00.10** Начныя навіны.

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінშчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Таямніца ў яго вачах».
**10.05** Далёкія сваякі.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Салдаты 9». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Меч». Серыял.
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Мінск і мінчане».
**17.25** «Мінշчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** Чорныя цені Зямлі.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Адплата».
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Простыя пытанні.
**23.20** «Меч». Серыял.
**01.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Арол і рэшка.
**10.00** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**10.55** Зразумець і абясшкодзіць.
**11.30** Беларуская кухня.
**12.00** Тэлесерыял «Сышчык без ліцэнзіі».
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**16.00** «Арол і рэшка.
**17.00** «ПІН_КОД». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Мазгавы штурм.
**21.30** Тэлебарометр.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**21.45** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.45** «ПІН_КОД». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.20** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** Мастацкі фільм «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 1-я і 2-я серыі (Расія, 2012 г.).
**09.35** «Бард-легенда: Юлій Кім».
**10.30** «Калейдаскоп».
**10.40** «Ганна Карэніна». Драма (Вялікабрытанія, 1948 г.).
**12.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Уладзіміра Дамарацкага.
**13.20** «Калейдаскоп».
**13.30** «Расклад на паслязаўтра». Школьная кінааповесць (СССР, 1978 г.).
**14.55** «Старыя казкі». Гісторыя стварэння фільма «Расклад на паслязаўтра».
**15.20** Гала-канцэрт XIII Міжнароднага дзіцячага музычнага конкурсу «Віцебск 2015».
**16.50** «Калейдаскоп».
**17.00** «Звычайны фашызм». Гістарычны фільм-перасцярога 1-я і 2-я серыі (СССР, 1965 г.).
**19.15** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 3-я і 4-я серыі (Расія, 2012 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Дыя@блог». «Пра мову».
**21.30** «Неадкрытыя астравы». Дзіцячы прыгодніцкі фільм (СССР, 1974 г.).
**22.35** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**23.00** «Адзінота». Канцэрт аўтарскай песні Валерыя Галаўко.
**23.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара Уладзіміра Дамарацкага.
**00.20** «Калейдаскоп».

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Спорт-мікс.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.05** Спорт-кадр.
**08.35** Гандбол.
**10.05** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**12.45** Змешаныя адзінаборствы.
**16.45** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**18.55** Свет англійскай Прэм'ер-лігі.
**19.25** Хакей. КХЛ.
**21.45** Змешаныя адзінаборствы.
**23.45** PRO спорт. Навіны.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Парад пераможцаў, д/ф.
**09.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.45** Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа, дак. серыял: ч. 9: З Пекіну ў Паўднёвую Карэю.
**10.45** Невядомая Беларусь: Пашпарт для беларуса, д/ф.
**11.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Свет падчас I сусветнай вайны.
**11.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ядухім Карскі.
**11.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**12.05** Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні, д/ф.
**13.45** Аўтаспынам па Беларусі.
**14.05** Тэра постсаветыка. Грузінская паліцыя, д/ф.
**16.00** Сенсацыі XX стагоддзя, серыял: Валенбэрг.
**16.50** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**17.15** Загадкі беларускай гісторыі: Таямніцы Глускага замку.
**17.25** Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа, дак. серыял: ч. 9: З Пекіну ў Паўднёвую Карэю.
**18.20** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Поўная рэалізацыя ва ўмовах сучаснай Беларусі.
**18.50** Назад у будучыню: Уцекачы з Беларусі падчас I Сусветнай вайны.
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Казімір Альхімовіч.
**19.10** Невядомая Беларусь: Распавяду вам пра вайну, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Людскія справы: Міліцыя па-за законам.
**22.00** Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа, дак. серыял: ч. 10. З Паўднёвай Карэі ў Токіа.
**22.55** Два каханні, м/ф.
**00.25** Студыя «Белсат».

## 3 ВЕРАСНЯ, ЧАЦВЕР

**06.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00** Навіны.
**07.05** Навіны эканомікі.
**07.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**07.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**08.00** Навіны.
**08.05** Навіны эканомікі.
**08.10** Зона Х. Крымінальная хроніка.
**08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**11.05** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**12.00** Навіны.
**12.10** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5».
**13.05** Дзень у вялікім горадзе.
**14.05** Меладраматычны серыял «Дзявочае паляванне» (Расія).
**15.00** Навіны.
**15.15** Навіны рэгіёну.
**15.25** Дэтэктыў «Выходжу цябе шукаць 2» (Расія).
**16.35** Серыял «Сямейныя меладрамы - 5».
**17.35** Беларуская часіна.
**18.40** Навіны рэгіёну.
**19.00** Навіны.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Камедыйны дэтэктыў «Цікаўная Варвара 2» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Спецыяльны рэпартаж.
**22.00** Дэтэктыўны серыял «След» (Расія).
**23.35** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**23.55** Сфера інтарэсаў.
**00.10** Навіны.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Дэтэктыў «Выходжу цябе шукаць 2» (Расія).

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольная закупка».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Фазэнда».
**11.50** «Модны прысуд».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Мужчынскае / Жаночае».
**14.10** Сам-насам з усімі.
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.20** Час пакажа.
**16.50** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Серыял «Аднакласнікі».
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Трэба разабрацца.
**21.30** Тэлесерыял «Шулер».
**23.30** Мастацкі фільм «Паслязаўтра».
**01.50** Начныя навіны.

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Мінշчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Адплата».
**10.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**10.40** «Салдаты 9». Серыял.
**11.30** «Сямейныя драмы».
**12.30** «Не хлусі мне!».
**13.50** «Ежа багоў».
**14.45** «Меч». Серыял.
**16.50** «Прыгоды дылетанта».
**17.25** «Мінշчына».
**17.35** «Званая вячэра».
**18.35** Дакументальны праект.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Скрыжаванне».
**22.00** «Глядзець усім!».
**22.20** Глядзець ўсім.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Простыя пытанні.
**23.20** Аўтапанарама.
**23.40** «Меч». Серыял.
**01.20** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».

**07.00** Тэлераніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**10.00** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**11.00** Зразумець і абясшкодзіць.
**11.30** Беларуская кухня.
**12.05** Тэлесерыял «Сышчык без ліцэнзіі».
**13.05** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**14.00** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**14.30** Прыгодніцкі серыял «Каўчэг» (Іспанія). Заключная серыя.
**16.00** «Арол і рэшка». Пазнавальна-забаўляльнае шоў (Украіна).
**17.00** «ПІН_КОД». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**17.55** Вострасюжэтны дэтэктыў «Сышчык без ліцэнзіі» (Расія). 4-я серыя.
**19.05** Меладраматычны серыял «Не нарадзіся прыгожай» (Расія).
**21.00** Цела чалавека.
**21.35** Тэлебарометр.
**21.40** Спортлато 6 з 49, КЕНА.
**21.45** «Экстрасэнсы-дэтэктывы». Дакументальны цыкл расследаванняў (Украіна).
**22.40** «ПІН_КОД». Інтэрактыўны моладзевы праект.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Косці» (ЗША).
**00.20** Камедыйны серыял «Як я сустрэў вашу маму» (ЗША).

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Калейдаскоп».
**08.00** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 3-я і 4-я серыі (Расія, 2012 г.).
**09.30** «Доблесць зямлі беларускай». «І адзін у полі воін». Дакументальны фільм.
**09.45** «Доблесць зямлі беларускай». «Спынены бліцкрыг». Дакументальны фільм.
**10.00** «Вайна пад стрэхамі». Кінараман (СССР, 1967 г.).
**11.30** «Пра тое, што памятаю і люблю. Ніна Ургант». Дакументальны фільм.
**11.50** «Сыны ідуць у бой». Ваенная драма (СССР, 1969 г.).
**13.25** «Святло далёкай зоркі». Памяці кампазітара і дырыжора Барыса Райскага.
**13.55** «Калейдаскоп».
**14.05** «Як я быў вундэркіндам». Школьная камедыя. 1-я і 2-я серыі (СССР, 1983 г.).
**16.15** «Чыпаліна». Мультфільм.
**16.55** «Ганна Карэніна». Драма (Вялікабрытанія, 1948 г.).
**19.10** «Калейдаскоп».
**19.20** «Усё пачалося ў Харбіне». Гістарычная драма. 5-я і 6-я серыі (Расія, 2012 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**21.30** «Артыстка». Камедыйная меладрама (Расія, 2007 г.).
**23.05** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**23.35** «Звычайны фашызм». Гістарычны фільм-перасцярога 1-я і 2-я серыі (СССР, 1965 г.).
**01.45** «Калейдаскоп».

**07.15** PRO спорт. Навіны.
**07.30** Сэлфі.
**07.45** PRO спорт. Навіны.
**08.05** Хакей. КХЛ.
**10.00** Змешаныя адзінаборствы.
**12.05** Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
**15.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі.
**16.05** Веславанне акадэмічнае.
**18.20** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**18.55** Хакей. Чэмпіянат Беларусі.
**21.05** Змешаныя адзінаборствы.
**23.05** Веславанне акадэмічнае.
**01.20** PRO спорт. Навіны.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Сенсацыі XX стагоддзя, серыял: Валенбэрг.
**09.20** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**09.45** Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа, дак. серыял: ч. 10. З Паўднёвай Карэі ў Токіа.
**10.40** Невядомая Беларусь: Распавяду вам пра вайну, д/ф.
**11.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Уцекачы з Беларусі падчас I Сусветнай вайны.
**11.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Казімір Альхімовіч.
**11.55** Людскія справы: Міліцыя па-за законам.
**12.25** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Поўная рэалізацыя ва ўмовах сучаснай Беларусі.
**12.55** Два каханні, м/ф.
**16.00** Сенсацыі XX стагоддзя, серыял.
**16.50** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**17.15** Падарожжа на Далёкі Усход: з Берліну ў Токіа, дак. серыял: ч. 10. З Паўднёвай Карэі ў Токіа.
**18.10** Вышыванка, рэпартаж.
**18.30** Мова нанова: Птушкі.
**18.50** Назад у будучыню (гістарычная праграма): Беларускае нацыянальнае пытанне падчас рэвалюцыяў.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Карусь Каганец.
**19.15** Невядомая Беларусь: Небяспечны архіў. Рэабілітацыя, д/ф.
**20.00** Студыя «Белсат».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Навумчык і Юрась Беленькі: Рэферэндум 1995 года: ч. 2.
**22.00** Прыватны сусвет, д/ф.
**23.25** Вандроўны ўздоўж Вялікага муру, д/ф.
**00.15** Тэра постсаветыка. Катынь, д/ф.
**00.45** Студыя «Белсат».

Літаратурная Беларусь

Выпуск №8 (108)
(жнівень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas. info

**Змест**



# НЕЗАШОРАНЫМ ВОКАМ,
## або Ідэалагічны ідыятызм



Лявон БАРШЧЭЎСКІ

У эпілогу да сваёй знакамітай паэмы «Пан Тадэвуш» вялікі ўраджэнец беларускай Наваградскай зямлі Адам Міцкевіч, знаходзячыся ў эміграцыі ў няблізкім Парыжы, пісаў:

*О, дачакацца мне б такой уцехі,*
*Каб кнігі гэтыя прыйшлі*
*пад стрэхі*
*І каб, кудзелю прадучы, сялянкі,*
*Калі закончаць любыя спяванкі*
*Пра дзеўчыну, якая граць любіла*
*І цераз скрыпку гусак пагубіла…*
*Каб кнігі простыя мае, як гукі*
*Іх песняў, узялі сялянкі ў рукі!*

Прайшло недзе 180 гадоў з моманту напісання гэтых радкоў у арыгінале і больш за 60 гадоў, калі іх пераклаў на нашу родную мову вязень сталінскага ГУЛАГу праваслаўны святар, педагог і паэт Пятро Бітэль, — а мара вялікага Міцкевіча робіцца ўсё больш далёкай ад здзяйснення… Зразумела, у далёкія часы ажыццявіцца гэтай мары перашкаджалі «ідэалагічныя работнікі» замежнага расійскага цара, празванага ў народзе «Мікалаем Палкіным», а потым «рыцары бацькі народаў» з ведамства «жалезнага Фелікса» (пераклад П. Бітэля ўпершыню цалкам удалося надрукаваць Беларускаму фонду культуры ў 1998 г.). Цяпер у нас на дварэ як бы 2015 год, і новы «бацька народа», прыклаўшы да сэрца руку, чарговы раз не стамляецца запэўніваць гэты самы народ, як ён яго любіць і як ён пра яго дбае…

Напачатку лета беларускія незалежныя выдаўцы, якія маюць дзяржаўны дазвол на выпуск і распаўсюд мастацкай і даведачнай літаратуры, Зміцер Колас і Уладзімір Сіўчыкаў (яны ж і досыць вядомыя беларускія літаратары), вырашылі наведаць радзіму Адама Міцкевіча, Наваградскі раён, каб прэзентаваць ім навінкі, выдадзеныя ў сваіх (і сяброўскіх ім) выдавецтвах. Чаму была выбраная Наваградчына? Вельмі проста. Будучы раней у Гродзенскай вобласці, яны нечакана для сябе даведаліся, што росквіт культуры ў гэтым рэгіёне дасягнуў небывалых дагэтуль вышыняў і ў гістарычнай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага на сёння не засталося ніводнай (!!!) паўнавартаснай кнігарні. Педагог і кінарэжысёр Уладзімір Колас горача падтрымаў ідэю выдаўцоў (бо, сярод іншага, хацеў зрабіць відэаматэрыял па праблемах сучаснага беларускага кнігавыдання), звязаўся са знаёмай сям'ёй настаўнікаў з Наваградка і папрасіў дапамагчы з арганізацыяй такіх сустрэч. Сям'я (ён — былы дырэктар адной з наваградскіх школ, яна — настаўніца англійскай мовы), у сваю чаргу, хутка дамовілася на сустрэчу-прэзэнтацыю з дырэкцыяй аднаго з наваградскіх музеяў, бо «фішкай» запланаваных сустрэч павінна было стаць якраз толькі што ажыццёўленае другое выданне бітэлеўскага перакладу Вялікага Наваградца, некалькі экзэмпляраў якога планавалася перадаць у дар музею паэта. Гэтая кніжка ўпершыню з'явілася ў кішэнным фармаце, як адзін з 26-ці томікаў праекта «Мая беларуская кніга», і трапіла да нас у рукі акурат у той дзень, як яна трапіла на паліцы мінскіх кнігарань. Іншымі каналамі папярэдне ўдалося дамовіцца і на аналагічную сустрэчу ў адным з вясковых клубаў Наваградчыны.




**Вокладкі некаторых кніг серыі «Мая беларуская кніга», што выйшла ў мінскім выдавецтве «Папуры»**

Выдаўцы меліся прывезці з сабою на Наваградчыну таксама нямала іншай беларускамоўнай літаратуры: у тым ліку дзіцячыя кнігі (зборнік англійскіх літаратурных казак «Лагодны цмок», чатыры кнігі са знакамітай серыі фінскай пісьменніцы Тувэ Янсан пра мумі-троляў, «Кошык велікодны» Уладзіміра Сіўчыкава, «Нататкі таткі» Андрэя Хадановіча, сусветны бестсэлер пра філасофію для дзяцей «Сафіін свет» нарвежца Юстэйна Гордэра), слоўнікі і размоўнікі (беларуска-нямецкі, нямецка-беларускі, англійска-беларускі, польска-беларускі, беларуска-польскі), кнігі вялікіх філосафаў (Рэнэ Дэкарта, Андрэя Воляна, Нікало Мак'явэлі, Імануэля Канта), раманы еўрапейскіх пісьменнікаў Германа Гесэ, Сватаплука Чэха, Бруна Шульца, Вітальда Гамбровіча, Жана-Поля Сартра, Густава Майрынка, Міка Валтары, Яраслава Івашкевіча, Эрыка-Эманюэля Шміта, Мішэля Уэльбэка, Міленка Ергавіча, Патрыка Бэсона, Рудальфа Слабады, зборнікі вершаў Тадэвуша Ружэвіча, драм Станіслава Выспяньскага… Усё, як кажуць, сусветная класіка. Аўтара гэтых радкоў арганізатары меркаванай паездкі, тэхнічную падтрымку якой ажыццяўляла грамадская культурніцкая кампанія «Будзьма беларусамі!», запрасілі ў якасці лінгвіста і літаратуразнаўцы, каб я мог больш падрабязна расказаць чытачам пра прывезеныя выдаўцамі кнігі і іх аўтараў. Вядомы бард Зміцер Бартосік далучыўся да нашай суполкі, каб прэзэнтацыйныя сустрэчы мелі і мастацкую частку (ён, сярод іншага, падрыхтаваў цэлую нізку песень на словы расійскіх паэтаў-класікаў у перакладзе Рыгора Барадуліна).

**Першай адавочнай прычынай, з якой трэба было б звольніць з працы ўсю ідэалагічную вертыкаль Наваградка, павінен быў бы стаць факт адсутнасці кнігарняў у раённым цэнтры з такой багатай гісторыяй**

Запланаваныя мерапрыемствы ну ніякім бокам не закраналі якіх-небудзь палітычных праблем і не прадугледжвалі ніякіх дыскусій на грамадска-палітычныя тэмы. Але ўсё адно арганізатарам, той самай сям'і настаўнікаў, было паведамлена, што на іх правядзенне патрэбная згода мясцовых уладаў — г. зн., «ідэалагічнай вертыкалі». Напачатку ўсе былі абсалютна спакойныя: ну як можна знайсці зачэпку, каб забараніць літаратурныя сустрэчы-прэзэнтацыі па такім «рэпертуары» прэзэнтаваных кніг — пагатоў кнігарняў у горадзе (пра вёскі і казаць няма чаго!) папросту не засталося! Ды напярэдадні выезду ў Наваградскі раён нам паведамілі, не назваўшы ўцямных прычын, пра немагчымасць правядзення сустрэчы ў сельскім клубе. Калі ж наш мікрааўтобус ужо скіраваўся ў бок Наваградка, знаёмыя настаўнікі са скрухай паведамілі нам праз тэлефон, што сустрэча ў гарадскім музеі таксама не можа адбыцца. У сваім імкненні дагадзіць вышэйшаму начальству наваградскія «вертыкальшчыкі» парушылі ўсе магчымыя і немагчымыя законы логікі і проста чалавечай прыстойнасці. У вызначаны час тыя чытачы, якіх настаўніцкая сям'я не здолела своечасова папярэдзіць пра «мудрае» рашэнне наваградскіх уладатрымальнікаў, сабраліся каля будынка музея, але іх там ужо не чакалі…

А выдаўцам і пісьменнікам давялося скарыстацца гасціннасцю той самай сям'і, якая паспела запрасіць паўтара дзясятка гасцей у свой утульны дом на ўскрайку горада. Там і адбылася шчырая размова пра літаратуру і пра тое, як «русский мир» канчаткова пасяліўся ў галовах тых, хто думае катэгорыяй «как бы чего не вышло» (прыгадваліся неўміручыя творы Салтыкова-Шчадрына і Булгакава). У выдаўцоў было куплена нямала кніг: некаторыя з прысутных казалі, што аддалі за іх ледзьве не апошнія грошы з сваіх не надта вялікіх інтэлігенцкіх заробкаў…

***P.S.*** *Першай відавочнай прычынай, з якой трэба было б звольніць з працы ўсю ідэалагічную вертыкаль Наваградка, павінен быў бы стаць факт адсутнасці кнігарняў у раённым цэнтры з такой багатай гісторыяй. Пра другую прычыну казаць нават не буду, бо тады мой непалітычны аповед перастане быць такім…*

*Я, вядома, хацеў бы даведацца пра тое, што адпаведныя чыноўнікі звольненыя, але, баюся, што яны атрымаюць нават заахвочванне: калі ўлада сама не чытае сусветнай класікі па-беларуску (хай яна мяне абвергне!), чаму яна павінна дазваляць гэта рабіць іншым?*




# Тамы Васіля Быкава ў электронным фармаце

**Бібліятэка на сайце Саюза беларускіх пісьменнікаў lit-bel.org папоўнілася дзесяццю тамамі Поўнага збору твораў Народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.**

Кожны жадаючы можа спампаваць кнігі ў фармаце .ePub бясплатна. Акцыя была прымеркаваная да дзён памяці Васіля Уладзіміравіча.

Выданне Поўнага збору твораў запачаткаванае ў 2005 годзе Саюзам беларускіх пісьменнікаў, Грамадзянскай ініцыятывай «Агульнанацыянальны рух «Воля народа»» і маскоўскім выдавецтвам «Время».

# Казкі Гаўфа па-беларуску

**У бібліятэцы часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» выйшла новая кніга — зборнік казак Вільгельма Гаўфа, ілюстраваны мастачкай Кацярынай Дубовік.**




На сённяшні дзень гэта самы поўны збор твораў нямецкага казачніка па-беларуску. У кнігу ўвайшлі самыя знакамітыя казкі Гаўфа — «Каліф-бусел» (пераклаў Ігар Крэбс), «Маленькі Мук» (пераклаў Аляксей Жбанаў), «Карлік Нос» (пераклаў Уладзімір Папковіч), «Халоднае сэрца» (пераклаў Альгерд Бахарэвіч), — а таксама менш вядомыя творы «Адсечаная рука» (пераклала Наталля Давыдоўская) і іншыя. Усе пераклады зробленыя з нямецкай мовы. Укладальніца зборніка — Ганна Янкута, рэдактаркі — Ганна Янкута і Кацярына Мацiеўская.

Свет казак Вільгельма Гаўфа — змрочны і таямнічы. Тут адбываюцца забойствы і выкраданні, а помста і злыя чары сустракаюцца не радзей, чым падарожжы і цудоўныя выратаванні. Тут ёсць усё, што толькі магло прымроіцца нямецкаму рамантыку ў XIX стагоддзі: жорсткія і яркія гісторыі з краінаў Усходу, якіх ніколі не існавала, разбойнікі і караваны, што рухаюцца праз пустэльню, — і гэтыя вечныя героі, якіх палюбіла ўжо шмат пакаленняў чытачоў. Большасць змешчаных у кнізе перакладаў друкуецца ўпершыню.

Зборнік казак Вільгельма Гаўфа — сёмае выданне серыі часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum» і Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Да гэтага ў серыі выходзілі зборнік апавяданняў, вершаў і эсэ Эдгара По «Маска Чырвонае Смерці» (2011), зборнікі дэтэктыўнага («Злачынства, сэр!», 2013), містычнага («Вусцішны пакой», 2013) і святочнага («Падарунак на Каляды», 2014) апавяданняў, «Саламея» Оскара Ўайлда (2013) і «Прыгоды Шэрлака Холмса» Артура Конана Дойла (2014).

# 105-годдзе Ларысы Геніюш

**Юбілей выбітнай беларускай паэткі-патрыёткі Ларысы Геніюш адзначылі ў Зэльве.**

У мясцовай Свята-Троіцкай царкве адбылася памінальная багаслужба, якую ўжо традыцыйна праводзяць у памяць пра паэтку. Каля бюста Ларысы Геніюш, які знаходзіцца непасрэдна пры царкве, даследчык творчасці паэткі Міхась Скобла прэзентаваў новую кнігу пад назвай «Духу магутныя чары...», якая нядаўна выйшла ў выдавецтве «Лімарыюс». Выданне сабрала шматлікія архіўныя матэрыялы, якія яшчэ захоўваюцца нават у дамах некаторых мясцовых жыхароў. З успамінамі пра Ларысу Геніюш выступіла вядомая паэтка Данута Бічэль, якая распавяла пра той дом, у які яна прыязджала, дзе паэтка жыла разам з мужам Янкам Геніюшам.

На мерапрыемстве прысутнічала даволі шмат людзей з Гародні, Ліды, Слоніма, Мастоўшчыны, Дзятлаўшчыны, мясцовыя жыхары (на жаль, з Мінску прыехала нешматлікая група). Варта адзначыць, што на заклік мясцовых актывістаў прыехаць у Зэльву прэтэндэнтаў у кандыдаты на пасаду прэзідэнта ніхто з іх не адазваўся.

racyja.com

# Думаць душой...

**Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў папоўнілася чарговай кніжнай навінкай.**




Кніга «Я думала душой...» для Алены Гінько — трэцяя ў яе бібліяграфіі. Аўтарка ўжо мае вершаваныя зборнікі «Самотная птушка» і «Пяшчота пры журбе».

«Такія радкі запамінаюцца, іх хочацца занатоўваць, чытаць не толькі самому сабе, — іншым аматарам паэзіі таксама», — адзначае ў прадмове да зборніка Леанід Дранько-Майсюк.

Алена Гінько — ураджэнка Пастаўшчыны, выпускніца філалагічнага факультэта БДУ, жыве і працуе ў Віцебску выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2001 года.

Як можна меркаваць з назваў кніг, у цэнтры ўвагі аўтаркі — інтымная лірыка, якая перадае ўсю гаму чалавечых пачуццяў. Кранальная шчырасць і непасрэднасць у выяўленні эмоцый — тое, што будзе блізкім кожнаму чытачу. Асабліва жанчынам — бо многія вершы апісваюць пачуццёвы досвед лірычнай гераіні, якая шукае сваё каханне.

# Выступ Вальжыны Морт

**Адна з самых яркіх беларускіх паэтак, аўтарка пачуццёвых і гатычных верлібраў Вальжына Морт жыве ў Амерыцы ўжо восем гадоў.**

Яна выступіла ў Мінску ўпершыню з часу ад'езду. Калі з'язджала, то не існавала яшчэ нават кнігарні «Логвінаў», на ганку якой Вальжына экспрэсіўна чытала свае тэксты. Ейная першая кніга пад назвай «Тоненькая, як твае вейкі» выходзіла ў Мінску ў 2005 годзе. Неўзабаве Вальжына «знікла» за акіянам, адкуль на радзіму прыходзяць весткі пра ейныя поспехі: верлібры перакладаюцца на шматлікія мовы, яна лаўрэатка прэстыжных прэміяў і ўвогуле адна з самых вядомых беларускіх паэтак за мяжой.

«Было выступіць вельмі важна, але я не ведала, ці хто-небудзь прыйдзе, ці хто-небудзь яшчэ памятае і чытае мяне. Было вельмі шмат маладых паэтаў, якія задавалі пытанні.

І не дзіва, бо маладых аўтараў Вальжына вучыць прыгожаму пісьменству ў Карнэльскім універсітэце, дзе калісьці чытаў лекцыі Набокаў. Дарэчы, у паэткі таксама шмат англамоўных вершаў, і яе часта называюць беларуска-амерыканскай аўтаркай, хоць сама яна падкрэслівае, што імкнецца пісаць па-беларуску і заўжды пра Беларусь. «Пісаць пра тут лепш там», — прызналася яна. — Усе ведаюць, адкуль я. Я паэтка з Беларусі, пішу пра Беларусь. Ні пра што іншае не пішу — ну, часам — пра Карыбскія выспы».

# «З'яўленне Інфанты»

**У Бібліятэчцы часопіса «Дзеяслоў» пабачыў свет новы зборнік пісьменніцы, крытыка, журналіста Людмілы Рублеўскай, куды ўвайшлі вершы, а таксама іранічныя мемуары «Бестыярый майго савецкага дзяцінства».**

Філасофія, інтэлектуальнасць, шлях ад пафасу да горкай усмешкі і незнішчальны нацыянальны рамантызм — тое, што знаходзіцца ў цэнтры ўвагі аўтаркі і яе чытачоў.

У выданні сабраныя, як паведамляе анатацыя, «гістарычныя вершы-міфы пра Беларусь старасвецкую і рыцарскую, умоўныя вершы-«дакументы» пра Беларусь інсургенцкую, расстраляную... І рэаліі Беларусі сённяшняй, фантасмагарычныя і трагедыйныя, калі часам ратуе толькі іронія».

# Кніга іспанкі па-беларуску

**Ангела Эспіноса Руіз праз мову Купалы і Коласа «спрабуе адшукаць сябе».**



Упершыню ў гісторыі нашай літаратуры з'явілася кніга іспанкі, якая піша па-беларуску. 22-гадовая паэтка пачала пісаць вершы на іспанскай мове з 6 гадоў. Пазней у яе з'явіліся творы на англійскай і французскай. Цяпер ёсць нават адзін верш па-ўкраінску. Беларускую мову яна вывучае толькі з 2013 года.

На пытанне «Еўрарадыё», чаму першая кніга выходзіць менавіта па-беларуску, Ангела адказала так: «Асоба і характар змяняюцца, калі ты пачынаеш пісаць вершы на іншай мове. І ў гэтай кніжцы я хачу адшукаць сябе па-беларуску. У гэтых вершах — частка мяне і маёй душы».

«Раяль ля мора» — гэта адлюстраванне яе асобы. Паэтка нарадзілася ў Малазе. Усё жыццё жыве побач з морам і з маленства грае на піяніна. «Нават калі я пішу верлібрам, шукаю заўжды музыку ў вершах. Для мяне музыка — вельмі важная частка жыцця».

Ангела распавяла, што фармавалася на іспанскай паэтычнай традыцыі, патрапіла пад уплыў французскага сімвалізму, і ў зборніку гэта вельмі лёгка заўважыць. Але калі пачынае пісаць па-беларуску, яе стыль змяняецца.

«Мне сказалі, што ніхто так па-беларуску не піша, прынамсі, ніхто значны ў беларускай літаратуры. Я не магу сказаць, што мая паэзія блізкая да іншай беларускай паэзіі», — характарызуе сваю творчасць Ангела.

Яна шмат вывучала беларускую паэзію. З класікаў асабліва ёй падабаюцца Купала, Багдановіч, Геніюш. З больш сучаснай паэзіі — творы Барадуліна. «Я лічу, што беларуская мова вельмі мілагучная і добрая для складання вершаў. Я гэта адразу заўважыла. Я ведаю недзе 9-10 моў. Ёсць мовы, на якіх я магу лёгка пісаць вершы, а ёсць, на якіх — не. А па-беларуску выходзіць вельмі натуральна».

Паэтка бачыць чытачамі сваёй кнігі людзей, якія шукаюць нешта новае. Яна адзначае, што яе паэзія — «крыху дзіўная». «Я бачу жыццё сімваламі. Я пішу вельмі шчыра, гэта для тых, каму прыемна чуць праўду ў літаратуры», — кажа дзяўчына.

Ангела Эспіноса Руіз пакуль не ведае, ці будзе перакладаць гэтыя вершы на іспанскую, «але ўжо шмат хто цікавіцца».

Літаратарка таксама перакладае беларускую паэзію на іспанскую мову. Сярод самых вядомых перакладаў — купалаўская «Малітва», «Ворагам беларушчыны» і «Белая яблыня грому» Барадуліна.

# Унікальны праект

**Напачатку лета ў кнігарнях з'явілася ўнікальная выдавецкая серыя «Мая беларуская кніга». Прапануем гутарку з пісьменнікам Уладзімірам Сіўчыкавым — адным з яе распрацоўшчыкаў, укладальнікаў, сябрам рэдакцыйнай рады.**

***«Літаратурная Беларусь»: — Уладзімір Мікалаевіч, нядаўна выйшлі вашыя кніжка вершаў дзецям «Кошык Велікодны» і кніга кароткай прозы «Уладзевы гісторыі». Але вас ведаюць і як выдаўца. Пад лагатыпамі «Радыёлы-плюс» і вашага прадпрыемства выходзілі такія адметныя тамы, як «Максім Багдановіч. Інтымны дзённік», «Яна і Я. Вершы і песні пра каханне», шматлікія слоўнікі, даведнікі і граматыкі, чытанкі дзеткам дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту «Крынічка», «Залатая яблынька», «Сонейка»... А чым сёння здзіўляць станеце?***

*Уладзімір Сіўчыкаў:* — Радуюся штодня, калі праходжу паўз «Акадэмкнігу», на вітрыне якой красуецца велізарны постар, бо меў гонар непасрэдна далучыцца да выхаду неардынарнай, унікальнай серыі беларускай класікі. Выйшла яна ў сталічным выдавецтве «Папуры», і не заўважыць яе будзе немагчыма, бо праект вельмі маштабны.

***— Чым ён адметны?***

— Не магу прыгадаць, каб на рынку адначасна з'явіліся — ні многа ні мала — ажно 26 тамоў беларускае класікі! Наклады аддрукаваныя сумарнай колькасцю больш за 60 тысячаў асобнікаў.

***— Тамы выйшлі тыражамі па дзве тысячы?***

— Так, наклад кожнага з гэтых покет-букаў (а наша класіка прадстаўлена ў такім фармаце ці не ўпершыню!) — ад 1500 да 2500 асобнікаў.

***— Як вымалёўваўся гэты праект паводле імёнаў і найменняў?***

— Летась сябры рэдакцыйнай рады, а гэта сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў, такія знаныя літаратары, філолагі, крытыкі і педагогі, як Уладзімір Арлоў, Лявон Баршчэўскі, Пятро Васючэнка, Міхась Тычына і ваш пакорлівы паслужэнец, паасобна склалі праекты па 25–30 пазіцый. Потым сабраліся, а ў выніку даволі гарачых дэбатаў выкрышталізавалі агульны спіс. Гэта зрэз беларускага прыгожага пісьменства ад легендаў, паданняў і казак, хрэстаматыйных і малазнаных твораў класікаў да тэкстаў сучаснікаў. Адным з асноўных нашых крытэрыяў было тое, што ў рэестр патрапілі толькі тыя творцы, што пайшлі ўжо ў лепшы свет. Але жыццё ўносіла свае карэктывы. На вялікі жаль, летась адышоў і Народны паэт Беларусі Рыгор Барадулін, і мы не маглі не дадаць том ягонай паэзіі пад назваю «Тастаме́нт».

***— Вы прамовілі словы «казкі, легенды, паданні»...***

— Адметнасць нашага «фальклорнага» тома «Сіняя Світа» — гэта тое, што ўключаны ў яго даволі значны раздзел легендарных казак, а многія тэксты, запісаныя ў свой час Мікалаем Нікіфароўскім, Аляксандрам Сержпутоўскім, іншымі этнографамі і фалькларыстамі, апрацавалі, пераказалі Лявон Баршчэўскі, Крыстына Лялько, Уладзімір Ягоўдзік і іншыя пісьменнікі. Давялося нямала папрацаваць над ім і мне, а таму ён мне адзін з самых дарагіх у серыі.

***— «Мая беларуская кніга»... Ці ёсць яна, ідэальная беларуская друкаваная кніга?***

— Першай была тая, што амаль пяцьсот гадоў таму сышла са Скарынаўскага варштата. Астатнія ідэальныя — яшчэ наперадзе.

***— А якая ўяўляецца вам самай беларускай?***

— Пры маім працоўным сталі ляжыць «Біблія», перакладзеная Васілём Сёмухам.

***— Якія творы з даўніх часоў зможа прачытаць аматар краснага пісьменства?***

— З прыемнасцю назаву мемуары Саламеі Пільштыновай «Авантуры майго жыцця», якія чытаюцца як захапляльны прыгодніцкі раман, а таксама найвыдатнейшую рэч Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях», пераклад якіх з польскай мовы гэтаксама




выйшаў у абноўленай рэдакцыі перакладчыка Міколы Хаўстовіча.

***— А не апасаецеся, што некаторыя класічныя творы досыць актыўна выходзяць у серыях «Беларускі кнігазбор» выдавецтва «Кнігазбор» і «Школьная бібліятэка» «Мастацкай літаратуры»?***

— Мабыць, накладкі тут непазбежныя, але тамы будуць адрозніваецца укладаннем, фарматам, аздабленнем, паліграфіяй, коштам... Хтосьці, скажам, прадстаўляе «Пана Тадэвуша, або Апошні наезд у Літве» Адама Міцкевіча ва ўзнаўленні «вольнага мастака» Язэпа Семяжона, а мы прапануем больш блізкі да арыгінала пераклад Пятра Бітэля. Мабыць, мала што скажа сёння нават мінчукам назва рамана Майсея Кульбака «Зельманцы», а гэта, між тым, вельмі адметны твор, што апявае Менск і яго насельнікаў пачатку мінулага стагоддзя і перакладзены з ідыш Віталём Вольскім. Пакупнік прыходзіць, да прыкладу, на Камароўскі рынак па трускалкі і знаходзіць «свайго» гандляра, робіць выбар найперш паводле пары «якасць–цана»...

***— Цікава, як у вас з апошнім?***

— Пастараліся зрабіць кнігі серыі дэмакратычнымі, даступнымі і па цане нават школьнікам ды студэнтам. Тамы выстаўлены сёння ў кнігарнях па 55 тысячаў. Яшчэ адна «разынка» серыі: усе тамы прадаюцца па адной цане, незалежна ад таго, 176 ці 592 старонкі ў іх.

***— Значыць, вы бачыце сваімі пакупнікамі...***

— Школьнікаў і студэнтаў, настаўнікаў і выкладчыкаў, а таксама ўсіх тых, хто толькі фармальна «прайшоў» класічныя творы па праграме ці мае ахвоту вярнуцца да іх і перачытаць наноў «Тутэйшых» Янкі Купалы альбо «Новую зямлю» Якуба Коласа. Тым болей, што ў серыі можна пабачыць творы, якія замоўчваліся ці былі выключаныя з ўжытку паводле палітычных меркаванняў. Гэта, да прыкладу, «Запіскі Самсона Самасуя» Андрэя Мрыя і дакументальная аповесць Францішка Аляхновіча «У капцюрох ГПУ».

***— А як у вас з аўтарскімі правамі? Апошнім часам здарылася некалькі прыкрых прэцэдэнтаў...***

— Вопыт сведчыць, што куды лягчэй бывае паразумецца з аўтарам, чым з яго спадчыннікамі. Але мы стараліся ўлагодзіць адносіны са спадкаемцамі, і ў большасці выпадкаў гэта ўдалося. Да прыкладу, дачка Кастуся Тарасава Ганна і пляменніца Уладзіміра Караткевіча Алена Сінькевіч паставілі за ўмову, што «Пагоня на Грунвальд» і адпаведна «Дзікае паляванне караля Стаха» павінны выйсці ў пэўных аўтарскіх рэдакцыях. На вялікі жаль, не ўдалося паразумецца са спадкаемцамі Ларысы Геніюш, а таму не будзе ў нас пакуль што яе балючай і кранальнай «Споведзі». Прыкра і тое, што літаратар, які правёў каласальную тэксталагічную працу і аднавіў аўтарскі тэкст «Ліквідацыі» — аповесці Васіля Быкава, вядомай са школьнай праграмы пад назвай «Сотнікаў», — не саступіў нам тэкст, не знявечаны цэнзарскімі нажніцамі.

***— Кожны аўтар у вас прадстаўлены толькі ў адным томе?***

— Хочацца верыць, што серыя будзе мець шчаслівы лёс, але «ананімны» ці, наадварот, шматаўтарны ў нас памянёны ўжо фальклорны том. Покуль што зроблена выключэнне толькі для Васіля Быкава: у адзін том увайшлі аповесці «Альпійская балада» і «Пакахай мяне, салдацік!», а ў другі — толькі што згаданы «Сотнікаў» і аповесць «У тумане». За прадастаўленыя правы на іх хочацца найперш падзякаваць Ірыне Міхайлаўне Быкавай.

***— А дзе можна будзе набыць гэтыя прывабныя томікі?***

— Найперш у «Акадэмкнізе», у сямі дзясятках кнігарняў аб'яднання «Белкніга»: у «Кнігарні пісьменніка», «Светачы», «Цэнтральнай» і многіх іншых па ўсёй краіне. Тыя, хто сябруе з інтэрнэтам, змогуць зрабіць гэта праз парталы tut.by і OZ.by.

***— То няхай шчасціць новай і, трэба спадзявацца, запатрабаванай серыі!***

— Вялікі дзякуй! Хай папраўдзе будзе мець яна ўдалы працяг, «каб кнігі гэтыя прыйшлі пад стрэхі», каб беларускія чытачы пабачылі ў ёй і творы Янкі Брыля, Генадзя Бураўкіна, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Рыгора Семашкевіча, Янкі Сіпакова ды іншых выдатных пісьменнікаў.

**Пытанні задавала
Алеся Уладзімерава**

# Запрашэнне да сумоўя

**Зьніч. Шляхам сумоўя...: ... кантэкст ...выбранае ...успаміны ... да ўступлення ў IV кварту веку. Слонім, 2015, 520 с.**

Хто аўтар гэтай кнігі, нягледзячы на пазначэнне, невядома. Літаратар Зьніч мае яшчэ і найменні, дадзеныя яго праваслаўнымі шляхамі: інак Мікалай, манах Іаан. Пры пашпартным — Алег Бембель.

Пад гэтым імем творца ў свой час выявіў сябе як музыка і навуковец (філосаф), які ў другой палове 1980-х гадоў стаў да ўсяго і палітычным дысідэнтам (у той, перабудовачны, час трэба было здорава насаліць сістэме, каб заслужыць такі статус).

Азначаныя іпастасі ў выданні цесна пераплецены. Лейтматывам кожнай з іх выступае пошук ісціны. Сэнс чалавечага існавання, тэматыка нацыянальнага жыцця, рэлігійныя матывы — усё гэта даследуецца, пераплятаецца і наслойваецца ў творчасці Зьніча. Яна прадстаўлена рознымі фарматамі — ад навуковых тэкстаў да лірычных вершаў. Акрамя таго, да выдання дастасваны матэрыялы духоўна блізкіх асобаў і артыкулы пра самога аўтара.

Відавочна, кніга мае высокую ступень суб'ектыўнасці. Настолькі высокую, што часам дзіву даешся, як у адным чалавеку без так званага, прабачце, кагнітыўнага дысанансу змяшчаюцца ўзаемавыключальныя ідэі, як, напрыклад, беларускі нацыяналізм і панславізм. Дзеля прыкладу прывядзём некаторыя цытаты. Верш «...Нацыянальная ідэя...»:

*...цісьне пад сэрца — начамі — трывога:*
*...мкнецца пахіціць у нас ліхадзей*
*місію племені — перад Богам...*
*місію племені — між людзей...*
*...ймчыцца ПАГОНЯ —*
*і рысьсю, й галопам...*
*ля сэрцаў кволых...*
*па гонях чужых... ...гоіць...*
*...каб Сэрца Хрысціянскай Эўропы*
*білася роўна... й сьцішыўся Дых...*

З іншага боку, прывядзём размешчаны літаральна па суседстве ўрывак са свежага, напісанага па слядах украінскіх падзей эсэ «...Зямля і зямляне...»: «Славянам — «на постславянскай прасторы» — прадугледжана — праз адно пакаленьне квота: да 15 мільёнаў... цяпер іх — не адна сотня мільёнаў... і яны кантралююць абшары — з больш як паловай глабальных стратэгічных рэсурсаў... для скарачэньня Славянскага пагалоўя да пазначанай «квоты» ў «постславянскім штаце» — і акупацыі яго ЗШЗ-оідамі — ужо дзясяткі год практыкуецца самы эфектыўны і прыбытковы метад: чацьвертаваньне маленькіх Славян ва ўлоньні і выраб з біялагічна актыўнага «абартыўнага матэр'ялу» самых дарагіх гатункаў касьметыкі, лекаў для амалажэньня састарэлых міліянераў ды іншых вельмі дарагіх рэчываў».

У такіх выпадках, думаецца, важна, на якой жа ідэйнай ноце той ці іншы аўтар заканчвае свой шлях сумоўя. У выпадку з разгляданай кнігай маем:

*...і хай — ад здрадаў і нягод,*
*як ад патопу, — сьвет загіне, –*
*з каўчэжку малага майго*
*паўстане йзноў*
*мая Радзіма...*

Несумненна, досвед Зніча будзе вельмі карысны кожнаму, каб разабрацца ў самім сабе.

**Анатоль Трафімчык**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (108) | 28 жніўня 2015 | № 32 (449) Новы Час

# З кнігі «Усё ўлічана. All inclusive»



Сяргей КАЛЕНДА

## Зялёная кашуля

Усе ў мяне пытаюцца: дзядзька, табе ўжо хутка трыццаць, што ты ў гэтым гатэлі сядзіш? Чаму не працуеш па адукацыі? Чаму не шукаеш сур'ёзнай працы? Што з табою будзе далей? Як магчыма жыць без кар'ернага росту? Хіба ў цябе няма жадання дасягнуць чагосьці ў працы?

Я ўсім адказваю аднолькава: «Дзякуй, што турбуецеся, але ідзіце, калі ласка, у дупу!» Я шчаслівы, у мяне ёсць усё, пра што я марыў: жонка, сабака, збіраем грошы на ўласную кватэру, плануем дзіцё. Мая праца акурат такая, каб не замінаць мне пісаць, графік такі ж самы, я маю свабоду, каб таксама — пісаць прозу. Я задаволены й той часткаю волі, якая ў мяне ёсць, калі я ў гатэлі сяджу ў сваім кабінеце: бясплатны інтэрнэт, абед і вячэра таксама бясплатныя, амаль ніхто сюды не завітвае, працую з людзьмі толькі пад запіс. Што яшчэ трэба?!

Калі грамадства адштурхоўваецца, у пераважнай большасці, ад матэрыяльных кропак, я маю вялікае жаданне жыць у свеце, дзе ўсё працуе толькі на чалавека, бо самы вялікі абсурд Жыцця — гэта ўвесьчасныя ды ўсюдыісныя турботы пра свой гаманец і пакупку адна-, двухпакаёўкі... Якім чынам сталася так, што ў Цывілізацыі, створанай чалавекам, немагчыма жыць на сваю карысць і шчасце, не плануючы набыццё ежы з гіпермаркету да наступнага заробку, а проста як ёсць пасяліцца на свабоднай зямлі, вырошчваць сабе чыстую ежу і быць незалежным? Аднак абавязкова знойдзецца купка лайдакоў, якім захочацца нічога не рабіць, але атрымліваць усё дарма і называць зямлю Радзімаю, а дармовае — падаткамі. Я б хацеў жыць так, як ад пачатку было наканавана Космасам, — жыць дзеля радасці й волі жыцця, спасцігаць розум Прыроды, навукі, вучыцца наноў хадзіць і лётаць — і радавацца з гэтае нагоды. Атрымліваць сапраўдную асалоду ад снегу, які мусіў бы выпадаць на Раство, а не глядзець на панурыя вуліцы горада, хворага й атручанага выхлапнымі газамі.

Я ня бачу сэнсу ва ўсім гэтым маскарадзе, бо ўсё, што робіцца вакол чалавека, створана яго ўласнымі рукамі і нясе з сабою толькі нахабнае патрабаванне прызнання толькі ягонага адзінага Я, дыктатуры, гвалту ды індустрыяльнага шаленства.

Такім чынам, калі б я мог не працаваць, я б не працаваў, але калі я не магу не працаваць, няхай я буду сваёй працай прыносіць людзям хаця б невялікую палёгку, радасць і часам моўныя альбо літаратурныя адкрыцці.

Вось ён, мой будзільнік: спачатку сігналіць жоўта-зялёны пластыкавы корпус, і праз імгненне я адчуваю, як раптоўна спахопліваецца сабачка — на маёй галаве яго пуза й лапкі, на маёй шыі — яго галава. Ён ускоквае і, пазяхаючы з характэрным піскам, пачынае лізаць мне твар...

Вось я стаю на кухні, дзверы лядоўні адчыненыя, лядоўня выдае гукавы сігнал, каб я зачыніў дзверцу, але я заняты — я п'ю ёгурт.

Пасля процьмы сідра пітны ёгурт раніцай — тое, што трэба. Страўнік пачынае вуркатаць, рэшткі вячэрняга сідру — ціснуць на мачавы пухір.

Потым я заходжу ў пакой, жонка яшчэ спіць, сабака, джэк расэл тэр'ер па мянушцы Хурма, усё яшчэ чакае свайго недарэчнага гаспадара. Я нацягваю джынсы, розныя па колеры й фактуры шкарпэткі... Зашпільваю цёмна-зялёную, як лісце ў жніўні, кашулю — паверх зялёная куртка і парваныя кеды («бо якая розьніца, колькі год тваім кедам, калі ты стаіш у іх на ходніку ў Бэрліне» — таму мне абсалютна нецікава, у якім стане мае кеды), паверх курткі — карычневая скураная сумка праз плячо. Я гатовы гуляць, але, як звычайна, не гатовы ехаць на працу, таму лагічна, што ў яблыневым садзе я затрымаюся крыху даўжэй... З сумкі праз плячо дастаю арганайзэр, удакладняю планы на дзень, правяраю, ці захапіў з сабою кнігу.

Ніхто ня зможа адняць альбо скрасьці маіх каштоўных хвілін, калі я атрымліваю самае вялікае адкрыццё кожным разам, калі я для сябе асабіста дасьледую прыгажосьць, калі назіраю, як В. спіць, і калі даследую для сябе новыя пачуцці любові й пяшчоты, калі назіраю за маленькім Хурмой; я разумею, што маё жыццё мае сэнс і мае права існаваць, і я маю права быць тут і цяпер, і мне неабавязкова жыць дзеля таго, каб прыносіць карысць грамадству, як гэта выбіта на скрыжалях запавету сучаснасці, мне дастаткова ведаць, што я зарабляю грошы для сваёй маленькай утульнай сям'і...

Хурма застаўся дома, я зноў на вуліцы, цяпер ужо іду праз двор да метро, вакол неахайна запаркаваныя машыны, адна на адной, нагадваюць ці то сублімацыю гаспадароў, ці то помсту Прыродзе...

Стараюся адцягнуць увагу ад аўта-армагедона, уключаю на плээры аўдыёкнігу. Сёння пачынаю слухаць тэтралогію Пэтэра Хандке, спадзяюся на сапраўднае адкрыццё.

## Чорная кашуля

Раніца. Не так даўно мы пераехалі ў здымную кватэру насупраць рэчкі й вялікага парку... Пачаўся чэрвень, я ўжо



пакутую на алергію, стан такі, быццам бы ў носе ўключылі адмысловы кран саплей, я смаркаюся кожную хвіліну, а калі не смаркаюся, то чхаю. Да дактароў я не хаджу, і ўжо які год запар першы месяц лета ў мяне зусім нярадасны. Што казаць, хакей прайшоў і можна падвесці колькі вынікаў, акурат пакуль я прасую сваю чорную кашулю, бо ў гатэлі цяпер палова персаналу ў чорным гарнітуры, было так вырашана, бо элегантна.

У галаву прыходзіць процьма вясёлага і сумнага, звязанага з травеньскім святам. Вось мне распавядала сяброўка, як перад хакеем у бальніцы хуткай дапамогі цалкам вызвалілі цэлы рэанімацыйны аддзел ад рэанімаваных, набралі найкаштоўных працаўнікоў, вышталцоных медсясцёр і загадалі чакаць хакеістаў. Загад быў такі і падрыхтоўка ў такіх маштабах, быццам чакалі пацярпелых з вайны, а не паламаных з гульні. Па выніку за тры тыдні ў рэанімацыю паступіў толькі адзін хакеіст — фін. І вось уявіце, амаль усё навокал — жудасць і жах: старыя пафарбаваныя сцены, металічны посуд, кепска памытыя «гранёныя стаканы», койка і нават накладкі ад расцяжэнняў ірваныя! Вядома, медсёстры насілі хакеісту ежу ў талерках, якія прынеслі з дому, і ў сваіх жа кубках запарвалі гарбату.

Я адразу паставіўся да гэтага «свята» негатыўна, бо ёсць такая рэч, як «Не гуляй у гульні з дыктатарам», тым болей яшчэ да адкрыцця чэмпіянату навіны не цешылі: аднаго грамадскага актывіста затрымалі за хуліганства і далі дваццаць сутак, другога дзеяча закрылі на пятнаццаць сутак арышту... Я, вядома, не хадзіў на матчы, але ўсё роўна здарылася так, што стаўся пасіўным заўзятарам, так бы мовіць — я не мог не стацца ім з тае прычыны, што хакей прасачыўся паўсюль, нават у маю прыбіральню, сны і ежу...

Як вынік — падрыхтоўка да чэмпіянату ачысціла горад ад усяго: ад смецця, нязгодных, ад усёй «пятай калоны» і прастытутак, якіх звезлі са «стаметроўкі» на Акрэсціна. Ніхто з прыезджых не мусіць бачыць, што ў нас камусьці няўтулуьна жыць і што ў нас ёсць прастытуткі. Тут, вядома, усё атрымалася наадварот, бо па гатэлях і апартаментах хапала і прастытутак, і персаналу, якому няўтульна і які нязгодны з сучасным становішчам, калі даляр і еўра няспынна кожны дзень дадаюць сабе па сто рублёў массы, калі большасць баіцца за словы кіраўніка краіны, што яшчэ ён плявузгне: за Украіну, супраць Украіны, уводзім расійскія войскі альбо не дазволім распальваць вайну... Навошта хаваць прастытутак у малпоўнях, калі палітычная прастутыцыя ў краіне на такім пачварна высокім узроўні, што нават ужо не сорамна, і даводзіцца, сціснуўшы сківіцы, назіраць за гэтым, трэскаючы валідол...

У наш гатэль засяліліся замежныя каманды. Фінскія спартоўцы кожны дзень скардзіліся, што вакол іх зашмат людзей. Яны думалі, што кіруючы персанал адразу кінецца вызваляць калідоры дзеля фінаў, але калі гэтага не рабілі для зорак сусветнай велічыні і нават для дыктатараў, тады чаго яны хочуць? Чэшская зборная атруцілася, праляжалі хакеісты суткі ў бальніцы пад кропельніцамі, хацелі пісаць скаргу на гатэль, але дактары адразу злілі інфармацыю, што чэхам варта было б проста нармалёва закусваць.

Менск напоўніўся рознымі мовамі, што было абсалютна дзіўна для гэтага адпаліраванага горада.

Хакей для беларусаў не проста гульня, гэта таксама і спосаб адмыць грошы, і адначасова заляцанне чыноўнікаў да прэзідэнта. Усе былі здзіўленыя, што чэмпіянат ніхто не байкатаваў, усе краіны і каманды прыехалі, і наконт гэтага першыя дні ўлада праз навіны завастрала ўвагу...

І вось прайшло літаральна некалькі дзён, а ўжо машыны з расійскімі нумарамі падрапаныя цвікамі, падкладзены цыдулкі пад дворнікі з праклёнамі...

А талісман чэмпіянату? Гэты няўдака зубр у хакейнай форме і на каньках, гэты дурны вобраз, якога ў народзе назвалі Валерам. А што, гучыць — волат Валера. Як толькі з яго ні кпілі, але хлопец, ці хлопцы, якія працавалі ўнутры гэтай лялькі на гульнях, прыводзілі ў экстаз абсалютную большасць. Валера катаўся ў мужыкоў на каленях. Валера рабіў сэлфі разам з прыгажунькамі. Скокаў у натоўп, падаў і катаўся ў праходах... Валера заслужыў быць адначасова і сімвалам і сумам чэмпіянату, бо такую недарэчнасць немагчыма ўспрымаць адназначна.

У горадзе назіраліся незвычайныя рэчы: міліцыянеры ўсміхаліся, ніхто нікога не затрымліваў увечары, можна было адчуваць свабоду перасоўвання і жыцця. Было такое ўражанне, што ты сам шпацыруеш па праспекце замежнага горада, што гэта ты кудысьці з'ехаў на хакей, а не хакей прыехаў да цябе!

Шмат хто пачаў вельмі добра зарабляць на жытле. Некаторыя кватэры здаваліся па тысячы еўра за суткі, некаторыя пакоі здавалі па трыста... Беларусы апантана стараліся хоць крыху, але падзарабіць, і амаль у кожным двары Менска магчыма было назіраць джыпы з расійскімі нумарамі, якія коламі заязджалі на газоны, на дзіцячыя пляцоўкі. І вось такая двухбаковасць: тыя, хто не здае свае кватэры й пакоі замежнікам, абураюцца неахайнай паркоўцы, а тыя, хто здае, моўчкі трываюць: анягож, беларусу не абвыкаць — трываць.

Адна з гатэльных супрацоўніц так разышлася падчас чэмпіянату, што знікла з дома на тры тыдні. Бацькі званілі кіраўніцтву гатэля і прасілі, каб на іх дачку хоць хтосьці паўплываў... Дзяўчына і без чэмпіянату злоўжывала алкаголем, а цяпер яна кожную раніцу прачыналася ў іншых ложках. Інтэрнацыянальнае братэрства прывяло дзяўчо да таго, што яна здолела сабраць цэлую калекцыю заўзятарскіх шарфоў і тры хакейныя формы: фінскую, латвійскую і расійскую. Кіраўніцтва паабяцала штосьці зрабіць, бо шкада чалавека, і пачало сачыць за тым, каб тая хаця б прыходзіла на працу без спазнення і алкагольных пароў і сыходзіла ў час, але гэта прывяло толькі да таго, што яе давялося звольніць...

А гэтыя «цэнтры гасьцепрыімства»!? Цуд! Сумесь Кафкі, Даўлатава і Венечкі Ерафеева, шалёная сумесь!

А гэтыя сутычкі беларускіх і расійскіх фанатаў на Нямізе? Сценка на сценку!

Шмат пра што можна яшчэ ўспомніць, але ў мяне не так шмат часу, бо чакае праца і кашуля мая гатовая. У горадзе кожны месяц цяпер адчыняецца па гатэлі, горад быццам рыхтуецца апантана выйсці на міжнародны ўзровень па колькасці турыстаў, і вось у метро паўсюль беларуская лацінка, і турыстычныя стэнды пасля хакею нікуды не падзеліся, відавочна, шмат турыстаў з'ехала, але вунь у маім двары цяпер ёсць магчымасць часта бачыць маладую сямейную пару афрыканцаў, вось я ў краме ў чарзе — і перада мною японцы, вось я еду на ровары — і мяне абганяе нейкі ямайскі хлопец на сваім стрыт-байку...

Я планаваў пасля хакею звольніцца з працы, але пакуль што не магу, няма куды ісці, а мне патрэбны пастаянны заробак, каб часопіс трымаўся, каб плаціць за здымную кватэру, каб мець магчымасць з'язджаць кудысьці і пісаць... Менск нарэшце аброс гатэлямі рознай якасці і велічыні, увесь персанал, як фарэль на нерасце, скача то туды, то сюды, кожны хоча ўладкавацца ў новым гатэлі на больш якаснай і грашовай працы, а я, бы той вулкан, нікуды не сыходжу, але ўжо пачынаю капціць і калі-небудзь выбухну.

# Рэшта жыцця



Леанід ГАЛУБОВІЧ



***

*Прыснілася:*
*стаю аднаасобна*
*сярод усхваляваных пачаткоўцаў,*
*якія перад публікай шматлюднай*
*чытаюць свае вершы па чарзе...*
*І раптам*
*заяўляецца Разанаў*
*Алесь, і прыпыніўшы іх,*
*ім кажа:*
*«Паслухайце,*
*тут ёсць адзін паэт, —*
*і на мяне паказвае, —*
*чытайце...»*

*Ад нечаканасці*
*і пераляку*
*я нейкі верш няўцямна прабубніў,*
*не помню чый,*
*прынамсі, сам такіх*
*ніколі не пісаў я...*

*Мне доўга пляскалі*
*ў гулівай і паўзмрочнай*
*багемнай зале,*
*шэпчучы наўслед:*
*паэт...*
*паэт...*

*Цяпер я часта згадваю той сон,*
*і ўсё-ткі не магу ніяк успомніць*
*ні верша, што тады чытаў,*
*ні аўтара яго,*
*што быў адзіным*
*паэтам сярод нас*
*у тым натоўпе...*

### Кошт паэзіі

*На зямлі столькі паэтаў —*
*адметных і розных,*
*што іншым разам задумваешся —*
*а навошта? —*
*хіба канкрэтны чытач можа*
*ўмясціць у сабе гэтулькі*
*створаных імі*
*адмысловых вобразаў і метафар?!*
*Чытачу*
*дастаткова і аднаго верша,*
*каб напоўніць сваю істоту*
*прыгожым змыслам...*

*Але паэтаў,*
*даў Бог,*
*бы кветак у навакольнай прыродзе,*
*кожная з якіх мае сваё імя*
*і па-свойму красуе*
*для выпадковага вока*
*і нечаканай душы...*

*Вядома,*
*што многім з іх*
*не хапае пашаны,*
*вялікіх прэмій*
*і нават дробных,*
*больш за тое,*
*нават не кожны*
*паспявае накрэсліць сваё*
*сапраўднае прозвішча*
*ў вершаваным нататніку...*

*Успомнілася,*
*як дзесяць гадоў таму,*
*патэлефанаваў мне знаёмы*
*аднагодак вясковы,*
*даўно ўжо сталічны жыхар,*
*сантэхнік на пенсіі:*
*«Слухай, Лявон,*
*у мяне да цябе просьба.*
*Малодшы мой скончыў школу,*
*не паступіў, але ўдала ўладзіўся*
*на грашовую працу...*
*І вось — бяда!*
*Апошнім часам*
*стаў усё менш цікавіцца справай,*
*а панадзіўся пісаць... вершы...*
*Ты б пабачыў яго —*
*здаровы бугай,*
*кроў з малаком,*
*выліты я —*
*а нізашто прападае!*
*Сорамна людзям сказаць,*
*але табе можна,*
*бо ты ж і сам пішаш...*
*Лявон, прашу,*
*пагаварыў бы ты з ім*
*ды адвадзіў яго ад глупства»...*

*Тролю ў адказ:*
*«А раптам*
*стане твой сын знаным паэтам,*
*прэмію Нобелеўскую атрымае?!»*

*«Смяешся...*
*Навошта нам гэтыя брошкі,*
*яны яму не да твару...*
*Трэ на жыццё зарабляць...»*

*«Дык жа да брошкі, — кажу, —*
*дадаюць і мільён даляраў...»*

*Задышлівая паўза на тым баку...*

*«То я ж і кажу,*
*Лявон,*
*пагавары ты з ім,*
*глянь...»*

### Небяспечнасць прагнозаў

*«З заўтрашняга дня на тэрыторыі*
*нашай рэспублікі*
*чакаюцца зацяжныя дажджы...» —*
*папярэджваюць сіноптыкі.*

*А сёння яшчэ такі сонечны дзень!..*
*Піць бы свой час напоўніцу*
*і ціха цешыцца*
*гэткім ясным*
*станам жыцця...*

*Але я чамусьці ўвесь час*
*думаю пра заўтрашнія дажджы:*
*пра заваконную шэрасць*
*і душэўную нэндзу,*
*абтрапаны чорны парасон,*
*лужыны пад нагамі,*
*халодныя кроплі за каўняром,*
*адсырэлы абутак,*
*кашаль,*
*макроты,*
*брудныя сабачыя лапы,*
*якія трэба мыць*
*ранкам і вечарам...*

*(Прагнозы пазбаўляюць мяне*
*добрай часткі здаровага ладу жыцця*
*і праблескаў аптымізму.)*

*Ну як, скажыце мне,*
*перажыць гэты*
*заўтрашні,*
*спрагназаваны сіноптыкамі,*
*перыяд непагадзі,*
*калі я ўвесь час думаю пра гэта,*
*не зважаючы на яркае сонца,*
*што сёння пакуль яшчэ ззяе*
*над маёй галавою?..*

***

*Кажуць, свет зямны перанаселены:*
*больш за сем мільярдаў чалавек!..*
*А ў мяне такая пустка ў сэрцы —*
*хоць бы хто пастукаўся калі...*

***

*Дзень учарнеў, як ноч —*
*такі неадольны боль!*
*А здаецца, яшчэ й не жыў...*
*Завошта, Госпадзе?!*

*Нядаўна памёр малады сусед,*
*а месяц таму — сябар вясковы,*
*і на магіле малодшага брата*
*зямля яшчэ не прасела...*

*Помню,*
*на іх пахаваннях,*
*смуткуючы, думаў:*
*ну, што тут зробіш,*
*такі ўжо іх вырак,*
*Гасподзь забірае лепшых...*

*А што ж не так*
*у маім выпадку?!*

### Пераезд

*Прыехаў на саракавіны*
*на Паўночныя могілкі.*
*Гляджу ад аднаго краю*
*і другога краю не бачу,*
*цёмна ў вачах —*
*безліч памерлых...*

*Назад вяртаюся*
*прыгарадным аўтобусам,*
*ледзь праціснуўшыся*
*ў душны салон, —*
*поўна людзей!*
*І кожны хоча як найхутчэй*
*даехаць да свайго прыпынку...*

*Думаю,*
*па часе ўсеўшыся,*
*як усё ўраўнаважана*
*на гэтым свеце,*
*нехта ў дарозе сыходзіць,*
*саступаючы табе месца,*
*і ты, уладкоўваючыся,*
*едзеш далей,*
*з удзячнасцю памятаючы яго,*
*пакуль не сыходзіш сам...*

***

*Многія сцвярджаюць,*
*што пражылі б сваё жыццё*
*паўторна,*
*нічога ў ім не мяняючы,*
*калі адказваюць на пытанне,*
*ці змянілі б яны што ў ім,*
*каб мелі такую магчымасць?*

*А я не змог бы*
*жыць другім наваратам:*
*перачытваць цікавую кніжку,*
*пераглядаць упадабаны фільм,*
*бясконца слухаць забойны хіт,*
*пісаць падобныя, як блізняты, вершы...*
*Я не магу трываць паўтораў...*

*Як можна жыць,*
*ведаючы жыццё*
*наперад?!*

*А вось*
*нанова*
*я жыць пагадзіўся б,*
*калі б меў такую магчымасць,*
*нібыта Хрыстос,*
*якога да гэтай пары*
*ніхто так і не змог распазнаць*
*пасля ўваскрашэння...*

***

*Седзячы ў мяккім фатэлі,*
*пераглядаем сваё мінулае,*
*стомлена перамошчваем*
*пройдзены намі шлях,*
*прыбіраючы з яго бруд*
*і розную непатрэбшчыну...*

*Сціраем сырой анучкай*
*сонечны пыл на пісьмовым стале,*
*кладзём чысты аркуш паперы —*
*і пішам сабе*
*бездакорную аўта-*
*біяграфію...*

***12 жніўня Леанід Міхайлавіч Галубовіч адзначыў свой 65-гадовы юбілей.***

***Сонечна жадаем нашаму паважанаму аўтару здароўя, душэўных радасцяў і доўгага веку на працяг пісання аўтабіяграфіі — і жыццёвай, і творчай!***

# Тры пярсцёнкі



Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Калі яна пачала любіць і цаніць рэчы? Невядома. Гэта прыйшло ў сваю пару, як прыходзіць, скажам, палавая спеласць. Але, паколькі пытанне ўзнікла, паспрабуем адсачыць некаторыя этапы жыцця і фарміравання асобы.**

Ранняе дзяцінства было сцёрта. Памяць, намагаючыся пранікнуць праз шэрую завесу, натыкалася на пару нязначных эпізодаў. Усё астатняе як быццам хто закрэмзаў, заштрыхаваў графітавым алоўкам. Так бывае ў дзяцей (яна чытала), якія раслі без бацькоў.

Бацькі насамрэч нікуды не падзеліся, яны існавалі. Жылі і працавалі ў суседнім раёне і, вядома ж, наведвалі сваё першае дзіця, пакінутае ў бабы з дзедам. Але, зноў жа, ніводнага іх прыезду нейронамі не зафіксавана — ні эмацыйных усплескаў, ні пастаей, ні падарункаў. Ні цацак, ні лялек, ні кніжак — нічога... Ну не магло так быць! Калі прыязджалі, то нешта ж прывозілі...

Сапраўднае жыццё пачалося тады, калі бацькі ўрэшце пабудаваліся і забралі дачку да сябе. Свет пашырыўся, набыў колеры і адценні. Невыразная плоская карцінка займела аб'ём, а статычны кадр — рух. Запаміналася ўжо ўсё: смак папяроўкі, мышы ў калгаснай пуні, нежывое кацяня на руках...Нават такі забаўны эпізод: да суседкі прыехаў дарослы сын, лётчык, і яна густа прысыпала тварык мамінай пудрай. Спыталіся — з якой нагоды. «Юзік прыехаў», — прызналася дзяўчынка. Прамата і залішняя шчырасць заўжды былі яе асноўным недахопам.

Яна памятае, як збіралася ў першы клас. (Маці, як заўсёды, была на працы.) Думала, як правільна — надзець адны панчошкі ці на іх яшчэ і шкарпэткі? Панчошкі трымаліся дзякуючы шырокім гумкам, якія пераціскалі ногі. Ці не з-за тых варварскіх вясковых гумак яна ўсё жыццё пакутуе на варыкоз?!

З якогась паўднёвага санаторыя бацька аднойчы прывёз шаўковы піянерскі гальштук і салатавыя стужкі. Ні ў кога ў школе не было такога агністага гальштука! Звычайныя, штапельныя, перад ім выглядалі вартымі жалю анучкамі. Капронавыя стужкі, праўда, былі мяккімі, правісалі, але ўсё роўна на «хвосціках» выглядалі святочна. Здаецца, гэта быў першы і апошні бацькаў падарунак.

Яна памятае многія свае юнацкія сукенкі. Цёмна-зялёную, з тафты, якую падпсавала шначка: узяла ды выкаціла проймы... Карычневую, з доўгім рукавом... Сама брала тканіну ў ГУМе; голенькі прылавак, а на ім адзіны бабулін скрутак. Ліловую, атласную, уласнаручна перашыла на дзедавай дарэвалюцыйнай машынцы... У гэтай сукенцы яе, першакурсніцу, угледзеў адзін мінскі скульптар і чыста па-мастацку захапіўся. Толькі ў гэтым колеры хацеў яе зваяць, увасобіць (як быццам ён жывапісец!), але больш яны не перасякаліся і зноў сустрэліся ў яго майстэрні праз гадоў трыццаць.

Яшчэ ў яе была эфектная чорная сукенка з залатой устаўкай спераду і пышнай, ніжэй таліі спаднічкай. Худзенькая швачка ў атэлье трымала ў вуснах шпількі, падколваючы ніз. Сукенку яна мо пару разоў надзела, а потым тая за гладыш малака перайшла да суседскай дзяўчынкі.

А дзе ейны выпускны ўбор? Ён паслужыў двойчы: не давялося купляць новае на вяселле. Няпоўныя два гады раздзялялі дзве значныя падзеі. Вэлюм таксама быў арыгінальны — у выглядзе пышнага банта. Ні ў кога такога не бачыла! Як і ўсё астатняе, выпускное-вясельнае некаму сплавіла маці.

Заўважце, яна яшчэ не навучылася берагчы і захоўваць любімыя рэчы, і нават іх кантраляваць. Яна іх толькі запомніла. Як і залаты школьны медаль, што згубіўся пры пераездзе.

У старэйшых класах насіла яна «маленькую», падрэзаную пад грудзьмі светлую сукеначку са штучнай тканіны. Вельмі пасаваў ёй, тоненькай, такі фасон! У той сукенцы паехала яна на першае сваё дарослае мерапрыемства — вяселле ў «Заходняй». Няйначай, маці арганізавала, каб дагадзіць прыяцельцы- бабулі. Бабуля часта бывала ў іх дома і раз-пораз ужывала слова «цёнгле».

Ехаць давялося з незнаёмымі людзьмі ў незнаёмае месца. Пра Заходнюю яна, вядома ж, чула, але не ведала, што былая польская мяжа знаходзілася зусім блізка, за некалькі кіламетраў ад іх вёскі. На ўроках гісторыі пра гэтую акалічнасць не гаварылі. Яна добра вучылася, запомніла б...

Была восень. Магчыма — кастрычнік. Хто там жаніўся, засталося за кадрам. Чужая вёска, чужая моладзь, пераходы па густой гразі з хаты ў хату... Мясцовыя хлопцы адзін перад адным даставалі з кішэняў бялюткія, загадзя падрыхтаваныя насоўкі, каб пакласці іх спадарожніцам пад ногі альбо выцерці туфелькі. Яна аж адхіснулася ад такой гжэчнасці: як, такое бялюткае — у бруд?!

Адзін з хлапцоў пачаў да дзяўчыны чапіцца. Не так мо сама яна яго зацікавіла, як ейны пярсцёнак — круглы, як пячатка, чорны, з натуральнага каменя. Як бы жартам ён расціскаў сілком дзявочыя пальцы, вярэдзіў руку — здзіраў пярсцёнак. Урэшце зняў, забраў. І не вярнуў. Чаму яна не абуралася, не патрабавала свайго?

Так яна страціла першую ўласную рэч. Вярнуўшыся з вясельнага тлуму, даведалася пра смерць дзядулі — таго самага, які з бабуляй яе гадаваў, і беспрытомная з'ехала на падлогу па вушаку.



Другі пярсцёнак — залаты, з доўгенькім далікатным бурштынам — прадала дваюродная сястра. Не ёй, а роднай цётцы, з якой цесна і неяк падазрона сябравала. Сястра толькі што вярнулася з Далёкага Усходу, куды выпраўлялася з сям'ёй на заробкі. Муж там і застаўся, знайшоў другую, затое золата трохі прывезла і збывала сярод сваіх.

На той час наша безыменная гераіня была і замужняй, і дзетнай, жыла асобна ад бацькоў. Пярсцёнак, аддадзены матуляй, ляжаў у шкатулцы з таннай біжутэрыяй. (Ланцужкі, кулончыкі, усемагчымыя вісюлькі заўжды боўталіся на яе кофтачках і світэрках.) А тут раптам надарылася госця, вада на кісялі — жонка мужавага брата другой стрэчы. Брат адбываў тэрмін за кепскія справы, муж знаходзіўся на працы. Ён і запрасіў, перасекшыся, сваячку. Твар В. падаўся праставатым, нават грубаватым. Магчыма, тая нават выпівала, але гаспадыня прыняла яе з адкрытай душой. Па-жаночы паразмаўлялі, пабедалі, паняньчыліся з малой дачушкай. (Другой ужо, большая была ў школе.) І далей, што стала ясна праз многа гадоў, яна павяла сябе па мацярынскім сцэнары: ёй захацелася зрабіць наваспечанай радні штосьці прыемнае. Дастала з шафы шкатулку, перабірала драбязу... І выбрала на падарунак пярсцёнак з бурштынам — не, не той, а іншы, у простай, металічнай аправе.

У наступную суботу, без папярэджання і дамовы, зноў з'явілася тая ж жанчына. Ужо і дапамагчы імкнулася: перапаласкала пялюшкі, а гаспадыня панесла іх вывесіць на двор, на прасушку. Госця, як падалося, выглядала напружанай (стрэс выдавалі вочы) і хутка адкланялася.

Ці трэба гаварыць, што залатога пярсцёнка не стала? Яна расхвалявалася і адправіла мужа з візітам, каб запатрабаваў і вярнуў дарагую рэч. Муж нехаця паехаў, па-сваяцку там выпіў і вярнуўся ні з чым. Так праявілася яго фамільная мадэль паводзінаў — ва ўсіх сур'ёзных, важных момантах збягаць у кусты.

Шмат разоў у жыцці яна спрабавала дабіцца ад мужа рашучасці альбо прынцыповасці — з тым самым нулявым вынікам, а бывала, што і з рванём нерваў, марнай сваркай, разладам... Змірыцца з непрымальнай мадэллю паводзінаў — не адпаведнай яе ўяўленням пра «мужчынскае плячо» — было немагчыма, як і змяніць гэтую мадэль.

Мала таго: пры ўзнікненні вострай супярэчнасці ў жонкі з кім-небудзь, ён маўклівы і непахісна станавіўся на іншы бок. Пры гэтым напоўніцу карыстаўся ўсімі дабротамі сям'і і шлюбу, усё менш беручы на сябе адказнасць хоць за што.

Такім чынам, першы пярсцёнак у яе адабралі, другі — подла выкралі з дому, а трэці сам па сабе злузаўся з пальца, як быццам не хацеў на ім быць. Абручык быў залатым, але не шлюбным.

Так атрымалася, што жаніліся яны без абмену пярсцёнкамі. Свякроў не парупілася, маці не азадачылася, жаніх змоўчаў, а яна — хіба магла яна памятаць пра такую дробязь? Галоўнае, што ён побач, яны разамназаўсёды, арганізацыяй вяселлля займаліся бацькі, дык і адказнасць на іх.

Тонкі абручык муж набыў самастойна і перадаў «першародцы» ў радзільны дом. Нехта ж сказаў пра такую традыцыю: упрыгожаннямі выказваць сваю ўдзячнасць, сваё прызнанне. Яго і насіла ў якасці шлюбнага на правай руцэ.

У кабінеце, дзе яна працавала, знаходзіліся трое: яна — у росквіце жаноцкасці, перадпенсійнага ўзросту спакойны мужык і новая супрацоўніца, дзеўка гадоў пад трыццаць. Разнаёміцца яны не паспелі, ды і не мела гэта ніякага значэння для развіцця будучых падзей. К тым гадам у жанчыны ўжо праявіўся сверб да ўсемагчымай грамадскай працы, якую ніхто іншы не тое што рабіць не будзе — проста не здагадаецца зрабіць.

Уздумала яна памыць плафоны люстры, якая сто гадоў вісела некранутай і яшчэ б столькі сама правісела над іх галовамі. Хтосьці плафоны па яе просьбе зняў, яна набрала вады ў пластмасавую карзінку для смецця і дaручыла частку працы маладзейшай. Ажно глядзіць — неяк у той рукі не так служаць, быццам упершыню ім давodзіцца займацца такой цяжкай справай, як мыццё шкла.

Плафоны былі рашуча адабраны і вымыты. Праўда, штосьці дзынкнула падчас працэсу. Брудную ваду яна выліла ў туалеце. Так падарунак любага і дарагога быў уласнаручна змыты ў каналізацыю.

Знакаў тады яна яшчэ не разумела, значэння страце не надала. Толькі прыкрасць адчула ды злосць — на сябе саму і на каляжанку-няўмеку. А ўжо ж такі быў выразны, такі красамоўны сігнал! Хіба што сляпы не заўважыць.

Невідушчасць да відавочнага дапамагала часта. Перш за ўсё — не дзейнічаць, нічога не рабіць для змены сітуацыі. Бо дзейнічаць боязна, небяспечна. Дзеянне патрабуе выдатку сіл і нерваў. Ці не былі яны з мужам падобнымі гэтым, як дзве кроплі вады?

Прытоеная, неўсвядомленая варажнеча, як іржа, раз'ядала іх саюз, пакуль яе вочы ўрэшце не адкрыліся. Тады стала ясна: яна жыве на папялішчы ўласных ілюзій, да таго ж з чалавекам, які ёй банальна карыстаецца. Дзейнічаць-такі давялося. Ды калі яна ўрэшце падала на развод, ён адчайна супраціўляўся — паўгода зацягваў справу, пакуль суду не надакучыла імі займацца.

Тры ўпрыгожанні, ніяк паміж сабой не звязаныя, згадаліся і выстраіліся ў адзін лагічны ланцуг. Тры пярсцёнкі — як тры дыягназы. Першы — сведчанне няздольнасці абараняцца і асаджваць нахабаў. Другі — прыкмета залішняй даверлівасці і няўмення разбірацца ў людзях. Трэці... Ох, з трэцім складаней... Ды Бог з ім, яна даўно адпусціла і гэта, і папярэдняе, і многае іншае. Не адпускаецца толькі тое, што не дадалі.

...Не спалася, думкі снавалі-бегалі. Яна падня́лася, каб запісаць «паток свядомасці», паглядзела на гадзіннік — тры гадзіны ночы. Нічога сабе! Во папёрла!.. За шклом секцыі цьмяна паблісквалі крышталёвыя чарачкі і вазы, шкляныя фігуркі, керамічныя сувеніры, бурштынавыя бранзалеты, пацеркі з рачных пярлін, ракавінкі, яшчэ нейкая мілая дробязь. На сцяне віселі малюнкі ў рамках. А на камодзе ў радок сядзелі падараваны ўнучкай заяц і знойдзеная на вуліцы разяватая малпачка.

**Люты — сакавік 2015 г.**

***27 жніўня Галіна Анатольеўна Каржанеўская адзначыла свой юбілей.***

***Шчыра жадаем нашай аўтарцы доўгага сонечнага лета і ўзнёслай радасці!***

# Ложа свету



Эрыка ДЖОНГ

Эрыка Джонг (Erica Jong) — сучасная амерыканская пісьменніца. Нарадзілася ў Нью-Ёрку ў 1942 годзе ў сям'і перасяленцаў-яўрэяў з Беларусі (Дзятлава). Піша вершы і прозу (у 2006 годзе часопіс «Playboy» у сваёй версіі самых сэксуальных раманаў у гісторыі чалавецтва паставіў яе кнігу «Я не баюся лётаць» на 13 месца). Лаўрэат італьянскіх літаратурных прэмій.

Паэзія Эрыкі Джонг дэманструе яе рэдкі талент: вынаходлівасць, дасціпнасць, энергію, шчырасць і даступнасць. Крытыкі шчодра ўхвалілі паэзію Джонг. Вось што пісаў часопіс «Лайбрары Джорнэл»: «Энергія фантазіі, сучасныя тэмы, ідыёмы робяць Эрыку Джонг адной з тых, хто верне чытача да паэзіі».

## Краявіды

**Маім бацькам**

*Чые гэтыя малыя рашучыя постаці*
*з галовамі ў турбанах,*
*што крочаць*
*да дарычных храмаў*
*у сярэдневяковых галеонах*
*са старажытнымі замкамі на заднім плане?*
*Яны гавораць і нешта*
*паказваюць рукамі ў паўцемры,*
*вядуць валоў і нясуць скруткі*
*на антычны бераг мора,*
*што спіць ля гары гатычнай.*
*Паблісквае сонечнае, месячнае*
*і зоркавае святло*
*на тэатральным моры.*
*Аблокі гойсаюць*
*па небе. Ветразі дыбам.*
*Вецер спіць.*
*Чаму гайдаюцца сцягі?*
*Чый гэта краявід?*
*Чыімі сіняватымі схіламі сталі*
*гэтыя замкавыя пагоркі?*
*Якая цемра агарнула*
*зімовы поўдзень?*
*Чыя гэтая цемра,*
*гэтая цёмная галерэя?*
*Падумай добра — вецер,*
*Клод Ларэн,*
*Тэрнер малюе*
*святло Венецыі,*
*І паказвае*
*свае сапраўдныя*
*колеры.*

## Без узаемнасці

*Спускаючыся праз аблокі,*
*што выглядаюць*
*як кіты і акулы,*
*дэльфіны і пінгвіны,*
*пеліканы і чайкі,*
*мы бачым пурпуровыя*
*пагоркі*
*зялёнасэрцай выспы*
*між вулканічных скалаў,*
*што купаюцца*
*ў кобальтавых водах.*
*Бачым*
*рыфы белых каралаў.*
*Уладараць тут*
*марскія вожыкі і губкі,*
*плыве сюды марскі шчупак,*
*едуць турысты.*

*Гэтай зямлі дыктатар — сонца.*
*Сакрэтная паліцыя —*
*вабны чарота водар.*
*Расце тут на ўзвышшы*
*франжыпані (язмін такі).*
*Даліны пахнуць соллю,*
*пахнуць морам.*
*Хачу купіць яго,*
*схавацца тут,*
*застацца тут,*
*вучыць людзей*
*пісаць, чытаць,*
*ладкаваць зоркі*
*на высокіх пальмах.*
*Вучыць медузаў*
*не кусацца.*

*О, цёмнае віно вулкана!*
*О, згорнуты парашут,*
*паўнюткі пацалункаў!*
*О, кавалкі сіняй бутэлькі,*
*перамолатыя*
*у каштоўныя камяні*
*марскім пяском!*

*Той, хто любіць астравы,*
*павінен любіць мора.*
*А мора не любіць*
*нікога,*
*яно любіць*
*толькі сябе.*

## Егіпталогія

*Я сфінкс,*
*я жанчына, закапаная ў пясок*
*да самага падбародка.*
*Я чакаю археолага,*
*каб раскапаў мяне,*
*дастаў маю шыю і грудзі,*
*агаліў мае рукі*
*і разгадаў маю таямніцу.*

*Ніхто яшчэ гэтага не зрабіў*
*з часоў Эдыпа.*
*Гляджу на піраміды, што*
*уздымаюцца, як худыя грудзі*
*з сухога цела Егіпта.*
*Мая пладавітая рака цячэ ўнізе —*
*прыгожае царства.*
*У жанчыны павінна быць дэльта*
*з такім багатым глеем,*
*карычневым, як ягадзіцы*
*Нубійскіх царыц.*
*Мая шаноўная,*
*чаго прыехала ў Егіпет?*
*Атон і Яхве ўсё яшчэ ворагі.*
*Майсей вядзе людзей*
*і гаворыць пра віну.*
*Голас вулкана*
*не заціхае.*
*Рэлігія смерці —*
*жанчына пахавана жывой,*
*тысячагоддзямі*
*пясок перасыпаецца па маёй галаве,*
*мая эротыка — пустыня,*
*а валасы — больш сіtаватыя, чым пемза.*
*Ніхто не дакранаўся да маіх губ,*
*каб парушыць маё маўчанне.*
*Грудзі пірамiды — вялікія,*
*але ж ніколі не абвіснуць.*
*У цэнтры кожнай піраміды*
*ляжыць вялікі цар,*
*у цэнтры кожнай —*
*цёмная камера,*
*тунэль,*
*косці памерлых,*
*згубнае золата.*

## Зіма ў Новай Англіі

*Правяраючы смеласць душы,*
*мароз дабіраецца*
*да выбоінаў на дарогах*
*аж ад самага сэрца.*
*Зледзянелы лес*
*падымае галіны,*
*каб пахваліць усё,*
*што ловіць святло.*
*Пасля лёд растае.*
*Лясная падлога беляхціць.*
*Сям-там з ледніковай пыхай*
*уздымаецца валун.*
*Ручайкі, якія віруюць*
*пад ледзяною коўдрай,*
*нагадваюць нам, што тундра душы*
*стане лагодней*
*хоць крыху*
*з надыходам вясны.*

## Дэпрэсія ранняй вясной

*Кручкі і сшыткі,*
*усё гарадское неба палае*
*і фантомы-бомбы*
*б'юць па лапіку ракі,*
*які я бачу з майго вакна.*

*Паэты адышлі, горад паміраe,*
*Анна, Сільвія, Кітс*
*з ягоным палкім сэрцам,*
*Бэрыман скача з моста,*
*махаючы рукой.*
*Усе летуценнікі сышлі ў нябыт,*
*сышлі ад летуценняў.*

*Чаму засталася я, як Гарацый?*
*Анна шле з магілы вершы,*
*Сільвія — лісты.*
*Прывідны кашаль Джона Кітса*
*даносіцца праз агароджу.*
*Што я тут раблю?*
*Навошта змагаюся?*

*Я труп, які водзіць ручкай, што піша.*
*Я сасуд для голасу, што гучыць рэхам,*
*Я пішу раман і цалкам знішчаю дубровы.*
*Я пераствараю космас дзюйм за дзюймам.*

## Бессань і паэзія

*Салодкагалосая муза*
*з горкім малаком,*
*я ляжу між тваіх грудзей,*
*прыціскаю вуха*
*да твайго пупка,*
*як шапаткой марской ракавіны.*
*Я выпрабоўвала салёныя балоты*
*тваёй эротыкі*
*сваімі малочнымі зубамі.*
*Пасля нарэшце заснула,*
*паклаўшы галаву, поўную думак,*
*да твайго дрыжачага сцягна.*

*Лагодная і злая матка-паэзія,*
*куды яшчэ мне падацца*
*ад начных жахаў,*
*як не да тваёй вар'яцкай*
*раздвоенасці?*
*Дзе мне адпачыць,*
*як не ў тваім урагане?*
*Хто яшчэ завядзе мяне дамоў,*
*змятаючы чорны, як сажа, ганак*
*тваёй прадзьмутай ветрам хаціны,*
*што стаіць на самым краі*
*вулкана?*

## Жыццё паэтаў: тры асобы

***I***
*Ён любіў гаварыць пра дробязі:*
*кроплі дажджу на даху, водар*
*вясны, стагі на лугах, пагорак вішняў,*
*гладкую гальку, крылы дразда.*
*Вайна кругом — яму ўсё роўна,*
*кахаюцца — хай сабе так.*
*Моладзь паміраe, вучоныя грызуцца,*
*хлусня палітыкаў, голад дзяцей,*
*маткі плачуць — ну і што!*
*Пра што ён гаварыў прыгожа?*
*Ніколі не перакручваў праўду,*
*да хібаў ставіўся спакойна.*
*Стаць на чый бок? — Навошта!*
*Маўчок — аснова яго творчасці.*
*Трымаў язык ён за зубамі,*
*Але ж не хлусіў.*

***II***
*Ад схільнасцяў і выхавання*
*ён меў задачу — валодаць словам.*
*Ён стаў прамоўцам для пакалення,*
*збіраў плады двайных узнагарод.*
*Падчас вайны ён быў супраць хлусні,*
*што бойня служыць высакароднай справе,*
*анархію не падтрымаў, ды ў тыя дні*
*хваліў парадак, гармонію ў законе.*
*Калі ад голаду людзі сышлі ў магілы,*
*калі зусім нявінных судзілі без суда,*
*то кіравалі ім сумлення сілы,*
*хоць крытыкі казалі, што яго стыль —*
*нуда.*
*Меў доўгі шлях у паэзіі сваёй.*
*Мяняў ён часта думку — меў на гэта*
*правa;*
*змяняў малітвы на праклён,*
*у палітыцы кідаўся ўлева-ўправа.*
*Хаця яго прароцтва не збылося,*
*хаця рабіў памылкі, але пасмеў*
*летапісаць свой час мудра і востра.*
*Хоць не змяніў ён свет, але ж хацеў!*

***III***
*Ён не меў паняцця пра эстэтыку,*
*любіў вострую ежу і прыгажунь,*
*любіў таксама ён атлетыку,*
*у свае гады не быў сівы, як лунь.*
*Любіў ён музыку, ня супраць выпіць,*
*любіў сяброў, шпацыр, вандроўкі,*
*пакінуць аднаго — што соль на раны*
*сыпаць,*
*і больш за ўсё любіў паэт тусоўкі.*
*Няведама, як ён здабыў занятак,*
*бо штодзень праца — праклён Адама.*
*Грошы ён меў, талент для плётак;*
*чаму б і не пісаць яму таксама?*
*Успрыманне слоў у яго было адметным,*
*любіў апладысменты, нават славу,*
*песню стварыць быў талент рэдкі*
*і ўсё-ткі ён лічыў гульнёй такую справу.*
*У яго вершах быў заўжды намёк,*
*што калі б лепшы час Усявышні даў,*
*ён кінуўся б у бітву, а не ў друк.*
*Але як Троі не было, ён рыфмаваў.*

## Ложа свету

*Вялікае ложа свету*
*выгінаецца дугою над магіламі*
*Баб'яга Яра.*
*З мноствам касцей,*
*пранізлівым крыкам*
*замерзлых у бетонным ледніку,*
*мяккай коўдрай зямлі*
*і святым духам зялёнай травы,*
*якая пакрывае мёртвыя целы.*
*Мёртвая плоць будзе жыць ізноў*
*(мроя бясконцай божай ночы) ,*
*праб'ецца зеленню з зямлі,*
*як трава, як дрэвы, як парасткі тамата*
*з яго ярка-чырвонымі пладамі,*
*і варожасць чалавецтва*
*будзе выкармлена тым жа зернем;*
*памідор, гранат, біблейскі яблык —*
*усё падымецца з травы, што ўзрастае*
*са стогнаў нямых вуснаў.*

*Часам я бачу,*
*як ложа вісіць над лагчынай,*
*лагчынай Баб'яга Яра, або іншага,*
*дзе памерлі тысячы нявінных.*
*І я малюся, каб прымірыць зямлю,*
*каб паспелі плады*
*і лісце дрэў хваляваласся, як сцягі.*

## Імпрэсіяністы

*Яны задумалі маляваць паветра*
*і ведалі , што мастацтва —*
*не толькі спосаб бачыць,*
*але і спосаб існаваць.*
*Захапленне святлом,*
*чуллівасць душы,*
*параненай паветрам,*
*цвёрдасць духа таксама.*

*Яны задумалі маляваць паветра,*
*разгледзець кожную пылінку,*
*вывучыць кожную былінку,*
*пакуль паветра не зайграе*
*колерамі, і кожны подых*
*не стане вясёлкай у лёгкіх.*

*Язмін, чайны ліст, камелія,*
*туберужа і чабор — паветра*
*набывае колер, а колер*
*сочыцца ў зямлю,*
*зямля нараджае формы,*
*выкапні; яе прывабны водар*
*пасля носіцца ўсюды.*

*Яны задумалі маляваць паветра*
*і пакінулі свой знак.*
*Жыццё праследаванняў,*
*бясконца багатае,*
*бясконца дасканалае.*
*З водарам персікаў*
*і анемонаў.*
*З чырванню дахаў,*
*муслінавых пеньюараў*
*і пераліваміі паветра,*
*густога паветра.*

**Пераклала з англельскай з дазволу аўтаркі Алена Таболіч**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (108) | 28 жніўня 2015 | № 32 (449) Новы час

# Рыцары Вялікага Княства

## Старонкі новай кнігі

Уладзімір АРЛОЎ

### Шляхта

Знатныя роды ў нашай дзяржаве зваліся шляхтай. Да шляхты належалі кожныя дзесяць-дванаццаць са ста жыхароў Вялікага Княства Літоўскага. Гэта вельмі вялікая частка насельніцтва. У суседніх Расеі, Аўстрыі і Прусіі знатных людзей, якіх яшчэ называлі дваранамі, было ў дзесяць разоў меней — толькі адзін чалавек з сотні.

Шляхта валодала зямлёй, сялянамі і карысталася надзвычай шырокімі правамі. Шляхцічы былі вольнымі людзьмі. Яны вызваляліся ад усялякіх плацяжоў з сваіх уладанняў, маглі купляць, прадаваць і дарыць зямлю. Кожны шляхціч меў права свабодна выехаць за мяжу. Шляхта судзіла сялянаў, а ейныя справы мог разглядаць толькі адмысловы шляхоцкі суд.

Збіраючыся на мясцовыя з'езды-соймікі і на агульнадзяржаўны Сойм, шляхта ўдзельнічала ў кіраванні краінаю. Якраз яна выбірала вялікага князя, а таксама ўсіх суддзяў, у тым ліку і самых галоўных — суддзяў Трыбунала Вялікага Княства.

Найважнейшым абавязкам ліцьвінскай шляхты была абарона Айчыны. Але шляхта не толькі ваявала. Яна давала дзяржаве палітычных і рэлігійных дзеячоў, вучоных, пісьменнікаў і асветнікаў.

### Пра што кажуць гербы

Кожны шляхоцкі род ганарыўся сваім гербам.

Герб заўсёды меў назву і сведчыў пра вольнасць і незалежнасць гаспадара. Па гербе можна было вызначыць паходжанне і сваяцкія сувязі яго ўладальніка.

Разглядваць шляхоцкія гербы вельмі цікава. На іх можна сустрэць выявы самых розных знакаў, рэчаў, раслін, жывёлаў і птушак. На гербе «Любіч», якім карысталіся больш за 500 родаў, мы бачым падкову з двума крыжамі. На гербе «Дарагаслаў» змешчаная страла. З герба магутнага магнацкага роду Радзівілаў глядзіць чорны арол.

Кожная выява на гербе мае сэнс. Каб дакладна зразумець, што азначае той або іншы герб, трэба ведаць навуку геральдыку. Яна дапамагае пазбегнуць смешных памылак. Да прыкладу, на гербах нярэдка сустракаюцца бараны і казлы. Нехта можа падумаць, што ўладальнікі гэтых гербаў былі неразумныя або ўпартыя. А геральдыка падказвае нам, што дзве гэтыя жывёліны — вельмі паважаныя, бо яны азначаюць кіраўнікоў статка. Герб з такой выявaю сведчыць, што ягоны гаспадар — правадыр, які ідзе наперадзе і вядзе за сабою іншых.

Шмат якія гербы нашай шляхты маюць надзвычай даўнюю гісторыю. Да прыкладу, «Гіпацэнтаўр», «Геральт», «Корвін» і «Ладдзя» паходзяць з старажытнага Рыма. Аднымі і тымі ж гербавымі выявамі маглі карыстацца роды розных еўрапейскіх краінаў — ад Літвы-Беларусі да Францыі і Гішпаніі. Герб «Равіч» упершыню з'явіўся ў Ангельшчыне, «Лебедзь» — у Даніі, «Котвіч» у Аўстрыі. Радзіма «Самсона», «Саса» і «Лялівы» — Нямеччына.

Шляхта шанавала гербы, бо яны нагадвалі аб продках ды іх слаўных справах і перамогах.

### Шчыт дзяржавы

З шляхціцаў складалася аснова нашага войска. Паводле закона на вайну ішлі ўсе мужчыны, што мелі зямлю.

Магнаты, якім належалі велізарныя зямельныя абшары і тысячы сялянаў, ішлі ваяваць пад уласнымі сцягамі-харугвамі на чале вялікіх аддзелаў з баяраў і слугаў. Да прыкладу, у 1528 годзе князь Юрай Алелькавіч Слуцкі пасылаў у войска 433 кавалерыстаў, а князь Канстанцін Астрожскі — 426. Дробны шляхціч, у якога не было сялянаў, пацалаваўшы жонку з дзецьмі, выпраўляўся ваяваць сам.

Галоўная роля ў войску адводзілася кавалерыі. Яна дзялілася на капейнікаў і стральцоў. Капейнікі мелі дужэйшых коней і цяжкую зброю для блізкага бою. Стральцы на лёгкіх хуткіх конях стралялі па ворагу здалёк.

Каманду над злучанымі збройнымі сіламі дзяржавы прымаў гетман. Існавалі пасады вялікага (найвышэйшага) і палявога гетмана.

У мірны час баявым станам рабіліся пушчы, палі і лугі, дзе шляхцічы практыкаваліся ў коннай яздзе і валоданні зброяй.

Пра падрыхтоўку ваяроў-ліцьвіноў пісаў тагачасны паэт Мікола Гусоўскі:

*Князь наш загадваў ствараць*
*у сваіх уладаннях*
*Лагер ваенны пры кожным*
*паселішчы ў пушчах...*
*Выган пры вёсцы, і там ад відна*
*да сутоння*
*Носяцца коннікі з гіканнем*
*цугам па кругу,*
*Шабляй і стрэламі цэляць*
*у вешкі...*
*Звычай у коннікаў быў свае лукі*
*і стрэлы*
*Укручваць у клунак з адзежай*
*і гэтак сухімі*
*Потым выносіць на бераг...*
*Вось рынулі коні,*
*Пырханне чуеш адно, бачыш*
*вушы ды храпы,*
*А на стырне, упіліўшыся*
*ў грывы, мільгаюць*
*Конных галовы. Свабоднаю*
*левай рукою*
*Кожны грабе, памагае каню*
*выбірацца...*

### Мячы, дзіды, арбалеты

Войска Вялікага Княства Літоўскага было ўзброенае не горш, а часам і лепей за арміі іншых еўрапейскіх краінаў. Жаўнеры мелі агняпальную зброю — ручніцы і аркебузы, а таксама ручную, якую яшчэ называлі халоднай. Такая зброя падзялялася на некалькі відаў.



Ілюстрацыі Паўла Татарнікава

Да зброі блізкага бою належалі вострыя з абодвух бакоў мячы. Яны былі аднаручныя і дзвюхручныя. Гэткі меч мог быць блізу двух метраў удоўжкі і важыў пяць кілаграмаў.

Нашы майстры выраблялі выдатныя мячы. Захаваліся звесткі пра тое, як радаваліся тэўтонскія рыцары, калі захапілі ў палон славутага мечніка-ліцьвіна Іллю. Яны прымусілі палоннага працаваць у сваіх майстэрнях, але для чужынцаў ён рабіў горшую зброю.

Калі ваяры сыходзіліся з ворагам вельмі блізка, уход ішлі карацейшыя і вострыя толькі з аднаго боку цесакі і корды. Шляхцічы добра валодалі шаблямі, кінжаламі, шпагамі і канчарамі — мячамі з доўгім клінком-джалам, ад якога не ратавалі панцыры.

Грознай наступальнаю зброяй і ў вершнікаў, і ў пяхотнікаў былі дзіды, даўжыня якіх даходзіла да чатырох метраў. У баі з цяжкай варожай конніцай надзейна служылі абаронцам Айчыны алебарды. У гэтай зброі спалучаліся дзіда, сякера і крук, прызначаны для сцягвання кавалерыста з каня.

Добра дапамагала ў бітве абуховая зброя — сякеры, кляцы (баявыя молаты для прабівання панцыраў), булавы і баявыя цапы — кісцяні.

З даўніх часоў заставаліся ў арсенале ліцьвінскага войска лукі і арбалеты-самастрэлы. Страла з лука магла праляцець трыста метраў. Арбалет дастаўляў далей і меў большую прабіўную сілу, аднак у некалькі разоў саступаў луку ў хуткасці стральбы. Пакуль арбалетнік рабіў адзін стрэл, лучнік паспяваў стрэліць пяць-шэсць разоў.

Ад варожых стрэлаў, куляў і ўдараў ваяра абаранялі разнастайныя кальчугі, панцыры, шаломы і шчыты-тарчы. Свае панцыры і налобнікі мелі баявыя коні.

Апрача кавалерыі і пяхоты войска Вялікага Княства славілася артылерыяй. Гарматныя майстэрні тады называліся людвісарнямі. У сярэдзіне XVI стагоддзя ў Вільні працавала вядомая ва ўсёй Еўропе людвісарня, дзе за дзень маглі вырабіць 18 гарматаў, якія стралялі чыгуннымі ядрамі. Яшчэ адна знакамітая людвісарня была ў Нясвіжы. Шмат якія нясвіжскія гарматы праславіліся ў бітвах і нават атрымалі імёны.

### Мы — ліцьвіны!

У Вялікім Княстве Літоўскім, як і ў іншых еўрапейскіх краінах, існавала рыцарства. Упершыню пра нашых рыцараў гаварылася ў грамаце, якую ў 1387 годзе падпісаў вялікі князь Ягайла.

Беларускае рыцарства на чале з Вітаўтам Вялікім здабыло сабе неўміручую славу пад Грунвальдам. Праз некалькі гадоў да нашага князя прыехалі паслы з Чэхіі. Яны прапанавалі яму стаць чэшскім каралём і бараніць іхнюю краіну ад нямецкіх крыжакоў. Вітаўт застаўся на радзіме, але паслаў на падтрымку чэхам 5-тысячнае войска пад камандаю свайго пляменніка Жыгімонта Карыбутавіча. Беларусы, якіх называлі тады ліцьвінамі, ваявалі поплеч з братамі-чэхамі больш за дзесяць гадоў. І пазней рыцары-ліцьвіны шмат разоў перамагалі ворагаў, абараняючы родную зямлю і дапамагаючы суседзям.

Рыцарамі лічыла сябе ўся шляхта.

Правы і абавязкі рыцараў былі падрабязна запісаныя ў законах. Правілы рыцарскіх паводзінаў перадаваліся ў шляхоцкіх сем'ях ад бацькоў сынам. Рыцары мусілі заўсёды паказваць сілу, мужнасць і розум. Але не для таго, каб проста выхваляцца імі, а каб бараніць слабых, шанаваць жанчын, падтрымліваць царкву. Разам з тым з юных гадоў рыцар не забываўся пра навуку.

Дзеля прымнажэння славы рыцар мог зрабіць падарожжа ў любую, апрача непрыяцельскай, краіну. Закутых у панцыры ваяроў з берагоў Дзвіны, Дняпра і Нёмана бачылі пры дварах уладароў розных дзяржаваў. Некаторыя з нашых землякоў здабылі ў чужых краях шырокую вядомасць і славу. Да прыкладу, шмат вандраваў па Еўропе ў сярэдзіне XV стагоддзя ліцьвінскі рыцар Аляксандр Солтан. Ягоны ваярскі талент і мужнасць высока ацаніў славуты бургундскі герцаг Карл Смелы. У Ангельшчыне за свае рыцарскія ўчынкі Солтан атрымаў ад караля залаты ланцуг. Дадому наш суайчыннік вяр-

нуўся з найвышэйшай рыцарскай узнагародай — ордэнам Залатога Руна.

Добра спраўляцца са шматлікімі нялёгкімі абавязкамі рыцар мог толькі тады, калі старанна клапаціўся пра ўзбраенне. Закон забараняў ваярам мяняцца коньмі і зброяй, каб лепей паказаць сябе на гетманскім вайсковым аглядзе. Махляроў сурова каралі.

Рыцарскія правілы не дазвалялі паражаць праціўніка ззаду. Пячатка ганьбы чакала таго, хто конны забіў пешага або ўзброены — бяззбройнага. Здрада і баязлівасць клалі вечнае кляймо не толькі на ваяра, але і на ягоных нашчадкаў.

Кожны рыцар здзяйсняў подзвігі дзеля гонару Айчыны і дамы свайго сэрца. У кагосьці гэта была каханая дзяўчына ці жонка, у кагосьці маці або сястра. Недзе ў Полацку, Вільні, Нясвіжы ці Горадні дама чакала, калі яе рыцар вернецца з вайны ці далёкай вандроўкі. Але гаварыць пра сыноў, братоў ці каханых стараліся няшмат. Спрадвеку жанчыны ў Беларусі верылі, што калі мужчына ваюе, нельга называць ягонае імя ўголас, бо тады ён можа неспадзявана азірнуцца і трапіць пад варожы ўдар.

Калі ў далёкай ці блізкай краіне ў нашых рыцараў пыталіся, адкуль яны, тыя з гонарам казалі: «Мы — ліцьвіны!»

## Хто мацнейшы ў двубоі?

І ў мірныя часы рыцары надоўга не развітваліся са зброяй, бавячы час на паляваннях і турнірах.

Паляванне лічылася не проста забавай, але і выдатным сродкам умацавання духу і цела рыцара. У сутычках з буйным зверам — зубрам, мядзведзем, дзіком — удасканальвалася валоданне ўсімі відамі зброі.

Рыцарскія турніры, дзе вызначаліся самыя дужыя, хуткія і спрытныя, можна параўнаць з цяперашнімі спартыўнымі спаборніцтвамі. Правілы барацьбы былі падобныя ва ўсёй Еўропе, таму кожнае такое спаборніцтва збірала ваяроў з розных краін.

На турнір рыцары з'яўляліся за чатыры дні да яго пачатку. Першы вечар адводзіўся святочнай вячэры і танцам. Назаўтра суддзі абмяркоўвалі кандыдатуры ўдзельнікаў. Для гэтага на ўсеагульны агляд выстаўляліся іхнія баявыя шаломы і сцягі. Пасля таго, як гучна называлі імя рыцара, кожны з прысутных меў права сказаць сваё слова. Калі пра кандыдата даведваліся нешта нядобрае, ягоны шалом скідвалі на зямлю, і гэты чалавек мусіў вяртацца дахаты.

На трэці дзень рыцары, пакуль што без зброі, прыязджалі на месца спаборніцтваў. Яны ўрачыста прысягалі выконваць усе правілы турніру. Уздоўж рысталішча ладзіліся трыбуны для гледачоў. За турнірамі, што адбываліся на гарадскім пляцы, можна было за плату назіраць з вокнаў блізкіх дамоў. Зрэдку турнірныя гульні праходзілі і ў вялікіх залях палацаў і замкаў.

Дзень спаборніцтваў пачынаўся з таго, што рыцары апраналі панцыры. Зброя ўдзельнікаў, найперш дзіды, павінна была мець прыблізна аднолькавую якасць і даўжыню. Коней таксама падбіралі аднаго росту, каб праціўнікі мелі роўныя ўмовы і перамога залежала толькі ад майстэрства.

Спаборнікі выпрабоўвалі сілу і ваярскае ўмельства і камандамі, і сам-насам. Праціўніка трэба было выбіць з сядла або збіць на дол разам з канём. Пры гэтым забаранялася калечыць чужога каня, біць ззаду або ніжэй за пояс, нападаць на рыцара са збітым шаломам.

Бывала, што баі зацягваліся да позняга вечара. Але нарэшце трубачы гралі адбой, і на святочнай вячэры ўручалі ўзнагароды. Праўда, перад гэтым спаборніцтвы яшчэ працягваліся ў выглядзе ўзаемных застольных жартаў. Часам яны былі вясёлыя, а часам маглі і абразіць.

**Шляхта Вялікага Княства Літоўскага лічыла сябе нашчадкамі ваяўнічага, вольнага і ўдачлівага народа — сарматаў. Калісьці сарматы валодалі велізарнымі еўрапейскімі абшарамі і кідалі выклік магутнаму Рыму**

Аднаго разу на турніры ў Вене немцы пачалі пасміхацца з таго, што ў рыцараў з Вялікага Княства і Польшчы горшае ўзбраенне. Нехта з нашых запытаўся: «Чаму ж вы тады з добрай зброяй прайгралі бітву пад Грунвальдам?» Немцы не супакоіліся і, каб дапячы супернікам, прапанавалі ім купіць за сто злотых свайго самага старога і маларослага каня. Ліцьвіны з палякамі заплацілі грошы, а на наступны дзень запрасілі крыўднікаў на абед, каб пачаставаць свежаю алянінай. Немцы нахвальвалі смажаная мяса, пілі віно і весяліліся. Пры канцы абеду ім на вялікім падносе прынеслі галаву і ногі з капытамі ад іхняга каня. Зразумеўшы, якога «аленя» яны з'елі, нямецкія рыцары схапіліся за мячы, але правілы змусілі іх сесці на месца і прысаромлена заціхнуць.

Такія вось здараліся тады суровыя жарты, аднак і часы былі не лагодныя.

## Турніры ў Вільні

Многія ліцьвіны, як тады называлі беларусаў, выпраўляліся на спаборніцтвы ў заходнееўрапейскія краіны, нават у далёкія Гішпанію і Партугалію, і вярталіся адтуль з узнагародамі. Замежныя турнірныя кнігі мелі асобныя раздзелы, прысвечаныя Вялікаму Княству Літоўскаму. Там змяшчаліся гербы рыцараў і кароткія аповеды пра здабытыя імі перамогі.

У сваю чаргу ваяры з Францыі, Ангельшчыны, Нямеччыны, Італіі, Чэхіі, Вугоршчыны ды іншых краёў прыязджалі памерацца сіламі ў нашую сталіцу Вільню. Асабліва часта турніры адбываліся ў нас у XVI стагоддзі, калі вялікім князем быў Жыгімонт Аўгуст. Некалькі тысяч гледачоў бачылі ў 1546 годзе бой, у якім сышліся ліцьвін Габрыэль Тарла і прускі рыцар Лягендорф. Доўгае і зацятае адзінаборства выйграў, хоць і быў паранены, наш зямляк.

Праз год на вялікія рыцарскія спаборніцтвы ў Вільню з'ехаліся рыцары з дзесяці краін. Апрача ваярскіх двубояў турнірнікі бралі прыступам «пацешны» драўляны замак. На рысталішча выходзіў і перамагаў сам гаспадар Жыгімонт Аўгуст. Але найбольш запомнілася віленчукам і гасцям, як, надзеўшы панцыр, у жартоўны бой адразу з двума рыцарамі ўступіла ліцьвінка Зоська Доўгая, якую ўся Вільня паважала за спрыт і весялосць. Ваяры-мужчыны крыху разгубіліся. Зоська тым часам нядрэнна ўпраўлялася з дзідаю, і суддзі пад рогат прысутных абвясцілі кабету мацнейшай.

Самым доўгачаканым момантам было ганараванне найлепшых рыцараў. Калісьці пераможца проста забіраў сабе каня і зброю суперніка. Потым з'явіліся іншыя ўзнагароды: срэбны панцыр, меч з залатым дзяржальнам, залаты рыцарскі пояс і такія самыя астрогі-шпоры.

Прызы прысуджаліся і тым рыцарам, якія найдаўжэй пратрымаліся на рысталішчы і захавалі некранутымі аздобы на шаломах. Ушаноўвалі таксама за самы трапны ўдар і самую вялікую колькасць скрышаных дзідаў праціўніка. Адмысловы прыз чакаў рыцара, які прыехаў на турнір з самай далёкай краіны.

Галоўную ўзнагароду звычайна ўручала жанчына, якую выбралі «каралевай любові». Побач з ёю лепшыя месцы на трыбунах займалі дамы, якія былі ганаровымі суддзямі.

## Нашчадкі сарматаў

Шляхта Вялікага Княства Літоўскага лічыла сябе нашчадкамі ваяўнічага, вольнага і ўдачлівага народа — сарматаў. Калісьці сарматы валодалі велізарнымі еўрапейскімі абшарамі і кідалі выклік магутнаму Рыму. Паступова шляхцічы пачалі называць сябе сарматамі, і ў выніку два гэтыя словы сталі азначаць адно і тое ж.

Бацька выхоўваў сыноў у «сармацкіх» звычаях. З малых гадоў шляхціч-ліцьвін ведаў, што найдаражэйшае ягонае багацце — конь і шабля.

У мірны час шабля вісела на сцяне ў гаспадаравай спальні, але доўга ніколі не адпачывала. Сармат мусіў перадаць сынам не толькі зброю, але і ўласныя сакрэты абыходжання з ёю.

Хлопчыкі ўжо ў раннім дзяцінстве вучыліся ездзіць вярхом, фехтаваць, страляць з лука і кідаць дзіду. Шмат увагі надавалася практыкаванням на развіццё сілы, спрыту, цягавітасці.

Шляхцічы-сарматы не забываліся і пра выхаванне дачок. У падлеткавым веку іх звычайна пасылалі да двара больш знакамітага і багатага сваяка. Там дзяўчынкі навучаліся не толькі добрым манерам, танцам, гульням, але таксама коннай яздзе і страляню з лука.

Не менш, чым за зброяй, сапраўдны сармат сачыў за сваім парадным адзеннем. Яго ўпрыгожвалі перламі, золатам, футрам гарнастая. У модзе былі накідкі са шкураў драпежных звяроў — ваўкоў, рысяў, мядзведзяў. Яны падкрэслівалі ваяўнічасць і сілу гаспадара. «Сармацкія» кашулі, каптаны ды іншае адзенне шылі з дарагіх і яркіх тканін пурпуровага, блакітнага, жоўтага і зялёнага колераў. Багатыя і пашытыя з добрым густам уборы паслоў Вялікага Княства ўражвалі прыдворных усёй Еўропы.




Але галоўнае было не адзенне, а тое, што шляхцічы-сарматы сапраўды вызначаліся рыцарскімі паводзінамі і адданасцю роднай зямлі. Сваім дэвізам яны абралі словы: «Жыццё — Айчыне, гонар — нікому!»

І праз стагоддзі нашыя шляхцічы захавалі добрыя даўнія традыцыі. Некаторыя памылкова называюць шляхту былога Вялікага Княства Літоўскага польскай. Напраўду ж яна ніколі не захоплівала гэтай зямлі. Наадварот, заўсёды бараніла яе ад ворагаў, паўставала супроць акупантаў і, хоць пазней і карысталася часта польскаю мовай, добра ведала мову і звычаі сваіх продкаў. Якраз з беларускай шляхты выйшлі паўстанскія правадыры, палітыкі, культурныя дзеячы XIX — пачатку XX стагоддзя.

Сёння нашых прапрадзедаў-сарматаў можна ўявіць дзякуючы старадаўнім партрэтам. Іх вы пабачыце, калі прыйдзеце на экскурсію ў нацыянальныя гістарычны і мастацкі музеі Беларусі. У кнізе Уладзіміра Крукоўскага «Срэбная страла ў чырвоным полі» пералічаны беларускія роды, якія належалі да шляхты. Знайшоўшы там сваё прозвішча, вы можаце даведацца, ці былі шляхцічамі вашыя прадзеды.

## «Срэбны Адзінарог» і «Жалезны Воўк»

Звычаі, правілы і забавы рыцараў Вялікага Княства не забытыя і ў наш час. Іх зберагае моладзь з рыцарскіх клубаў. Толькі ў Менску такіх клубаў блізу пятнаццаці, а ва ўсёй Беларусі — некалькі дзясяткаў.

Цяперашнія рыцары маюць майстэрні, дзе вырабляюць сабе баявы рыштунак, за які не сорамна было б і пяць стагоддзяў таму. Дзяўчаты шыюць паводле даўніх узораў сукенкі, развучваюць танцы, якія выконвалі іхнія прабабулі ў палацах Вітаўта і Жыгімонта Аўгуста.

Юнакі з беларускіх рыцарскіх клубаў штогод заваёўваюць узнагароды на святкаванні Грунвальдскай перамогі ды іншых сучасных турнірах. У розных краінах ведаюць пра менскія клубы «Ордэн Паўночнага Храма», «Срэбны Адзінарог», «Рыцары Вялікага Княства», пра палачанаў і наваполачанаў з «Жалезнага Ваўка» і «Чорнага Воіна», магілёўцаў з «Барысфена».

У Менску праходзіць фэст старадаўняй культуры «Белы замак». Разам з рыцарскімі баямі ў яго праграме — спаборніцтвы лучнікаў і арбалетнікаў, конкурсы сярэднявечных убораў і канцэрты тагачаснай музыкі. На некалькі летніх дзён у рыцарскую сталіцу ўсёй Усходняй і Цэнтральнай Еўропы ператвараецца наш старажытны Навагрудак, які быў першай сталіцаю Вялікага Княства Літоўскага.

Шануючы памяць сваіх герояў, аднаўляючы іх традыцыі, мы кажам свету, што беларусы — еўрапейскі народ з багатай гісторыяй.

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 8 (108) | 28 жніўня 2015 | № 32 (449) Новы Час

# Невядомы пераклад Гальяша Леўчыка

**Беларускі і польскі кампазітар, дырыжор, педагог і публіцыст Станіслаў Казура (1881–1961), які амаль усё жыццё пражыў у Варшаве, шчыра сябраваў з беларусамі.**



Станіслаў Казура



Гальяш Леўчык

Сам кампазітар быў родам з Пастаўшчыны. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, потым працягваў вучыцца ў Вільні, у тым ліку і музыцы. У 1907 годзе Станіслава Казуру запрасілі працаваць арганістам у Нясвіж, дзе ён арганізаваў змешаны хор, які вызначаўся высокім прафесіяналізмам, нават выконваў «Лотэрыю», складаны музычны твор Станіслава Манюшкі. Па пратэкцыі музычнага дзеяча дэкана Дзвінскага касцёла Секлюцкага і пры падтрымцы і апякунстве Радзівілаў у 1907 годзе Станіслаў Казура паступіў у Варшаўскую кансерваторыю. А потым працягваў музычную адукацыю ў Рыме, дзе ў 1914 годзе скончыў Акадэмію Святой Цэцыліі (Accademia Nazionale di Santa Cecilia), а таксама ў Парыжы.

Жывучы ў Варшаве, кампазітар арганізаваў у філармоніі хор, які налічваў дзвесце ўдзельнікаў. Ён выкладаў у Варшаўскай кансерваторыі сальфеджыо, садзейнічаў выданню дзяржаўнага дэкрэту аб абавязковым навучанні музыцы і спевам у школах. Пры Варшаўскай кансерваторыі Станіслаў Казура арганізаваў факультэт па вывучэнні музыкі і спеваў у агульнаадукацыйных школах. Для гэтага факультэта ён напісаў і выдаў дзясяткі дапаможнікаў па спевах...

Станіслаў Казура шчыра і да самай смерці сябраваў з беларусамі Варшавы. У польскім асяроддзі ён рэдка меў аказію пагутарыць на беларускай мове. Таму беларуская мова, якою ён карыстаўся, была крышачку архаічнай, была гэта мова нашаніўскай пары. Такую мову вынес Станіслаў Казура з бацькоўскай хаты і такую захаваў на ўсё жыццё. Здавалася, што ён нічога больш на свеце не любіў і не хацеў, каб толькі пагутарыць на роднай мове з беларусамі...

Сябраваў Станіслаў Казура і з беларускім паэтам Гальяшом Леўчыкам (1880–1944). У 1920 годзе кампазітар папрасіў Леўчыка перакласці на беларускую мову верш польскага паэта Эдварда Слоньскага (1872–1926) «Jeszczem wciąż pełen wiosny...» («Яшчэ вясну ўсё бачу...»). Кампазітар напісаў музыку да гэтага літаратурнага твора і хацеў, каб ён гучаў і па-польску, і па-беларуску. Гальяш Леўчык верш пераклаў і нават прысвяціў свой пераклад Станіславу Казуру. Гэты пераклад паэт уключыў у свой зборнік «Беларускі жаўранак», але ён так і не пабачыў свет. І ніколі пераклад верша не друкаваўся. Таму прапануем яго чытачам «Літаратурнай Беларусі».

**Сяргей Чыгрын**

### Яшчэ вясну ўсё бачу...

Эдвард СЛОНЬСКІ

*1*
*Яшчэ вясну ўсё бачу,*
*На долю жду сваю,*
*А ўжо і восень беліць*
*Галованьку маю.*
*Прыяцелі мне кажуць:*
*Ты сёння штось не той!—*
*І праўда! Штодня думак*
*Ўмірае па адной.*
*Жыццё памалу тухне,*
*Як тухне ў прыску жар, —*
*Над вухам хтось на скрыпцы*
*Свой разлівае чар.*
*Дзіўны ж той музыка —*
*Ўсё глыбей грае ён,*
*І плача тая скрыпка,*
*Нібы па смерці звон.*
*Нічога, брацця, што мне*
*Сівее галава,*
*Наступіць лепша доля —*
*Яшчэ ў мяне вясна!..*

*2*
*Сваёй чакаю долі*
*Ужо я два гады...*
*Жыццё маё адходзіць*
*Няведама куды.*
*У ціш адходзіць сонну*
*Аж за дзясяткі гон,*
*А мне май месяц сніцца —*
*Вось цэлы ў кветках ён...*
*Штось ў высь мяне ўзнімае,*
*Штось кажа ў даль ляцець...*
*І хочацца старому*
*Вясны сваёй жалець.*
*На клумбу цветавую*
*Груз хтосьці паскідаў,*
*Апошнія ўжо кветкі*
*Мароз пад вокны сцяў.*
*Прыяцелі мне кажуць:*
*Ты сёння штось не той,*
*І ўліўся горкім ядам*
*Сон неспакойны твой.*
*Нічога, брацця, другі,*
*Яшчэ пайду скакаць,*
*Яшчэ ў Купалле папараць*
*Мне будзе расцвітаць!..*

*3*
*Такі ж прайшла вясна ўжо,*
*Такі ж пайшла з двара,*
*І кончылась без следу*
*Святаў маіх пара...*
*І сонейка спаліла*
*Цвет зелянеўшых ніў,*
*І папараць не цвіла,*
*Як дзень Купалля быў.*
*Ніводзін сон не стаўся,*
*Нішто не выйшла ў яў,*
*Як восень наступіла —*
*Рой думак тых сканаў.*
*Прыяцелі мне кажуць:*
*Адцвіў твой месяц май!*
*І ад вясны зялёнай*
*Застаўся... баю-бай.*
*Нічога, брацця, веру:*
*Яшчэ настане час,*
*Што будзе май цвітучы*
*Гасціць ў мяне не раз!..*

*4*
*Яшчэ прайшло гады два —*
*Дух, што ўсё чакаў*
*На май вясну і сонца —*
*У вечны сон папаў...*

**Варшава, 1920 г.**

# Немаленькая краіна

**«Каб любіць Беларусь нашу мілую, Трэба ў розных краях пабываць» — у гэтых вядомых радках Алеся Ставера фактычна закладзена ўся праграма-максімум сучаснага беларускага патрыятызму. Каб любіць Радзіму, трэба пабываць у іншых краінах, пажадана пабольш і падалей.**

Яшчэ са школы нас прывучаюць да таго, што мы жывем у маленькай краіне. На першы погляд здаецца, што ў нас усё кампактнае: і тэрыторыя, і гісторыя, і культура, і літаратура, але гэта толькі на першы погляд. Калі капнуць глыбей, то адкрываецца зусім іншая рэальнасць.

Каб зразумець гэта, дастаткова толькі патрапіць у краіну, якая тэрытарыяльна ў чатырнаццаць разоў меншая за Беларусь. Гэта я пра Чарнагорыю, калі што. Насельніцтва яе ўсяго 622 тысячы чалавек. Вось дзе сапраўды «маленькі, але ганарлівы» народ з беларускіх показак. Чарнагорцы, праўда, не надта перажываюць з таго, што іх няшмат. Хутчэй наадварот — ганарацца гэтым. Адзін мой знаёмы чарнагорац вельмі здзівіўся, калі я сказаў яму, што многія беларусы лічаць сваю краіну маленькай. «Маленькая краіна — гэта калі на ўроку геаграфіі не патрэбны карты, бо ўся краіна бачна праз вакно», — пажартаваў у адказ ён пра сваю Радзіму.

У Еўропе шмат краін, меншых за Беларусь і па колькасці насельніцтва, і тэрытарыяльна, але ніхто, здаецца, з іх жыхароў не комплексуе з гэтай прычыны. Наадварот. Удвая меншая за нас Вугоршчына настолькі суровая краіна, што нават расійскамоўныя экскурсаводы невугорскага паходжання пачынаюць свой расповед з таго, што паведамляюць не толькі пра дзесяць мільёнаў вугорцаў, якія жывуць у краіне, але і пра пяць мільёнаў суайчыннікаў, якія знаходзяцца па-за межамі метраполіі. Былыя вугорскія тэрыторыі, натуральна, таксама не забываюць згадаць...

Усе нашыя комплексы ад няведання, ад нежадання ведаць і ад пагарды да свайго. Гэта такая форма мазахізму з нацыянальнымі асаблівасцямі. Лечыцца яна проста — Вікіпедыяй ці кнігай.

На нашай зямлі безліч месцаў і мястэчак, дзе адбываліся грандыёзныя падзеі, спыняліся і жылі сусветнавядомыя асобы. Праз Беларусь, гэтак жа, як і праз іншыя еўрапейскія краіны, ва ўсіх напрамках ездзілі людзі, якія пакідалі пасля сябе спадчыну ўбачанага. Час мінае, і ў памяці губляюцца важныя штрыхі да партрэту краіны, забываецца ўсё тое, што яшчэ ўчора было важным.

Нам ёсць чым ганарыцца і ёсць пра што расказаць. Прынамсі, гэтых расповедаў хопіць, каб пагаварыць пра Беларусь з выпадковым госцем, які нічога не ведае пра наш край. Расказваючы пра краіну і паказваючы ў вакно на беларускія вёскі, мястэчкі і гарады, можна і самому пачаць разумець нешта звышнатуральнае, метафізічнае, схаванае ад чужых вачэй. Тое, чаго даўно ўжо няма ў вымярэнні фізічным, чаго не здольныя ўбачыць пустыя вочы і тое, што стала прысутнічае ў нашым духоўным жыцці, вісіць дамоклавым мячом над свядомай беларускай галавой.

Калі я вяртаюся з-за мяжы праз Брэст, заўжды чакаю Стоўбцаў — для мяне гэта знак, што дом ужо зусім побач. Коласаўскія мясціны і гадзіна язды да сталіцы. Ля памежнай станцыі Коласава ўвосень 1933 года адбылася знакавая падзея для беларусаў: бальшавікі памянялі палякам бацьку беларускай драматургіі Францішка Аляхновіча на бацьку беларускай граматыкі Браніслава Тарашкевіча. Яшчэ праз некалькі кіламетраў невялікая чыгуначная станцыя Негарэлае, якая ў свой час была нанесена на ўсе карты свету. Адсюль пачынаўся шлях савецкіх грамадзян у вольны свет, сюды ж прыязджалі вядомыя і не вельмі прадстаўнікі буржуазнага свету, каб пазнаёміцца бліжэй з таямнічай першай краінай пралетарыяў і сялян. Адсюль адпраўляўся вядомы ў міжваенны перыяд заходнееўрапейскі экспрэс «Парыж-Негарэлае», на якім выпраўляліся ў выгнанне з радзімы многія прадстаўнікі інтэлегенцыі былой Расейскай імперыі. Аляксандра Тверыцінава прысвяціла гэтаму цягніку аднайменны раман, у анатацыі да якога так і сказана: пра лёс эміграцыі і вяртанне на Радзіму.



На гэтай станцыі ў 1928 годзе дэлегацыя вядомых беларускіх пісьменнікаў, сярод якіх былі Цішка Гартны і Янка Купала, Рыгор Кобец і Платон Галавач, Андрэй Александровіч і Міхась Лынькоў, сустракалі Максіма Горкага. З яе выпраўляўся ў Парыж Якуб Колас, каб пачытаць тамтэйшым слухачам свае вершы. Уладзімір Маякоўскі, рыхтуючыся да свайго грандыёзнага падарожжа па краінах Еўропы і Амерыкі, прысвяціў Негарэламу некалькі радкоў у сваім вершы «Мы і яны». Перад адкрыццём Амерыкі ён адкрыў для сябе беларускі край. Праз Негарэлае ў розны час праязджалі Герберт Уэлс, Стэфан Цвэйг, Рамэн Ралан ды іншыя вядомыя асобы.

З гэтым месцам звязана і гісторыя маёй сям'і: у тым жа 1928 годзе, калі беларуская літаратары сустракалі Максіма Горкага, мая бабуля ва ўзросце 4 гадоў разам з усёй сям'ёй выправілася таксама ў падарожжа. Праўда, не ў Парыж, каб шпацыраваць па Манмартры, а дзеля таго, каб асвойваць цаліну ў Чалябінскай вобласці. Для такіх вандроўнікаў існаваў адмысловы кур'ерскі цягнік — «Негарэлае–Уладзівасток». Добра, што перасяленне было дабраахвотным, таму надоўга яны не затрымаліся. Вярнуліся дамоў у трыццатыя, тым жа самым цягнікам...

У Парыж, дарэчы, можна і цяпер трапіць цягніком з Беларусі, праўда, ён маскоўскі, дорага каштуе і ў Негарэлым не спыняецца.

Гэты тэкст — толькі павярхоўны накід алоўкам на мятым аркушы з вакна турыстычнага аўтобуса, які адзінока ляціць па пустой начной трасе ў мінскім напрамку. Без падрабязнасцяў, паглыбленняў і фактalogіі. Калі капнуць глыбей, можна знайсці нашмат цікавейшае, я ўпэўнены...

**Канстанцін КАСЯК, budzma.by**

# «Я — толькі голас дрэў...»

**Васіль Дэбіш. Чуйнар: вершы — Мінск, «Кнігазбор», 2015. — 224 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»)**




Прайшло ўсяго тры гады, як чытачы пазнаёміліся з паэтычным зборнікам Васіля Дэбіша «Праз дождж». Назвай чарговага стала слова, уведзенае ва ўжытак Нінай Мацяш. Чуйнар — гэта паэт у шэразе тых, хто піша вершы, бо адчуванне, душэўнае перажыванне ставіцца ім вышэй за ўсё. Ён, паводле Андрэя Вазнясенскага, не можа трываць, «як крычыць палоска святла, прышчымленага дзвярыма». Ён — «голас дрэў... ціхі спеў ветру, спыненага на ўзлёце»...

Аўтар «пачынае з Радзімы». Шлях да яе — няпростае пераадоленне душэўнай знямогі, страху, спакус. Радзіма для лірычнага героя — гэта воля, якую не ведаюць гномы, што жывуць у норах. Ім няўцям, што недзе звоняць крыніцы, лётаюць птушкі. Куды мілей чарвякі і слізкія макрыцы. Гэтага светлага слова ніколі не чулі ні сляпыя краты, ні кажаны ў сырых пячорах.

У пошуках адказу на спрадвечныя пытанні быцця Васіль Дэбіш нярэдка выходзіць на запамінальныя філасафічныя абагульненні:

*Мы пыл. Мы толькі жменька пылу,*
*Што гоніць вецер па зямлі.*
*Чапляемся, што мае сілы,*
*За дрэвы, камяні, камлі.*

Разважанні аўтара тым глыбей, чым на больш вузкае кола нашага быцця накіраваны яго паэтычны зрок. Так, у вершы «Гандляр» нікчэмны, прыгоблены чалавечак настылым зімовым днём звысоку глядзіць на жабрака.

*Бы мёд, спакусу велічы*
*П'е сквапная душа.*

Ох ужо гэтае жаданне быць хоць на шапку вышэй!.. Прачытаў Васілёва — і нечакана выплыла сваё. Неяк у мужчынскай кампаніі, ужо перад тым, як разыходзіцца, раённы ляснічы — няпрослы, лысы, маўклівы на працягу ўсяго застолля чалавечак — усё ж не вытрымаў, неяк нават вінавата, нібы прабачаючыся, выказаў тое, што муляла ўвесь вечар: «І ўсё роўна я перад вамі, хлопцы, хоць трохі начальнік!»

Ці вось яшчэ — верш «Павук». На пытанне ўнука, што вяжа зламысьнік, стары адказвае:

*Жыццё ён нітуе і смерць*
*Сваёй павуцінай ліпучай.*

Так пабудавана ўжо чалавечае жыццё, што вельмі часта высокія мары, добрыя памкненні і спадзяванні гінуць у сілках нянавісці і распусты, у нератах зайздрасці і маны, якія расстаўлены на шляхах-дарогах.

Думаецца, найбольш выразна, кранальна гучаць у новай кнізе аўтара два матывы: песня роднай прыроды і шчымлівы ўспамін пра бацькоўскую хату. Васіль Дэбіш з тых беларускіх творцаў, для каго Радзіма — гэта найперш за ўсё маці. Паэт, які, сам жывучы ў цесным пакойчыку інтэрната, даглядаў цалкам бездапаможнага роднага чалавека да канца жыцця, мае права на вершы пра сыноўнюю любоў. Яны ідуць ад сэрца і, патрэбна сказаць, прыкметна вылучаюцца мастацкай вартасцю і непадробнай шчырасцю.

*З-пад ног яе ўцякаюць крумкачы.*
*Анёл глядзіць з нябёсаў вінавата.*
*Абдымкі расхінае, ды маўчыць.*
*Ідзе душа. Спяшаецца да хаты.*

*Не, не ідзе яна ўжо, а плыве*
*Бялюткім воблакам па адзвінелых росах.*
*Світае. І яснеецца ў траве*
*След ног яе маленькіх, кволых, босых.*

Верш «***Убачылася сёння ўночы мне...», адкуль узяты прыведзеныя радкі, — сапраўдны гімн сыноўняй любові. І мне, чытачу, услед за паэтам так хочацца вярнуцца ў чысты-чысты свет дзяцінства,

*Ні мітульгі дзе, ні турбот,*
*Дзе маці, гожая такая,*
*Стаіць пачціва ля варот,*
*З рук сонца ў неба выпускае.*

Узнёсла, узвышана, з бязмернай любоўю... Як і трэба гаварыць, пісаць і думаць пра тую, каму мы абавязаны жыццём, талентам, сонцам на небе...

А яшчэ мне падабаюцца вершы Васіля Дэбіша пра родныя краявіды. Яны — як мурожны астравок у мутным віры паўсядзённасці.

*Пасу світанак. Так напеўна дровы*
*Патрэскваюць у ветлівым кастры.*
*Усход, нібы ружовыя каровы,*
*З туману выплывае, з-за гары.*

Будзе няпраўдай сказаць, што абсалютна ўсе творы, што склалі зборнік, з'яўляюцца верхам паэтычнай дасканаласці. Асобныя вершы псуе залішняя дэкларатыўнасць, часам аўтару бракуе тэматычнай і вобразнай навізны. Але пры ўсім тым тут няма «задушаных слоў, забітых пачуццяў», на якія не мае права сапраўдны чуйнар.

**Мікола СЯНКЕВІЧ**

# Экзістэнцыялізм па-беларуску

**Барыс Пятровіч. Пуціна. Мінск: Кнігазбор, 2015. 200 с.**




Пад адной вокладкай з'явіліся дзве аповесці Барыса Пятровіча «Пуціна» і «Стах». Творы напісаны адпаведна яшчэ ў 2003 і (увага!) 2002 — 1995 гг.

Аўтар не грэбуе адхіленнем ад акадэмічнага выкладання думак. Хоць і ў нейкія нетры авангардызму не імкнецца. Таму ва злоўжыванні нестандартнымі прыёмамі Б. Пятровіча не абвінаваціць. Яны прымяняюцца роўна настолькі, колькі неабходна для мастацкага выяўлення, раскрыцця пульсу твора. Так, «Пуціна» ўвогуле напісана ў адзін сказ. Прычым разбіты дзесяціградковымі порцыямі. Думаецца, літаратуразнаўцам будзе над чым паламаць галаву.

Нямала матэрыялу падкінута і філосафам, перадусім якія вывучаюць экзістэнцыялізм, — гэтак востра героі Б. Пятровіча перажываюць сваё існаванне, падзеі якога, нават збольшага трывіяльныя, стваpаюць глебу для галавы і сэрца. У першай аповесці даходзіць нават да фантасмагарычных сюжэтаў. Другому ж твору яны не патрэбны, бо на Сахаліне, куды жыццё закінула героя — маладога журналіста, сама рэальнасць незвычайная.

Усё ж пры цвёрдай наяўнасці еўрапейскай традыцыі (па ходзе тэкстаў ненавязліва знаходзіцца пераклічка і дыялог з экзістэнцыялісцкімі мыслярамі і не толькі — перш за ўсё Сартрам, Камю і Кафкай) творы Б. Пятровіча характарызуюцца элементамі ўсходніх матываў і разам з тым непрыхаваным беларускім характарам філасофіі існавання. Напрыклад: «...там, на Сахаліне, ён упершыню задумаўся над тым: хто я ёсць і што я ёсць без роднай мовы, бо да таго ганарыўся, што чыста-чыста, зусім без акцэнту, размаўляе па-расейску... менавіта адтуль, з Сахаліна, ён вярнуўся на Беларусь беларусам, бо іхняя спроба размаўляць па-беларуску не наткнулася на неразуменне і сурпацьстаянне: «гаварыце на нармальным языку»».

Тым не менш павышаная інтэлектуальнасць прозы Б. Пятровіча (і не толькі гэтай) не стане перашкодай для ўспрымання і чытачу без філалагічнай ці філасофскай адукацыі. Таму што ў аснове твораў ляжыць усё той жа рэалістычны погляд на свет з адпаведнымі чалавечымі каштоўнасцямі і... слабасцямі.

# Ў + Є, або Да «Справы»!

**Справа: альманах: вып. 1 — 2015 / Гал. рэд. А. Навapыч. Мінск: Смэлтак, 2015. 240 с.**




Гісторыя Беларусі багатая на культуру іншамоўнай літаратуры — лацінскай, польскай, рускай... Але ад мастацкага слова на мове нашых паўднёвых суседзяў, створанага хоць сабе і на беларускай зямлі ці выхадцамі з яе, звычайна адмяжоўваліся. Разам з тым за апошнюю чвэрць веку стасункі беларускага і ўкраінскага дыскурсу выйшлі за рамкі так званых узаемасувязей. Відавочнай зрабілася хутчэй узаемапранікненне культур. Адной са знакавых фігур і яскравым прыкладам тут з'яўляецца Наталка Бабіна — беларуская пісьменніца і журналістка ўкраінскага паходжання.

Асабліва шмат украінскаму прыгожаму пісьменству даў паўднёва-заходні кут Брэсцка-Пінскага Палесся. Дмытро Фальківськы (1898–1934), Валадымыр Лэанюк (1932–2013), Астап Лапськы (1926–2012)... Ці мала прыйшло на службу ўкраінскай культуры з таго невялікага лапіка! Не адзінкавыя выпадкі эміграцыі сярод знаных беларускіх пісьменнікаў, якія не закінулі творчы працэс на роднай мове. Алесь Асташонак (1954 — 2004), Іна Снарская (нар. у 1965), Уладзіслаў Ахроменка (нар. у 1965)...

Абодва спісы можна працягваць. Кола атрымаецца і нявузкае, і пажонднае.

Таму ўзнікненне Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў невыпадковае, з трывалым базісам (і сваім сімвалам — суме ўнікальных літар беларускага і ўкраінскага алфавітаў Ў + Є). Адпаведна жыццём спароджана і літаратурна-мастацкае выданне «Справа». Слова для назвы аднолькавае і ў беларускай, і ва ўкраінскай мовах. Прычым лексема неадназначная: гэта можа быць і назоўнік, і прыслоўе — кожны варыянт прыхоўвае за сабою пэўную, у тым ліку палітычную, сімвалічнасць.

На першы раз пад вокладкай апынулася без малога паўсотні прозвішчаў. У большасці сучаснікаў. Жанры — самыя розныя: і лірычныя вершы, і кароткая проза, навуковыя і публіцыстычныя работы. Галоўнае — каб тэматыка ці біяграфія творцы была засяроджана на кропках беларуска-ўкраінскага судакранання.

*Білорусь, ти моя друга мати,*
*Я не мачуху бачу в тобі.*
*І не с силах, щоб осторонь стати,*
*Коли ти потопаєш в журбі.*

Так прызнаецца ўкраінец Валадымыр Мурашкэвыч, доля якога цесна пераплялася з «другой маці» ажно да таго, што яе зямелька прытуліла патрыёта абедзвюх краін.

Адметна, што ў альманаху мірна суседнічаюць усе тры ўсходнеславянскія мовы, плюс палескія дыялекты. А нароўная мастацкая якасць твораў становіцца хутчэй падкрэсленнем рознаўзроўневых кропак узаемапранікнення старажытных культур Беларусі і Украіны. Аднак характарыстычнай рысай ці не кожнай старонкі выдання стала душэўнасць. Адчуваецца, што нават слабаватыя ў тэхнічным плане творы пачэрпнуты з прадоннаў творчай псіхеі. Такую планку складана будзе вытрымаць у наступных нумарах. Тым не менш, яна робіць альманах, як на суб'ектыўнае меркаванне, лепшым сярод беларускіх аналагаў бягучага стагоддзя.

«Давайце разам рабіць прыгожыя, вартыя, добрыя «Справы»», — такі заклік гучыць напрыканцы ўступнага слова і адрасаваны ці не кожнаму з нас.

Пажадаем жа новаму выданню: у добры шлях!

# Альманаху «Гоман» скора 10!

**Гаманлівае дрэва любові / выбраныя творы; пад рэд. М. М. Трафімчука. Мінск: Смэлтак, 2014. 285 с.**




Не сакрэт, што Беларусь — краіна паэтаў. Нічога дзіўнага, што ўсім не прабіцца ў друк, тым больш у «тоўстыя» выданні. Аднак на такой багатай творчай глебе не маглі не ўзнікнуць альтэрнатыўныя праекты.

Адным з іх стаў запачаткаваны Міколам Трафімчуком выдавецкі праект «Гоман» — альманах, які стаіць на парозе 10-годдзя. Многія скептыкі (у тым ліку аўтар гэтых радкоў) меркавалі, што выданне доўга не пратрымаецца і наступіць яму гамон. Аднак сёння ў якасці доказу, што чуткі пра смерць праекта моцна перабольшаныя, выходзіць анталогія твораў. Прычым — у трох тамах. У канцы 2014 г. з'явіўся першы. Ён рэпрэзентуе самы розны творчы фармат — ад вершаў да літаратуразнаўчай крытыкі. А геаграфія аўтараў — яшчэ шырэйшая! Па ёй ствараецца ўражанне, што няма на Беларусі куточка без людзей з іскрынкай слоўнага дару.

Выбіраць галоўны рэдактар мае з чаго: усіх нумароў альманаха скора набярэцца 20. Яны прадставілі свету больш чым 1000 (!) аўтараў. Да таго ж выданне характарызуецца не толькі колькаснымі паказчыкамі, але і якаснымі. Дастаткова сказаць, што сябрамі творчых саюзаў потым сталі некалькі дзясяткаў чалавек.

Не сканчаецца плынь аўтараў альманаха, далучыцца да якога запрашаюцца ўсе жадаючыя: almanah@tut.by.

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

# «Зелена хвиля»

**З 6 па 9 жніўня ў Адэсе адбылася XIX Міжнародная кніжная выстава-ярмарка «Зялёная хваля» — знакавы кніжны форум Украіны.**




На чатыры дні ў Адэсу з'ехаліся прадстаўнікі кніжнага свету, выдаўцы, кнігаашы, чытачы. На фестывалі прайшлі прэзентацыі кніжных навінак, сустрэчы з аўтарамі, аўтограф-сесіі, майстар-класы вядомых літаратараў, конкурсы, кіназала. Быў і шырокі асартымент кніжнай прадукцыі: мастацкая, навучальная, навукова-папулярная, тэхнічная, дзіцячая літаратура, а таксама перыядычныя выданні і друкаваная графіка.

Паралельна з «Зялёнай хваляй» прайшоў і III Адэскі Карнейчукоўскі фестываль дзіцячай літаратуры — адзіны ва Украіне фестываль, цалкам прысвечаны дзіцячай літаратуры і творчасці. Фестываль праводзіцца дзеля таго, каб развіваць у падрастаючага пакалення любоў да чытання і творчасці, мастацкі і эстэтычны густ, выяўляць новыя літаратурныя таленты, у тым ліку і сярод юных аўтараў.

# Фотаархіў Хэмінгуэя

**Эрнэст Хэмінгуэй — не толькі культавы амерыканскі пісьменнік, але і чалавек, які яшчэ ў XX стагоддзі стаў жывой легендай і ўзорам для пераймання ў паводзінах, вопратцы, знешнасці.**



Нядаўна была аблічбавaная частка яго асабістага архіва, які захоўваецца ў бібліятэцы Джона Кэнэдзі ў Бостане. Гэтая калекцыя — сапраўдны скарб для аматараў Хэмінгуэя, бо яна ўтрымлівае не толькі рэдкія фатаграфіі, але і лісты, квітанцыі, рыбалоўныя часопісы, кнігі і іншыя дакументы.

Хэмінгуэй — лаўрэат Нобелеўскай і Пулітцэраўскай прэмій, неадназначная фігура ў свеце літаратуры і журналістыкі, геданістаў па перакананнях і марнавальнікаў жыцця па меркаванні іншых. Цікавасць да яго персоны не слабее з гадамі. Таму з'яўленне ў сетцы аблічбаваных фота са старых альбомаў пісьменніка ў першыя хвіліны прыцягнула асаблівую ўвагу тысячаў карыстальнікаў.

Што робіць жыццё асэнсаваным і цікавым? Хэмінгуэй умеў атрымліваць задавальненне ад жыцця: паляванне, рыбная лоўля, выпіўка і карыда.

# Ген Сталіна

**Расійскі пісьменнік Віктар Ерафееў, які цяпер жыве ў Нямеччыне, запатрабаваў ад Еўропы неадкладна спыніць вайну ва Украіне.**

Пра гэта ён заявіў у інтэрв'ю швейцарскаму часопісу «Züritipp», што з'яўляецца бясплатным дадаткам да газеты «Tagesanzeiger».

«Спыніце вайну ва Украіне! Трэба выкарыстоўваць усе дыпламатычныя інструменты. Неадкладна! Тое, што адбываецца там, уяўляе велізарную небяспеку для ўсяго свету, — выказаўся В. Ерафееў. — Больш за тое, Захаду варта мець план для Расіі пасля Пуціна, бо гэты постмадэрнісцкі дыктатар, па вялікім рахунку, прадстаўляе не ўсіх расіян. Усе павінны нарэшце зразумець гэта».

Пуцін, па словах В. Ерафеева, «уяўляе з сябе моцнага лідэра».



На пытанне выдання пра тое, ці з'яўляецца Расія жорсткай краінай, В. Ерафееў адказаў сцвярджальна. «Так, можа, мы носім гэты ген Сталіна ў сабе».

# Сяло Тургенева

**Музей-запаведнік Івана Тургенева ў Тульскай вобласці адновяць да 200-годдзя пісьменніка, якое будзе адзначацца ў 2018 годзе.**

Рэстаўрацыя дазволіць ствараць музейны комплекс з турыстычнай інфраструктурай. Цяпер на тэрыторыі ўжо ўзведзены гасцявыя домікі, плануецца будаўніцтва гасцініцы. Працягваецца рэстаўрацыя храма Увядзення Прасвятой Багародзіцы, пабудаванага ў 1795 годзе на сродкі Мікалая Тургенева, дзеда пісьменніка. Цалкам завяршыць работы, на якія федэральнай праграмай «Культура Расіі» прадугледжана 160 мільёнаў расійскіх рублёў, плануецца да 2017 года.

У маёнтку завершаны рамонтна-рэстаўрацыйныя работы ў будынку папяровай фабрыкі. Менавіта гэты будынак быў абсталяваны пад дом пісьменніка, калі ён прыязджаў у свой радавы маёнтак.

У зялёнай зоне парка ідзе аднаўленне ліпавай і хвойнай алей, вядзецца расчыстка тэрыторыі парку.

Сядзіба знаходзіцца ў вёсцы Тургенева. Штогод на Бежыным лузе, які апісаны ў аднайменным апавядзе, праводзяцца літаратурна-песенныя святы, на якія з'язджаюцца прыхільнікі творчасці пісьменніка з усёй Расіі.

# Дом Рэя Брэдберы

**«Saint Arbor», мэблевая кампанія з Каліфорніі, вырашыла даць другое жыццё дому амерыканскага пісьменніка-фантаста Рэя Брэдберы, які ў студзені дэмантавалі.**



З фрагментаў будынка зрабілі 451 падстаўку для кніг; такім чынам мэблевыя майстры зрабілі адсылку да антыўтопіі «451 градусы па Фарэнгейце», аднаго з самых вядомых твораў Р. Брэдберы.

Падстаўкі для кніг можна купіць у ЗША па цане 88,5 даляраў. Частка сродкаў ад продажу вырабаў будзе накіравана Цэнтру вывучэння творчасці Р. Брэдберы ў штаце Індыяна.

У доме ў Лос-Анджэлесе Р. Брэдберы пражыў больш за 50 гадоў. Пасля смерці пісьменніка будынак набыў вядомы архітэктар Том Мэйн. Аднак ён вырашыў разбурыць дом, а на яго месцы пабудаваць новы з басейнам і вырасціць сад. Архітэктар вырашыў акуратна разабраць дом Брэдберы па цаглінах, каб потым іх выкарыстаць паўторна.

# «Yahoo» і Свіфт

**Імя для аднаго з самых папулярных пашукавікоў свету прыдумаў вядомы пісьменнік. Упершыню яно выкарыстана ў рамане «Падарожжа Гулівера».**

Вядомыя стваральнікі «Yahoo» доўга шукалі цікавае і стыльнае даменнае імя. У выніку яны вырашылі выкарыстаць прыдуманую Свіфтам назву аднаго з плямёнаў. Любімы многімі і папулярны ў большасці краін свету пашукавік абавязаны сваім імем расе тупых і нязграбных чалавекападобных істотаў.

Такі выбар Джэры Янг і яго калега Дэвід Файло палічылі досыць камічным. Слова трапілася ім на вочы, калі яны перагортвалі слоўнік, і адразу спадабалася, бо звязана з высмейваннем пачварнага і грубасці.

Гісторыю паходжання плямёнаў yahoo Свіфт апісаў у IX раздзеле свайго знакамітага твора. У момант стварэння тэрміна пісьменнік і не падазраваў, што пра яго слова даведаецца ўвесь свет. Бо сёння нават тыя, хто ніколі не браў у рукі кнігу «Падарожжа Гулівера», ведаюць «Yahoo».

# Помнік Ахматавай у Сіцыліі

**У сіцылійскім горадзе Таарміна ўсталяваны помнік рускай паэтцы Ганне Ахматавай.**

У сваёй вітальнай прамове мэр Таарміна Эліджо Джардзіні павіншаваў «вялікую рускую паэтку са шчаслівым вяртаннем на Сіцылію». Г. Ахматава наведала Сіцылію ў 1964 годзе і была ўганаравана прэстыжнай літаратурнай прэміяй «Этна-Таарміна».

Раней адна з алей у Таарміна была названая ў гонар Ахматавай.

Ініцыятыва ўсталявання помніка належыць расійскаму Цэнтру нацыянальнай славы і ажыццяўляецца ў межах Дзён расійска-італьянскіх літаратурных сувязяў.

# Ільготы кнігарням Расіі

**Дзяржаўма Расійскай Федэрацыі да канца 2015 г. прыме папраўкі да закона аб абароне канкурэнцыі.**

Праект закона прадугледжвае ўвядзенне ільготных ставак арэнды гандлёвых плошчаў для кніжных крамаў.

Аб увядзенні ільготаў для кнігагандляроў Дз. Мядзведзеў загаварыў яшчэ ў 2013 годзе. У законе «Аб абароне канкурэнцыі» зафіксуюць ільготныя тарыфы для тых кнігарняў, якія размяшчаюцца ў памяшканнях, што знаходзяцца ў дзяржаўнай уласнасці. Аднак міністэрства культуры Расійскай Федэрацыі пакідае за сабой права ўплываць на асартымент выданняў.

# Музей Ясеніна

**У Канстанцінава, родным сяле Сяргея Ясеніна, да канца 2016 года пабудуюць фондасховішча.**

Размяшчацца будынак будзе на тэрыторыі музея-запаведніка. Заканчваецца будаўніцтва другога паверха, пачынаецца ўзвядзенне даху. Музейныя экспанаты цяпер захоўваюцца ў старым памяшканні, якое ўсе 29 000 прадметаў не можа змясціць. У новым фондасховішчы будзе ўсё неабходнае абсталяванне, якое забяспечыць захаванасць калекцый.

У Канстанцінава таксама плануецца пабудаваць канферэнц-залу, турыстка-інфармацыйны цэнтр і гасцінічны комплекс. Яны ўтвараюць ансамбль так званай «уязной зоны» музея-запаведніка Сяргея Ясеніна.

**Старонка падрыхтавана паводле матэрыялаў Gazeta.ua, Zaxid.net, ИТАР-ТАСС, The Guardian, vsiknygy.net, prostokniga.com.ua, novostiliteratury.ru і Newsru.ua.**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

TV

## 6 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**05.50** Меладрама «Жыццё рассудзіць» (Расія). 1-я і 2-я серыі.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыйны серыял «Два бацькі і два сыны» (Расія).
**10.45** «50 рэцэптаў першага». Кулінарнае шоў.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** Зона X. Вынікі тыдня.
**13.05** Вялікі рэпартаж.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «Прычал Кахання і Надзеі» (Расія). 2-я серыя.
**17.25** Меладрама «Дзеравеншчына» (Расія). 1-я і 2-я серыі.



**21.00** Галоўны эфір.
**22.15** Клуб рэдактараў.
**22.50** Навіны надвор'я.
**23.15** Рамантычная меладрама «Райскі куток» (Расія).
**01.00** Камедыйны серыял «Два бацькі і два сыны» (Расія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе домы.
**10.40** «Фазэнда».
**11.15** Брэйн-рынг.
**12.45** Ералаш.
**13.20** Мастацкі фільм «Вялікі перапынак».
**11.55** Чорна-белае.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Мастацкі фільм «Вялікі перапынак».
**17.20** КВЗ. Прэм'ер ліга. Фінал.
**20.00** Контуры.
**21.05** Голас.
**23.20** Мастацкі фільм «Людзі Ікс: Першы клас».



### СТВ

**06.20** «Афрамасквіч». Камедыйны серыял.
**07.10** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.30** «Спецыяліст».
**09.25** Бітва закінутых сусветаў.
**10.15** «Чыстая праца».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Культурная сталіца.
**12.15** Далёкія сваякі.
**12.35** «Салдаты 5». Серыял.
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** «Таткі».
**15.20** Вадзіць па-руску.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Аўтапанарама.
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Галодныя гульні: І ўспыхне полымя».
**22.50** «Званая вячэра».
**00.35** «Таткі».
**02.05** «Масква. Дзень і ноч».

### Беларусь 2

**07.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**08.50** Камедыйны серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**10.30** Зразумець і абясшкодзіць.
**11.10** Хачу ў тэлевізар!
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.00** Камедыйны серыял «Мая цудоўная няня» (Расія).
**14.00** «Арол і рэшка. Шопінг». Пазнавальнае шоў (Украіна).
**15.00** Мастацкі фільм «Паляўнічыя за галовамі».
**17.00** Мастацкі фільм «Сакрэтныя матэрыялы. Барацьба за будучыню».
**19.15** Суперлато.



**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Цела чалавека.
**21.40** Спортлато 5 з 36, КЕНА.
**21.45** Серыял «Шчаслівыя разам» (Расія).
**23.25** Хачу ў тэлевізар!
**23.30** Мастацкі фільм «Капітан Філіпс».

### Беларусь 3

**07.55** «Калейдаскоп».
**08.05** «Памылка рэзідэнта». Псіхалагічны дэтэктыў. Часткі 1-я і 2-я (СССР, 1968 г.).
**10.20** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Алеся Мядзведзева.
**11.00** «Песні мінулага стагоддзя».
**11.50** «Наперад у мінулае».
**12.20** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**13.10** «Калейдаскоп.».
**13.20** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял. 1-я серыя (Францыя, 1991 г.).
**14.45** «Справы фамільныя». З гісторыі беларускіх манаполій. «Піўная багема».
**15.10** «Жывіце ў гармоніі». Дакументальны фільм пра Бярэзінскі біясферны запаведнік.
**15.40** «Рым - адкрыты горад». Ваенная драма (Італія, 1945 г.).
**17.20** «Калейдаскоп».
**17.30** «Сіньёр Рабінзон». Прыгодніцкая камедыя (Італія, 1976 г.).
**19.15** «Без сведак». Драма (СССР, 1983 г.).
**20.45** «Калыханка».
**21.05** «Бард-легенда: Юлій Кім».
**22.00** «Нестар Бурма». Крымінальны серыял. 1-я серыя (Францыя, 1991 г.).
**23.20** «Прыцягненне Альберта Вейніка». Дакументальны фільм.
**00.15** «Калейдаскоп».

### Беларусь 5

**07.30** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Спорт-мікс.
**08.05** PRO спорт. Навіны.
**08.25** Футбол. Кваліфікацыя да Еўра-2016.
**10.50** Веславанне акадэмічнае.
**12.10** Хакей. Чэмпіянат Беларусі.
**14.05** Веславанне акадэмічнае.
**15.55** Футбол. Кваліфікацыя да Еўра-2016.
**17.55** Гандбол.
**19.35** Авертайм.
**20.05** Веславанне акадэмічнае.
**23.15** Футбол. Кваліфікацыя да Еўра-2016.
**01.10** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.15** Аўтаспынам па Беларусі.
**07.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**07.50** Два на два (тэледыскусія): Сяргей Навумчык і Юрась Беленькі: Рэферэндум 1995 года: ч. 2.
**08.20** Прыгоды і паходы, спазнаваўчы мультсерыял: Што такое святло?
**08.30** Чарцюк з сёмага класу, дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял.
**09.15** Мова нанова: Медыцына.
**09.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**09.55** 54 % (публіцыстычная праграма).
**10.15** Маю правы (юрыдычная праграма).
**10.35** Чорным па белым (культурніцкая праграма): Поўная рэалізацыя ва ўмовах сучаснай Беларусі.
**11.05** Прыехалі ўланы, м/ф.
**12.05** Вышыванка, рэпартаж.
**12.20** Mad Men. Утрапёныя III, серыял.
**13.05** Вольны чалавек Андрэй Сахараў: Свабода ў выгнанні, д/ф.
**14.45** Дэманстрацыя, д/ф.
**15.50** Лебэнсборн: Гадавальнікі Трэцяга Райху, д/ф.
**16.45** Гётэ!, м/ф.
**18.25** Вандроўкі па Гарадзеншчыне.
**18.35** Мамы, дзеці і закон, д/ф.
**19.30** Невядомая Беларусь: Амерыканка. All included, д/ф.
**20.25** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**20.40** Загадкі беларускай гісторыі: Паміж Менкай і Нямігай.
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма): Алег Трусаў.
**21.15** Школа плоці, м/ф.
**23.00** Mad Men. Утрапёныя IV, серыял.
**23.45** Зоры не спяць: Вадзім Цапаеў.
**00.20** Канцэрт гурта «Троіца»: ч. 1, 2.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______
Время приема ______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.

**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | | |
| | | | | | |

Плательщик

Пеня ______
Всего ______

Кассир

# «Адзін з паліцэйскіх дастаў пісталет і ўдарыў мяне»

Аксана КОЛБ

**Гэта гісторыя пачалася ў Расіі некалькі гадоў таму, калі ў Арэнбургскае аддзяленне «Камітэта супраць катаванняў» па юрыдычную дапамогу звярнуўся Аляксей Сухаў. Калі яна скончыцца, пакуль не вядома, але праваабаронцы не губляюць надзею.**




Трэці год Аляксей шукае праўду, спрабуе прыцягнуць да адказнасці паліцэйскіх, якія пагражалі яго забіць. Што ж адбылося?

29 жніўня 2011 года Аляксей вяртаўся дадому ў пасёлак Прыгарадны пасля навучання на вадзіцельскіх курсах. Недалёка ад дома яго спынілі двое супрацоўнікаў паліцыі і вырашылі яго абшукаць. Вось што расказвае сам Аляксей Сухаў:




— Летам 2011 года я хадзіў на курсы па кіраванні аўтамабілем, а пасля ездзіў у прыгарад і дапамагаў брату будаваць дом. У адзін з такіх дзён я вяртаўся з курсаў. Да свайго дому я не дайшоў метраў 100–150. Каля мяне спыніўся цёмны ВАЗ 2114, з яго выйшаў мужчына ў цывільным. Я думаў, што ён хоча спытаць дарогу. Але ён паказаў пасведчанне, я не паспеў прачытаць, але падумаў, што гэта паліцэйскі. Пазней гэта пацвердзілася. Я палез у кішэню штаноў, каб дастаць тэлефон і выключыць музыку, якая грала ў тэлефоне. У гэты момант паліцэйскі схапіў мяне за руку, а з аўтамабіля выбег другі мужчына. Яны павалілі мяне на зямлю і пачалі біць нагамі і рукамі з розных бакоў. Я прыкрываўся, як толькі мог, і клікаў на дапамогу. Адзін з удараў прыйшоўся мне ў вока, у маёй галаве ўсё паплыло, зазвінела…

Пасля таго, як паліцэйскія перасталі мяне збіваць, яны схапілі мяне пад рукі і прыціснулі да капота аўтамабіля. Я адчуў, як нехта з іх спрабуе нешта засунуць у кішэні маіх штаноў. Я перашкодзіў гэтаму, выкінуў змесціва і зноў пачаў клікаць на дапамогу. У адказ на гэта адзін з паліцэйскіх дастаў пісталет і ўдарыў мяне па галаве, прыставіў да патыліцы і сказаў: «Будзеш тузацца — прыстрэлю». Я вельмі спалохаўся і змоўк. У гэты час іншы паліцэйскі засунуў штосьці ў кішэню маіх штаноў. Пазней я зразумеў, што гэта былі канаплі, якія той нарваў непадалёк. Страціўшы ўсякую надзею, я ўжо не супраціўляўся і не клікаў на дапамогу. Паліцыянты пасадзілі мяне ў аўтамабіль і павезлі ў невядомым кірунку. Па шляху яны сказалі мне, што едзем на могілкі, дзе і закапаюць мяне. Мне зрабілася не па сабе.

Пад'ехаўшы да могілак, мае каты выклікалі следча-аператыўную групу (САГ). Каля могілак група канфіскавала з маіх кішэняў падкінутыя мне канаплі. Пасля мяне адвезлі ў аддзел паліцыі і завялі крымінальную справу па ч. 1 арт. 228 КК РФ (незаконнае набыццё і захоўванне без мэты збыту наркатычнага сродку ў значным памеры). У аддзеле паліцыі мяне ўжо ніхто не біў. Я папрасіў, каб мне выклікалі хуткую дапамогу і далі вады, на мае просьбы мне адказалі: «Падпішаш неабходныя дакументы, тады выклічам». Я зрабіў усё, як яны прасілі, але дадому мяне адпусцілі толькі каля дзвюх гадзін ночы.

Калі мяне ўбачыў бацька, кінуўся выклікаць хуткую, але я папрасіў дачакацца маму. Яна была на дзяжурстве ў начную змену. Назаўтра, калі яна прыйшла, мы выклікалі хуткую, і мяне адразу адвезлі ў шпіталь.

У шпіталі высветлілася, што сустрэча з паліцэйскімі каштавала Сухаву цялесных пашкоджанняў у выглядзе «закрытай чэрапна-мазгавой траўмы, страсення галаўнога мозгу, гематомы мяккіх тканін, крывападцёку ў вобласці вока, субкан'юктывальнага кровазліцця левага вока, шматлікіх ран на тулаве».

Трэба дадаць, што з цягам часу крымінальную справу, распачатую ў дачыненні да Аляксея Сухава, па ч. 1 арт. 228 КК РФ, спынілі «за адсутнасцю падзеі злачынства».

Праз два дні пасля таго, што здарылася, Аляксей паскардзіўся на дзеянні супрацоўнікаў паліцыі ў Следчы камітэт. Аднак замест чаканай дапамогі і паўнавартаснага расследавання ён атрымліваў толькі адмовы ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

«На працягу двух гадоў мы абскарджвалі бяздзейнасць следчых, якія цалкам не хацелі працаваць па гэтай справе, як, зрэшты, і па іншых справах пра катаванні, — расказвае Альбіна Мударысава, інспектар па грамадскім расследаванні Міжрэгіянальнай грамадскай арганізацыі «Камітэт па прадухіленні катаванняў». — Мы абскардзілі іх незаконныя адмовы ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, дамагліся зняцця з пасады кіраўніка следчага аддзела, які не выконваў рашэнні судоў, вынесеных на нашу карысць. Толькі пасля гэтага справа зрушылася з мёртвай кропкі: у маі 2014 года нарэшце была распачатая крымінальная справа па заяве Сухава. Расследаванне справы даручылі следчаму першага аддзела па расследаванні асабліва важных спраў СК РФ па Арэнбургскай вобласці Дзянісу Хусаінаву. Толькі праз паўтара месяца пасля ўзбуджэння крымінальнай справы спадар Хусаінаў прызнаў Сухава пацярпелым. Адным з першых следчых дзеянняў, праведзеных Хусаінавым, быў допыт мяне, прадстаўніка пацярпелага, а допыт самога пацярпелага Сухава заняў усяго чатыры радкі. І толькі пасля перадачы справы ў вытворчасць следчага Дзмітрыя Зяленіна сітуацыя змянілася: ім былі праведзены ўсе неабходныя следчыя дзеянні, пасля чаго пракурорам было зацверджана абвінавачвае заключэнне ў дачыненні да двух былых паліцэйскіх, і справа была перададзена ў суд. Стадыя судовага следства ўжо прайшла: былі дапытаныя пацярпелы, сведкі, падсудныя, вывучаны матэрыялы крымінальнай справы. Спрэчкі бакоў прызначаныя на 16 верасня. На жаль, дзеючая ў нашай краіне сістэма, якая прадугледжвае заахвочванне супрацоўнікаў паліцыі за раскрыццё злачынстваў, досыць часта прыводзіць да такіх жаласных вынікаў».

Ці пакараюць паліцэйскі? Магчыма, але дакладна гэта пакуль не вядома. А тым часам расійскія ўлады працягваюць змагацца з праваабаронцамі, абвяшчаючы іх замежнымі агентамі.

Ці шмат такіх спраў у расійскіх праваабаронцаў? Процьма. Мы будзем знаёміць нашых чытачоў з гэтымі справамі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Эскалацыя канфлікту на Данбасе фактычна абнуліла заслугі Мінска як пасярэдніка ў мірным урэгуляванні ва Украіне. Кароткая серыя дыпламатычных перамог прэзідэнта Беларусі, які ў ходзе мінскіх перамоваў апынуўся ў коле лідараў вядучых еўрапейскіх дзяржаў, завяршылася. У гэтых умовах спадар Лукашэнка пайшоў насустрач даўнім патрабаванням Брусэля — амніставаў палітвязняў. Гэта значна павышае шанцы на прызнанне Еўропай вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 11 кастрычніка.

**«Коммерсантъ» (Расія)**

Лукашэнка, несумненна, баіцца, што яго можа напаткаць тая ж доля, што і Януковіча, таму Мінск узяў на сябе ролю пасярэдніка ў перамовах па ўкраінскім крызісе. Лукашэнка хоча паказаць, што яго ўрад можа быць хутчэй карысным мастком паміж Расіяй і Захадам, чым выключна адданым саюзнікам Масквы.

**«Stratfor» (ЗША)**

Дзе грошы ўзяць, пакуль не зразумела: мяркуючы па дзеяннях Масквы, яна не гарыць жаданнем спансіраваць эксперыменты з «рынкавых сацыялізмам» у фармальна саюзнай постсавецкай рэспубліцы. Не спяшаюцца і замежныя патэнцыйныя крэдыторы: ЕАБР да гэтага часу абмяркоўвае прычыны невыканання афіцыйным Мінскам абавязкаў па папярэднім антыкрызісным крэдыце. У такіх умовах кіраўніцтву постсавецкай рэспублікі даводзіцца зніжаць рэальныя зарплаты і дэвальваваць беларускі рубель.

**«REGNUM» (Расія)**

Лукашэнка вельмі моцна ўбівае ў галаву беларусаў, што ўсё дрэннае, што адбываецца ў Беларусі, — гэта толькі выключна знешнія фактары, вайна, сусветны крызіс і г. д. А беларусы вераць у тое, што гэта не ўлада так дрэнна працуе, а што знешнія сілы ў крызісе вінаватыя.

**«Озоди» (Таджыкістан)**

Палітолагі ў большасці сваёй прызнаюць прыярытэтнасць палітычных аргументаў і геапалітычных фактараў над эканамічным разлікам у цяперашняй сітуацыі. І расійскія, і еўрапейскія крэдыторы сёння здольныя заплюшчыць вочы на нейкія дробныя недахопы Лукашэнкі. Той, у сваю чаргу, прыціснуты абставінамі і будзе старацца спадабацца таму, хто хутчэй дасць грошы.

**«Независимая газета» (Расія)**

На захадзе Беларусі працягваецца будаўніцтва Астравецкай АЭС, закліканай зрабіць Беларусь ядзернай дзяржавай. Але акрамя гэтай задачы Астравецкая АЭС вырашае яшчэ адну: працаўладкаванне на атамнай станцыі або абслугоўванне яе інфраструктуры дазволіць канчаткова інтэграваць беларускіх палякаў, якія пражываюць у раёне будаўніцтва АЭС, раз і назаўжды зрабіўшы іх патрыётамі Беларусі.

**«RuBaltic» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Хто цяжэйшы, той плаціць больш?

На сайце ўзбекскай дзяржаўнай авіякампаніі «Узбекистон хаво йуллари» з'явілася аб'ява аб тым, што кампанія будзе ўзважваць сваіх пасажыраў перад палётам. Узважваць пасажыраў будуць пасля праходжання рэгістрацыі на рэйс і перад пасадкай у самалёт на спецыяльных вагах, устаноўленых у зоне выхаду на пасадку. Навіна перапужала ўзбекаў, паколькі ўсе пабачылі ў гэтым намер адміністрацыі кампаніі ўвесці спецыяльную таксу за перавышэнне вагі, як робяць шэраг кампаній у свеце. У СНД такой практыкі раней не было. Як вядома, еўрапейскія разлікі бяспекі палёту, устаноўленыя ў сярэдзіне 1990-х гадоў, былі зроблены з улікам таго, што сярэдняя вага мужчыны, уключаючы ручную паклажу, складае 88 кілаграмаў, жанчыны — 70. Між тым, у сярэднім узбекскі мужчына важыць 90 кілаграмаў. У выніку ўзбекская грамадскасць мабілізавалася ў інтэрнэце і нягледзячы на аўтарытарны рэжым, які пануе ў краіне, перамагла. Кампанія «Узбекистон хаво йуллари» прыбрала інфармацыю з сайту і заявіла, што будзе праводзіць кантрольнае ўзважванне пасажыраў і ручной паклажы выключна для выканання патрабаванняў бяспекі палётаў.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ПОЛЬШЧА. Вайна з-за коміксаў

Польскія патрыёты пачалі кампанію байкоту найбольш папулярнай у краіне і, натуральна, вядомай беларусам сеткі гандлёвых крамаў «Biedronka». Патрыётам не падабаецца з'яўленне на паліцах гіпермаркетаў дзіцячай кніжкі коміксаў пад назвай «Малы слоўнік важных рэчаў». Сярод іншага, там ёсць дэфініцыі такіх тыпажоў, як «гомасексуаліст» і «гамафоб». Паняцце «гомасексуаліст» аўтары тлумачаць наступным чынам: «чалавек, якога прываблівають асобы таго ж самага полу». Што тычыцца «гамафоба», то гэта «той, хто не любіць гомасексуалістаў». На першы погляд, абсалютна нейтральныя тлумачэнні, калі б не ілюстрацыі. Блок пра гомасексуалістаў ілюструюць дзве вясёлыя жанчыны, а тэкст пра гамафоба — мужчына са злым тварам. На думку польскіх правых, гэта не што іншае, як замах на інстытут традыцыйнай сям'і. Кіраўніцтва «Biedronka» не бачыць асаблівай пагрозы для свайго бізнесу ад акцыі правых актывістаў. Паводле адміністрацыі гіпермаркетаў, апошняе слова павінен сказаць спажывец. Калі ён не будзе набываць «Слоўнік», то яго аўтаматычна здымуць з продажу.

**Паводле польскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. Кінастудыю нацыяналізуюць

Армянскі ўрад пастанавіў пачаць працэс нацыяналізацыі кінастудыі «Арменфільм». Яна была заснаваная ў 1930-я гады і з'яўлялася адзінай у рэспубліцы кампаніяй, якая займалася кінавытворчасцю. На студыі было знята больш за 350 поўнаметражных мастацкіх фільмаў, 150 мультфільмаў і дзясяткі кароткаметражных фільмаў. 10 гадоў таму «Арменфільм» набыў амерыканскі бізнесмен з кампаніі «Фонд Гафесчан». Умовай для кантракту стаў абавязак новага ўладальніка ўкласці ў студыю 30 мільёнаў долараў і наладзіць выпуск фільмаў. Аднак за апошнія 10 гадоў ніводнага фільму тут знята не было. Рэсурсы выкарыстоўваюць для дубляжу замежных стужак, якія пасля ідуць у мясцовым кінапракаце. Адзіны пазітыўны крок ад прыватызацыі студыі — перавод часткі архіўных фільмаў у лічбавы варыянт.

**Паводле армянскай прэсы**

### РАСІЯ. «Кёнігсберг» патрабуюць забараніць

Расійскі палітыкум абвясціў барацьбу германафільскім настроям у Калінінградскай вобласці. На думку некаторых, за настальгіяй па мінуламу тырчаць вушы сепаратыстаў, якія мараць пра далучэнне Калінінграда да Германіі. Самае цікавае, што прычынай «антыпрускай» кампаніі стала акцыя калінінградскіх смеццевых фірмаў, якія змясцілі дызайн кантэйнераў з-пад смецця. Каб абудзіць у калінінградцаў экалагічныя настроі і прымусіць іх кідаць смецце ў кантэйнеры, ім з дапамогай фотавываў нагадалі, якім чыстым быў Кёнігсберг. Аднак у Маскве выявы старога горада выклікалі адмоўную рэакцыю. У рамках крытыкі з вуснаў аднаго з так званых «патрыётаў» прагучала наступная ініцыятыва: «Трэба спыніць прадаваць сімволіку з надпісамі «Кёнігсберг», каб не даць магчымасці нашым супернікам развіваць прыязнасць у моладзі і сярэдняга класа, дaверлівых да заходняй прапаганды, укласці ім у розумы ідэю, што Калінінград быў несправядліва захоплены Расіяй у Германіі». Будзе рэалізаваная гэта ініцыятыва або не, пакуль не зразумела. Між тым, мясцовыя гісторыкі высветлілі, што ў 1940-х гадах падобная мера забароны слова «Кёнігсберг» дзейнічала на захопленай Чырвонай Арміяй тэрыторыі Усходняй Прусіі.

**Паводле расійскай прэсы**



# Я Мішу бачыў!

*Алег НОВІКАЎ*

**Так здарылася, што я выпадкова стаў сведкам антыкарупцыйнай акцыі адэскага губернатара Міхаіла Саакашвілі і паспрабаваў зрабіць своеасаблівы партрэт палітыка.**

Усё пачалося з таго, што ў раёне Дачы Кавалеўскага (той самы купец Кавалеўскі, які кінуўся з вежы, пасля таго, як лопнуў яго праект правесці ў Адэсу водаправод) нечакана з'явіліся прадстаўнікі мясцовых камунальных службаў. Апранутыя ў аранжавыя камізэлькі жанчыны пачалі ляніва збіраць смецце і ўтрамбоўваць яго ў кантэйнеры. Пасля прыбыў дэсант мастакоў: яны падвялі свежымі фарбамі надпісы на тутэйшых манументах памяці абаронцаў гораду.

Назіраючы за гэтымі рухамі, адэсіты і госці горада адразу зрабілі выснову: трэба чакаць візіту кіраўніцтва. Праўда, наконт таго, хто вырашыў наведаць Дачу, адзінства не назіралася. Адны чакалі мэра, іншыя — губернатара. Некаторыя кляліся, што Дачу збіраецца наведаць сам Парашэнка з мэтай інспекцыі вайсковага аб'екту СПА (ён знаходзіцца па суседству і штоноч мацае пражэктарамі неба на прадмет «зялёных чалавечкаў», якія могуць прыйсці з паветра).

Перамаглі ў дыспуце тыя, хто рабіў стаўку на губернатара. 22 жніўня па пляжы маланкай пранеслася навіна: «Саакашвілі прыехаў!» Прыкладна траціна адпачываючых адразу забыла пра сонечны загар і мора ды пабегла глядзець на былога грузінскага гаранта. У метрах 40 іх чакала сапраўднае шоў. Невядомыя добраахвотнікі разбіралі агароджу, у той час, як Саакашвілі каментаваў працэс журналістам і мінакам, якія яго атачылі.

Аказваецца, за плотам знаходзілася віла дачкі былога міністра экалогіі, чальца кабінету Януковіча. Гэты міністр пабудаваў для дачкі вілу, а ў дадатак прыватызаваў прыкладна метраў 150 берагу былога публічнага пляжу. У Адэсе вольны доступ да прыватызаваных у часы Януковіча пляжаў — адна з самых балючых праблемаў, праз прызму рашэння якой нават ацэньваюць вынікі Майдану. Па словах Саакашвілі, пагроза нацыяналізацыі пляжаў спарадзіла новыя формы сабатажу рэформы. Уласнікі аб'ектаў са згоды лакальнага кіраўніцтва фармальна абвяшчаюць свае ўладанні санітарнымі станцыямі або нейкімі складамі, хаця на самай справе сутнасць эксплуатацыі тэрыторыі не мяняецца.

Так было і ў дадзеным выпадку. Заглянуўшы ў прабітую валанцёрамі дзірку ў плоце, можна было пабачыць мікрапарк з басейнам, лужкамі, спартовай пляцоўкай, і нават полем для гольфу. На ўскрайку, куды яшчэ ўчора простаму смяротнаму нельга было трапіць, сярод пальмаў быў бачны прыгожы асабняк. Увесь гэты комплекс, адпаведна шыльдзе на плоце, чамусьці называўся «камунальная санітарная зона» і «навуковая лабараторыя».

Актыўна жэстыкулюючы, Саакашвілі распавёў, што пасля доўгіх перамоў з мэрыяй вакол лёсу пляжу, ён наважыўся на акцыю прамога дзеяння — прарубіць пралом у агароджы і зрабіць пляж публічным. Натоўпу ў прынцыпе такі падыход спадабаўся, і людзі пачалі ўзгадваць іншыя аб'екты маёмасці рэгіяналаў і алігархаў, якія маглі стаць патэнцыйнымі мішэнямі экспрапрыяцыі.

Што адразу кінулася ў вочы, падчас усёй гэтай акцыі, дык гэта тое, што мадэль камунікацыі адэскага губернатара вельмі не падобная на стыль звычайных украінскіх чыноўнікаў, якія любяць выстаўляць сябе важнымі персонамі. Саакашвілі — эмацыйны, на першы погляд, больш просты і даступны палітык, у тым ліку дзякуючы свайму атачэнню. За яго спіной былі збольшага простыя грамадскія актывісты. Нельга сказаць, што Саакашвілі занадта харызматычны, аднак яго рэфармісцкая рыторыка выклікае інтарэс. Складваецца ўражанне, што нешта сапраўды можа змяніцца.

Можна дадаць, што Саакашвілі — шоўмен з вялікім вопытам. Ён кантралюе ход размовы з аўдыторыяй, пераключаючы яе, калі трэба, на больш прыярытэтныя для сябе тэмы. Яму характэрны элемент папулізму: напрыклад, зрываючыся на пафас, ён узгадаў, як яго ўразіла сцэна, калі маладая мама з дзіцём ішла на публічны пляж уздоўж доўгага плоту, за якім хавалася скрадзеная ў народу зямля.

У любым выпадку, Саакашвілі, безумоўна, — гістарычная асоба, з якой шмат хто прынамсі не супраць зрабіць сэлфі. Сэлфі была прысвечана асобная канчатковая частка візіту Саакашвілі, пасля чаго ён пакінуў аб'ект, плот вакол якога працягвалі раскурочваць ваяўнічыя маладыя людзі. У зробленыя разбуральнікамі праёмы ў агароджы адразу накіраваўся паток адпачываючых. Заняўшы месца пад сонцам на цяпер зноў народным пляжы, яны яшчэ доўга ўзгадвалі Мішу, даючы яму свае ацэнкі.

Спектр думак быў шырокі і палярны. Для адных «таварыш Саахаў» (мянушка Саакашвілі) — папуліст, паколькі акцыя з пляжам была яўна спектаклем аднаго артыста для журналістаў. На думку скептыкаў, казаць пра нейкія прарывы ў дзейнасці новага губернатара можна будзе толькі пасля эканамічнага ажыўлення. Тым больш, што ў горадзе хапае падобных алігархічных пляжаў, сярод якіх пляж вакол так званага замку Гары Потэра (асабняк у гатычным стылі, які пабудаваў сабе Алег Ківалаў, сумна вядомы кіраўнік ЦВК, які ў 2004 годзе прыпісаў Януковічу перамогу на прэзідэнцкіх выбарах, што і стала каталізатарам таго Майдану). Чамусьці да рэзідэнцыі Ківалава — сімвала карупцыі часоў былога рэжыму — у Саакашвілі рукі не даходзяць.

Другія кажуць, што незвычайны рэфарматарскі актывізм Саакашвілі абавязкова будзе мець вынікі. Па сутнасці, Адэса для Саакашвілі — апошні шанец застацца ў топе палітычных гульцоў. Калі ён нечага даб'ецца, то зможа зрабіць заяўку на больш высокую пасаду, тым больш, усе чакаюць хуткіх зменаў ва ўкраінскім Кабміне.

У любым выпадку, усе згодныя — фігура Саакашвілі дадала Адэсе каларыт плюс працягнула традыцыю запрашэння іншаземцаў, якія па сутнасці пабудавалі Паўднёвую Пальміру: Дэ Рыбас, Рышэлье, Ланжэрон... Апошняе, безумоўна, працуе на мясцовы лагер праўкраінскай партыі, хаця для яе перамогі нацыяналізаваць пляж, безумоўна, недастаткова.

# Не чапай маю нядзелю!

Алег НОВІКАЎ

**У Францыі стартаваў новы раунд барацьбы паміж урадам і прафсаюзамі, якія катэгарычна супраць перагляду закона, што забараняе французам працаваць у нядзелю.**

Французы — вялікія заўзятары сваіх рэвалюцыйных традыцый. Вельмі рэдка ў грамадскай дыскусіі можна наткнуцца на настальгію па часах манархіі і звязаных з ёй атрыбутах. Аднак ёсць і выключэнне. Гэта тычыцца права не працаваць у нядзелю. Прафсаюзныя лідары і сацыялісты любяць узгадваць, што пры старых каралеўскіх парадках сама ідэя працы ў нядзелю цягнула на замах на злачынства.

Тлумачыцца, праўда, гэта не сацыяльным прагрэсам, а тагачаснай роляй царквы. Хіба ў Бібліі не гаворыцца, што сёмы дзень тыдня павінен быць прысвечаны Богу? Парадак абавязкова хадзіць у нядзелю на імшу існаваў стагоддзямі, пакуль санкюлоты не пайшлі на штурм Бастыліі.

Якабінцы са сваім татальным адмаўленнем ад усяго мінулага, натуральна, не маглі прайсці міма такой тэмы, як каляндар. У рамках рэформы традыцыйны тыдзень замянілі на дзесяцідзёнку. Такім чынам рэлігійны складнік у выходны дзень сам па сабе знік. Замест паходу ў касцёл французам прапаноўвалася па нядзелях наведваць бібліятэкі, розныя атракцыёны і выступы. Нягледзячы на бясплатныя шоў, народ увогуле быў не ў захапленні ад інавацый. Хаця б таму, што цяпер у год ён адпачываў не 52 дні (плюс 25 рэлігійных святаў) як пры каралях, а толькі 36 (плюс пяць рэвалюцыйных святаў). Таму дастаткова хутка пры Напалеоне сямідзённы цыкл вярнулі.

Калі ж адбылася рэстаўрацыя манархіі, у Францыі пайшоў адваротны працэс. У 1814 годзе кароль Луі XVIII увёў строгую адказнасць за ўсялякія спробы праяўляць працоўную актыўнасць па нядзелях. Праўда, вярнуць добрыя старыя часы ўжо было немагчыма. Пачалася індустрыяльная рэвалюцыя, калі прадпрымальнік быў зацікаўлены эксплуатаваць пралетарыят як мага больш, у тым ліку па нядзелях. Найбольш даводзілася працаваць супрацоўнікам розных крам, чый тыднёвы рабочы час дасягаў часам 70 гадзін.

Не дзіўна, што патрабаванне нядзельнага адпачынку стала адным з брэндаў рабочага руху Францыі. Канчатковай перамогі ў гэтай сферы ўдалося дабіцца дзякуючы самай буйной у гісторыі аварыі на шахтах Еўропы. У выніку выбуху газу на вугальнай шахце загінулі 1099 шахцёраў. Катастрофа мела вялікі палітычны рэзананс — парламент прагаласаваў за закон аб штотыднёвым адпачынку. Пазней гэта норма была замацавана ў Кодэксе пра працу, на які не пасмелі замахнуцца нават у часы гітлераўскай акупацыі.

Сама тэма вольнай нядзелі (або, як яе называюць у Францыі, repos dominical) даўно стала сакральнай для прафсаюзаў. Яны не дапускалі ніякіх рэвізій на гэты конт, нягледзячы на тое, што ўжо ў 1960–1970-я гады структурныя змены французскай эканомікі сталі відавочныя — з-за наступу грамадства спажывання ўзнікла вялікая сфера абслугоўвання, якая была зацікаўленая зарабляць грошы, у тым ліку і ў выходныя. Простыя французы часта таксама разглядаюць права на выходны дзень як нейкі важны элемент айчыннай сістэмы сацыяльнай абароны. Тыя, хто наведваюць крамы па нядзелях, становяцца ахвярамі жартаў. На прафсаюзных акцыях вельмі папулярны лозунг: «Не чапай маю нядзелю!». Папулярна думка, што адыход ад прынцыпу нядзельнага адпачынку пацягне за сабой флексібілізацыю працы, калі працоўныя кантракты будуць складацца на кароткі тэрмін, без фіксацыі працоўнага часу, будзе дазволена праца ўначы і г.д.

Упершыню прынцып выходнай нядзелі быў парушаны толькі ў 1986 годзе, калі па нядзелях дазволілі працаваць дробным гандлярам. Пасля гэтага сітуацыя фактычна законсервавалася, нягледзячы на вялікую колькасць спроб лібералізаваць закон. Крамы ў нядзелю не працуюць нават на Елісейскіх палях, дзе гуляюць натоўпы турыстаў. Працуюць, як правіла, выключна дробныя гандлёвыя кропкі, якія трымаюць арабы. Больш вялікія крамы працаваць не могуць, паколькі закон дазваляе працаваць па выходных толькі ўладальнікам устаноў. Пры гэтым фармальны характар дзеяння закону пра repos dominical зразумелы ўсім. Каб падтрымліваць працу эканамічнай інфраструктуры, па нядзелях на працу вымушаны выходзіць каля 15 працэнтаў занятых у Францыі працоўных: транспартнікі, паліцэйскія, энергетыкі і г.д.

На мінулым тыдні старая пікіроўка паміж прадпрымальнікамі і прафсаюзамі зноў набыла новае дыханне. Раней у чэрвені Мінэканомікі выдала Дэкрэт пра турыстычныя эканамічныя зоны (ZTI). Рэалізацыя пастановы павінна прымусіць замежных турыстаў, якіх традыцыйна шмат у Францыі, пакінуць тут як мага больш грошай. Зоны (усяго іх 17, з якіх — 14 у Парыжы і 3 — у правінцыі) пачалі працаваць з 18 жніўня. Напярэдадні запуску праекту нечакана высветлілася, што крамы, якія знаходзяцца ў гэтых арэалах, таксама могуць працаваць па нядзелях.

Як і трэба было чакаць, пачатак працы ZTI раз'юшыў прафсаюзны актыў. Дадатковай крыніцай іх праведнага гневу з'яўляецца той факт, што рэформу пралабіравалі сацыялісты, якія, па ідэі, павінны сабатаваць усялякія рухі ў гэтай галіне. У выніку ўзнікла забаўная калізія, калі сацыялістка Ан Ідальго (Anne Hidalgo), мэр Парыжу, выступае за ідэю ZTI, аднак асуджае практыку працы па нядзелях.

Пакуль палітык манеўруе, чатыры парыжскія прафсаюзы скалацілі кааліцыю для барацьбы з законам Макрона (Эмануэль Макрон — міністр эканомікі, ініцыятар законапраекту пра ZTI). Ужо прайшлі першыя маніфестацыі, удзельнікі якіх патрабуюць, каб Дэкрэт пра турыстычныя зоны як мінімум быў разгледжаны ў парламенце. З улікам таго, што ўрад сацыялістаў вельмі не папулярны, а ў парламенце хапае папулістаў, рызыкнём прадказаць, што французы і на гэты раз захаваюць за сабой права адпачываць у нядзелю.



## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Эган Бар



Адзін з былых лідараў нямецкай сацыял-дэмакратыі пайшоў з жыцця на 94-м годзе, пакінуўшы пасля сябе цікавую палітычную спадчыну. Справа ў тым, што менавіта Эган Бар лічыцца аўтарам канцэпцыі Realpolitik, сутнасць якой — не цурацца дыктатур, а спрабаваць за кошт супрацоўніцтва падтрымліваць дэмакратычныя ініцыятывы ўнутры рэжыму. Менавіта такую формулу адносін ФРГ з ГДР нябожчык прапанаваў у 1972 годзе канцлеру Вілі Брандту. Апошні пагадзіўся на дыпламатычнае прызнанне Усходняй Германіі, прызнаў новыя межы Германіі на ўсходзе і г.д. Лічыцца, што курс «Перамены праз збліжэнне» — так яго называў сам Эган Бар, дапамог знізіць градус халоднай вайны. Гэтай лініі ФРГ у сваёй палітыцы на Усходзе прытрымліваецца фактычна да сёння. Што тычыцца Бара, то пасля сыходу эсдэкаў з улады, ён пайшоў на пенсію. Пра яго ўзгадалі мінулай вясной пасля таго, як Расія анексавала Крым. Каментуючы навіну для аднаго з каналаў, ён заклікаў Захад паводзіць сябе з Масквой сыходзячы з прынцыпаў Realpolitik — прызнаць факт захопу паўвострава, аднак пры розных нагодах падкрэсліваць расійскім візаві, што Еўропа ніколі не прызнае ўключэнне гэтай тэрыторыі ў склад Расіі.

### Аляксей Навальны



Адзін з палітычных лідараў Расіі можа моцна пасварыць апазіцыю напярэдадні вельмі важных для яе рэгіянальных выбараў. Канфлікт справакаваў пост Аляксея Навальнага ў сваім блогу, дзе ён абвінаваціў кастрамскую секцыю партыі «Яблоко» ў тым, што яе купіў алігарх Уладзімір Міхайлаў, былы сябра партыі «Адзіная Расія». Зараз той алігарх ідзе ў абласную думу па спісу «Яблоко». Заява Навальнага, чыя структура ўваходзіць у дэмакратычную кааліцыю ПАРНАС, выклікала скандал федэральнага маштабу. Партыя «Яблоко» апублікавала адкрыты ліст супраць Навальнага, нагадаўшы таксама, што згаданы алігарх заняў прынцыповую пазіцыю супраць акупацыі Крыму. Калі эскалацыя працягнецца, то выбарчая кампанія антыпуцінцаў можа выліцца ў разборку паміж актывам «Яблоко» і РПР-ПАРНАС. Тым часам, высветлілася, што Уладзімір Міхайлаў пачынаў свой палітычны шлях у шэрагах прафашысцкай структуры «Расійскае нацыянальнае адзінства» (РНЕ). Увогуле, правінцыйная Кастрама дзякуючы апісаным падзеям трапіла ў фокус усіх медыя, што ўзняла стаўку на выбарах. У горадзе нават з'явіліся ўлёткі пра тое, што РПР-ПАРНАС рыхтуе ў верасні кастрамскі Еўрамайдан.

### Папа Францыск



Пантыфік выпадкова ўцягнуўся ў старую спрэчку паміж Аргенцінай і Вялікабрытаніяй вакол Фальклендскіх (Мальвінскіх выспаў). Папа (як вядома, аргенцінец) з'явіўся перад журналістамі з постэрам, на якім змешчаны заклік да дыялогу наконт спрэчнага архіпелагу. Постэр яму прынёс актывіст грамадскай арганізацыі, што выступае за такі дыялог. Крок Папы выклікаў захапленне ў Аргенціне, дзе зараз з ініцыятывы ўраду праходзіць кампанія з нагоды 65-й гадавіны рэзалюцыі ААН па тых самых выспах. У 1965 годзе ААН прыняла рэзалюцыю за тое, каб Вялікабрытанія і Аргенціна пачалі мірныя перамовы наконт лёсу архіпелагу, якую брытанцы праігнаравалі. Затое навіна з Ватыкану не знайшла падтрымкі на Альбіёне. Мясцовы МЗС заявіў, што не бачыць сэнсу ў дыялогу, паколькі на рэферэндуме 2013 года жыхары Фальклендаў прагаласавалі за тое, каб заставацца падданымі брытанскай кароны. Каб неяк разрадзіць сітуацыю, прэс-служба Ватыкану паведаміла, то Папа выпадкова ўзяў той постэр. Між тым, прэса адзначае: у Лондане сапраўды баяцца, што ўчынак Папы можа выклікаць абвастрэнне канфлікту. 25 жніўня Мінабароны Вялікабрытаніі заявіла пра набыццё за 46 мільёнаў фунтаў нейкага суперрадару, які размесцяць менавіта на Фальклендах. Радар дазволіць фіксаваць аргенцінскія вайсковыя самалёты ў радыусе ста кіламетраў.

# Ян Дамель:

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**У гэтым годзе спаўняецца 235 гадоў з дня народзінаў, а 30 жніўня — 175 гадоў са смерці «выдатнейшага мінскага мастака» (як адзначала губернская памятная кніжка) Яна Кшыштафа Дамеля (1780–1840).**

Ён нарадзіўся ў Курляндыі, у Мітаве пад Рыгай. Бацька яго быў купцом і жыў у маёнтку Беркен, а потым пераехаў на Жмудзь, на Жагоры, што ў Ковеньскай губерні. У мястэчку была гімназія і амаль поўны набор культавых устаноў: касцёл, праваслаўная царква, лютэранская кірха і сінагога. Вучыўся ў Мітаве, хутчэй за ўсё, у мясцовай гімназіі. А потым была Вільня…

## Асяродак духоўнага існавання

«Вільня — места не дужа вялікае, але прыгожае і шматлюднае, і жывейшае, чымсьці багата якія гарады Расіі», — адзначаў пісьменнік XIX стагоддзя. Натуральна, што Дамель, трапіўшы ў гэты горад, не мог ні захапіцца ім.

У тагачаснай Вільні, як і ў сталіцах большасці еўрапейскіх краін, квітнеў класіцызм. Спалучэнне і квітненне антычнай спадчыннасці, у якой чулася рэха тагачасных «балючых» праблемаў Краю, не дарэшты ўтаймаванага паразай «касцюшкаўшчыны», рамантычныя спадзяванні на імператара Напалеона — усё было невыпадковым.

«Купецкі сын» (з не вельмі забяспечаных) і ўнук мастака, як сцвярджае біёграф Дамеля Адам Шэмеш (1808–1864), Дамель паступіў ва ўніверсітэт 24 мая 1799 года. Запісаны ў кнізе рэгістрацыі як «шляхціц», ён мусіў вучыцца за ўласны кошт. Добра, што хоць жытло ў прытулку для навучэння і выхавання маладзёнаў — «манаскую келлю, у якой не было ні паркетаў, ні гуашаў, ні карцін у залачоных рамах» — атрымліваў ад ордэна піяраў задарма. Магчыма, там і тады Ян Дамель звёў знаёмства, якое перарасло ў сяброўства, з пагодкам і аднакурснікам з Ваўкавышчыны — Ігнатам Цэйзікам, будучым выдатным мастаком-пластыкам, арт-дылерам і проста нешараговай асобай.

З адукацыяй Дамелю пашанцавала. Факультэт вытанчаных мастацтваў і літаратуры аднаго са старэйшых у Еўропе ўніверсітэтаў (заснаваны ў XVIII ст.) ганарыўся сваімі мастакамі-выкладчыкамі. І перадусім — непасрэдным носьбітам італійскіх мастацкіх традыцыяў, творцам у другім пакаленні, гадаванцам Рымскай акадэміі Св. Лукі прафесарам Францішакам Смуглевічам (1745–1807).

Закончыўшы курс навучання на гэтым факультэце, Дамель атрымаў ступень магістра вольных навук і стаў майстрам жывапісу, віцэ-прафесарам універсітэта. Апынуўся ў асяродку такіх творцаў, як Ян Рустэм (1762–1835), педагог ды былы каралеўскі скульптар А. Ле Брун (Лебрэн) і яго вучань з Гарадзеншчыны — Караль Ельскі, а таксама выдатны гравёр Джозэф Саўндэрс. Апроч прафесійна-прафесарскага атачэння і сяброўства з Цэйзікам Дамель з юнацтва знаўся з такімі неардынарнымі асобамі, як мастак Язэп Аляшкевіч (1777–1830); доктар Юзэф Лібошыц, які пазней стаў адным з заснавальнікаў «Таварыства медыкаў»; Захары Нямчэўскі (1766–1820), які мастацкую адукацыю атрымоўваў разам з Францішкам Смуглевічам у Акадэміі Св. Лукі ў Рыме, а пазней, будучы прафесарам матэматыкі Віленскага ўніверсітэта, стаў дэканам фізіка-матэматычнага факультэта (1817–1820). Дамель, як і згаданыя асобы, належаў да адной з віленскіх масонскіх ложаў.

## Умалот штодзённай працы

Творча засвоіўшы ўрокі і прыёмы італійскага класіцызму, Дамель плённа працаваў амаль ва ўсіх жывапісных жанрах. Асаблівую цікаўнасць у яго выклікаў рэлігійны жывапіс: «Збаўца і самарыцянка», паўтор работы слыннага Караваджа «Палажэнне ў труну», міфалагічныя і гістарычныя сюжэты з гісторыі Краю — «Смерць крыжацкага магістра Ульрыха фон Юнгінгена на Грунвальдскім полі», «Хрышчэнне Вольгі», «Смерць князя Панятоўскага», «Павел I выбаўляе Касцюшку з вязніцы» (нясконачаная), «Адступленне французаў праз Вільню ў 1812 годзе», «Пераправа праз Бярэзіну» (нясконачаная) — усё было не фармальнай перадачай сюжэту, а знаходзіла ў яго душы жывы водгук. Дзякаваць Богу, на мастацтва быў попыт і замоваў хапала, а час бадзёрыў спадзяваннямі.

Уяўны драматызм, ахвярнасць асабовых інтарэсаў дзеля агульнага квітнення былі ўласцівыя класіцызму на ўсіх этапах яго развіцця. Па мастакоўскай палітры Дамеля заўважна, як пяшчотна-кранальныя колеры з дакладнымі адценнямі і рэфлексамі ў больш позняя часіны спелага класіцызму пачынаюць адступаць у бок больш ашчаднай каляровай гамы. У наступ (часовы!) ідзе манахромнасць. Але па-ранейшаму палатно для мастака — нібы пляцоўка для рэжысёра, на якой, дзякуючы адрозным колерам (нават трохі спрошчаным), ён змушае сваіх герояў спыняцца ў самых выразных паставах, прылюдна адкрываючы свой унутраны свет. Віхуры часу супадалі з унутраным непакоем, памкненнямі і цікаўнасцямі маладога творцы.



Ян Дамель. Аўтапартрэт

## У спадчыну нашчадкам

Гэты раздзел мусіў быць самым кароткім. Не з-за беднасці фактычнага плёну мастака, але таму што не вельмі багата маем з яго на сёння, а калі і маем, то па большасці ў сховах Польшчы ды музеях і касцёлах Літвы. У Беларусі ёсць тры творы Дамеля і няма ні акадэмічна распрацаванай манаграфіі, ні навуковага каталога.

Работа «Св. Канстанцыя» (1808–?) была напісана Янам Дамелем па замове ўладальніка клецкага маярата, ваяводы трокскага Юзафа Радзівіла ў гонар рана памерлай дачкі. Прызначалася яна для галоўнага алтара Нясвіжскага касцёла. Кажуць, што «да месца прызначэння» яна не трапіла, бо «касцельнае кіраўніцтва, ці то знайшоўшы ўборы святой на карціне занадта сучаснымі, ці то, як кажа паданне, рысы святой былі ўзяты з твару князёўны, на грабніцы якой стаяў алтар, не дазволіла яго асвяціць». Твор, прымеркаваны да ўпрыгожвання алтара, трапіў у дамавую капліцу. Дый па іканаграфіі Святая Алена, маці Канстанціна Вялікага, павінна быць пажылой, з вялікім крыжам Хрыста, знойдзеным ёю.

Аднак, як лічыць эксперт Аляксей Кульбіцкі, які правёў параўнаўчы аналіз, для дамавой капліцы быў зроблены асобны «спісак».

Гады з два таму ў Беларусі адбыўся сапраўдны (хоць і мала заўважаны) цуд. Феніксам вярнулася палатно Дамеля «Святы Язэп з немаўлём Ісусам»: клопатам шчырага верніка Анатоля Шчучко, ксяндза Антонія Казлоўскага і гомельскіх рэстаўратараў на чале з Яўгенам Феем.

Летам 1811 года давераная асоба панны Брыгіды Сулістроўскай замовіла два абразы віленскаму прафесару Дамелю для новага Вішнеўскага (што пад Смаргонню) касцёла, пабудаванага на манер Віленскай катэдры.

У 1933 годзе кансерватар помнікаў культуры і кіраўнік аддзела мастацтваў Віленскага ваяводства Станіслаў Лорэнц прачытаў даклад «Матэрыялы да біяграфіі і творчасці Яна Дамеля, заснаваныя на публікацыях XIX ст.», у якім адзначалася, што «ў тым жа (Вішнеўскім. — С.Г.) касцёле быў таксама абраз Святога Тадэвуша Апостала, пэндзля Дамеля, знішчаны ў час вайны. Другая з замоўленых прац — «Святы Язэп з немаўлём Ісусам» — у міжваеннае дваццацігоддзе месцілася пры алтары.

У цэнтры вялікага палатна плошчай больш за сем квадратных метраў, адпаведна апокрыфу, стары бабыль Юзаф — але значна маладзейшы за героя Гвіда Рэні (1575–1642) — з немаўлём Ісусам. Калі ў класіка італьянскага Адраджэння ў кананічным творы Св. Юзаф засяроджаны на сваім бацькоўскім шчасці, то герой Дамеля пераможна-годна дэманструе Немаўля свету, уздымаючы «імгненне» да стану касмічнай «з'явы». Дзева Марыя, што праваруч сядзіць у фатэлі са Святым пісаннем у руках, Анёл — леваруч, бачна напісаны звыкла лёгка і хутка. Але, каб перадаць нешта найістотнейшае: даверлівы і ясны погляд «немаўляці», што выпраменьвае незвычайнае святло і нараджае ў душы трапяткое хваляванне і ўзнёслую радасць, давялося шматкроць перапісваць твар дзіцяці-Ісуса.



Касцёл у Вішневе, дзе захоўваецца алтарная карціна-абраз «Святы Язэп з немаўлём Ісусам»

Жыў мастак, відаць, як і ўсе грэшныя, адпаведна мажлівасцям, абставінам і настроям: то пераязджаў з кватэры на кватэру, як і ўсе, скардзіўся на нястачу грошай, а то мог, нават атабарыўшыся ў манахаў, «выпіць і закахацца», жартаваць і весяліцца, паехаўшы на «паплавы», суткамі не адыходзячы ад варштата і, апрача думна-філасафічных размоваў у вузкім коле абраных сяброў, такіх, як натхняльнік філаматаў і філарэтаў Іяхім Лялевель, мог нязмушана марнаваць час, «прападаць» на тэатральных пастаноўках… Майстар цвяроза глядзеў на сваю творчасць. Усталёўваў тэрміны і кошты: бывала, што і пазніўся, атрымоўваў грошы за сваю працу, і гэтага не саромеўся.

## Партрэты Дамеля

Пісанне абразоў сучаснікаў вылучае Дамеля з агульнай «класіцыстычнай» плыні. Яго партрэты, значную частку якіх ён пісаў без замоваў і без ганарараў, «для сябе ці для штудыяў», утрымліваюць вельмі жывыя, трапныя псіхалагічныя характарыстыкі, якія сведчаць пра іх прыналежнасць да рамантычных ці нават рэалістычна-псіхалагічных выяваў.

Варта ўгледзіцца ў партрэт «шубраўца» — сябры літаратурна-грамадскага таварыства ліберальна-асветніцкага кірунку, гісторыка і публіцыста Міхаіла Балінскага (1794–1864). Ці ў выяву Тамаша Ваўжэцкага (1753–1816), аднаго з кіраўнікоў паўстання 1794 года (з вязніцы гэтага «касцюшкаўца», кажуць, збавіў сам Павел I). У руска-французскай вайне Тамаш Ваўжэцкі заняў бок Расіі, і Аляксандр I ацаніў крок адстаўнога «мяцежнага» генерала, прызначыўшы яго міністрам юстыцыі Каралеўства Польскага. Радкі надмагілля ў Відзах выключна поўна характарызуюць гэтую палітычна няўрымслівую асобу, якая «ўсё сваё жыццё прысвяціла выкананню асабістага і грамадзянскага абавязку, годнага чалавека і цудоўнага грамадзяніна, які дапамагаў Радзіме парадамі, фінансамі, зброяй і абараняў яе, падбадзёрваў суайчыннікаў верай, аўтарытэтам, справядлівасцю, суцяшаў бедных і няшчасных матэрыяльнымі міласцівымі дарэннямі…»

Відаць, да даваенных творчасці варта аднесці і рэпрэзентатыўны партрэт асобы сімвалічнай для авантурнага гераічна-рамантычнага XVIII стагоддзя — Станіслава Богуша-Сестранцэвіча — асветніка, гісторыка, славіста, пісьменніка і першага мітрапаліта ўсіх рымска-каталіцкіх цэркваў Расіі, і да таго ж яшчэ і дзядзькі Дуніна-Марцінкевіча.

# Шлях мастака з Краю

Гаворачы пра «галерэю вобразаў мастака», варта згадаць партрэты гісторыка і археолага Канстанціна Тышкевіча, ксяндза Галянскага і іншых.

### Край пад французамі

Дамель з юнацкіх гадоў быў сімпатыкам Напалеона і з захапленнем удзельнічаў ва ўрыгожванні Вільні ў 1812 годзе. Але пасля паразы Напалеона горад апанавалі нейкія душэўныя прыцемкі. Вільня пачулася няўтульна-самотнай.

Хутка акрыяўшая імперская адміністрацыя пачынала праполку-прарыўку вальнадумства ва ўніверсітэце. Памятлівая ўлада не саромелася нагадаць кожнаму: забаронена і пісанне партрэтаў непажаданых асобаў, і «рамантычныя спадзевы», і ладжанне ўрачыстасцяў… І чым далей, тым болей у мастака свідравала думка: «З'ехаць куды (мяркуе ў Пецярбург. — С.Г.), дзе ёсць мастацкае жыццё, ёсць творцы»…

Дамель востра адчувае цяжар свайго становішча ва ўніверсітэце, грамадскую незапатрабаванасць і асабістую непатрэбнасць у гэтым жыцці. У роспачы ён піша «любезнаму сябру Цэйзіку», што колькасць жывапісцаў у Вільні зменшылася — «Янушэўскі з'ехаў да Ваньковіча ў Мінскі павет, Бароўскі — настаўнікам малюнку ў Беласток, Аляшкевіч таксама жадае знайсці сабе мейсца на свабодзе»… Але спраўдзіць задуму не давялося.

**У Сібіры, апрача роспісаў храмаў ды шэрагу купецкіх партрэтаў, Дамель шмат рабіў архітэктурных, а таксама жывых жанравых замалёвак з побыту мясцовага насельніцтва**

### Мінск — Табольск

У Мінск саракагадовы мастак трапіў не па ўласнай волі, — як сведка па «славутай справе Цейзіка». Яго вінавацілі ў тым, што ён не толькі ліставаўся са зламыснікам, але і пастаўляў абвінавачанаму адмысловую паперу для вырабу казначэйскіх білетаў. Дапытвалі ўсё іх віленскае кола. Кожны, апрача галоўнага абвінавачанага, які збег з-пад варты, атрымаў «сваё» — Ян Дамель «аддзелаўся» пяццю гадамі ссылкі ў Заходнюю Сібір. Вядома, не цукар, але…

Замацаваны як пасяленец купецкай сталіцы — Табольска, — ён пабываў у Іркуцку, Енісейску ды іншых гарадах. Не сядзеў склаўшы рукі, працаваў, і шмат якія каталіцкія храмы Сібіры аздоблены яго светланосным роспісам.

У Сібіры, апрача роспісаў храмаў ды шэрагу купецкіх партрэтаў, ён шмат рабіў архітэктурных, а што яшчэ важней — жывых жанравых замалёвак з побыту мясцовага насельніцтва. Графічная спадчына (накіды алоўкам ды пяром) гэтага прадстаўніка віленскай мастацкай школы — сотні аркушаў паасобку і ў альбомах. Пяро ў яго руцэ набывае поўную свабоду дзеяння і энергію ўвасаблення эмацыйна-пачуццёвага зместу. Замалёўкі антычнага і гісторыка-этнаграфічнага характару сведчаць аб парастках неакласіцызму ў яго мастацкіх пошуках.

Пра ацэнку творчасці мастака сучаснікамі кажа ўжо тое, што па яго малюнках рабіў свае гравюры прафесар-англічанін Саўндэрс.

Мяркую, што прыродны аптымізм, розум ды майстэрскае валоданне пэндзлем спрыялі не толькі знаёмству, але і ўсталяванню сяброўскіх стасункаў паміж ім і бліскучым рэфарматарам і лібералам, «расчышчальнікам аўгіевых канюшняў», «уладаром Сібіры» — Міхаілам Сяранскім (1772–1839).

Якраз падчас побыту Дамеля ў Табольску Сяранскі ачольваў мабільную камісію барацьбітоў з карупцыяй і іншымі дзяржаўна-адміністрацыйнымі злоўжываннямі. Гэты «сацыяльны сірата», што выйшаў з асяродку вясковых святароў, дзякуючы кемлівасці і працалюбству, высока ўзляцеў па расійскай кар'ернай лесвіцы. Разам з фанфарамі і лаўрамі зазнаў ён сапраўдны грамадска-адміністрацыйны заняпад, але і ў выпрабаваннях здолеў захаваць жывыя чалавечыя рысы.

І ў Табольску, а пазней і ў Іркуцку, у характары «дзяржаўніка», хударлявага, пяцідзесяцігадовага мужчыны, апранутага ў просты шынель без якіх бы ні было знакаў адрознення ды такую ж сціплую скураную кепку, завядзёнкай было заставіць падчас абавязковых вечаровых шпацыраў на агеньчык да якога мясцовага знаёмца з купцоў. Ці мастака з далучаных земляў Яна Дамеля. Галоўнаму рэвізору Сібіры ды аўтару выслоўя: «У Табольску я ўсіх (маецца на ўвазе чыноўніцтва) аддаў пад суд… То тут (у Іркуцку) застаецца ўсіх павесіць» было аб чым пагаварыць з пасяленцам. (І, відаць, не толькі пра Напалеона, якому яны абодва сімпатызавалі). Якраз у той час у ліку дакументаў, якія распрацоўваў Міхал Міхайлавіч, быў законапраект аб ссыльных («Статут аб ссыльных» быў прадстаўлены Аляксандру І у 1822 годзе).

Партрэт Міхаіла Спяранскага, напісаны Янам Дамелем у Табольску, расійскія мастацтвазнаўцы лічаць лепшай з прац таго часу. У ім, нягледзячы на акадэмічную схему (статычнасць, рэпрэзентатыўнасць і г.д.), мастак надзяляе графа індывідуальнымі, толькі яму ўласцівымі рысамі, нейкай чуллівасцю душы, і ў дотык набліжаецца да жыццёвага, рэалістычнага мастацтва.

Відаць, менавіта генерал-губернатар паспрыяў хутчэйшаму вяртанню Дамеля на Радзіму.

Падчас сваіх змушаных блуканняў і побыту ў Сібіры мастак вёў дзённік, у якім апрача жывых непасрэдных уражанняў і накідаў да станковых твораў адзначаліся і яго працы манументальнага чыну. Такія, як роспіс евангелічнага касцёла ў Табольску ды манументальны сценапіс у касцёле Бернардзінцаў у Томску. Гэты дзённік, які пільнаваў майстар аж да вяртання ў Мінск, часткова захоўваецца ў Каўнасе ў музеі Чурлёніса, ёсць дзеннікі і «шкіцоўнікі» Дамеля ў Варшаве, у Нацыянальным музеі.

### Вяртанне

Да Краю, як стануць казаць у ХХ стагоддзі, Дамель вярнуўся ў 1822 годзе. Але не ў Вільню, якая страціла спадзяванні і далягляды, заняпала. І не ў Пецярбург, які даўно вабіў, дзе ён, здавалася, займеў «высокую пратэкцыю». Але ў Мінск, які да сярэдзіны 20-х гадоў налічваў ужо каля трыццаці тысяч жыхароў.

На той час у горадзе акрамя парафіяльнай прыходскай школы існавала пяцікласная дваранская вучэльня, сямікласная і мінска-магілёўская рыма-каталіцкая семінарыі ды жаночы пансіён. Не было, праўда, універсітэта, але не было яго ўжо і ў Вільні. Наяўнасць навучальных установаў у горадзе была для мастака істотнай: па заканчэнні Віленскага ўніверсітэта ён меў права выкладання. І, падобна віленскім мастакам Гаспару Бароўскаму, Яну і Палікарпу Етэйкам, Мацею Пшыбыльскаму, Міхалу Падалінскаму, Івану Герасімовічу, Эмерыку Адамовічу, Дамель скарыстаў гэтую мажлівасць.

Падчас рэстаўрацыі будынка XVIII стагоддзя ў Мінску на плошчы Свабоды, 15 (галерэя Савіцкага) рэстаўратары разам з Уладзімірам Ракіцкім адкрылі на ягоных сценах фрэскі, якія, пэўна, рабіў Ян Дамель. Во што магло б стаць сапраўдным брэндам. І не толькі плошчы!

У паслясібірскія часіны жыцця, па словах Адама Шэмеша, мастака часта можна было бачыць то на беразе Свіслачы, то на Залатой Горцы, ці проста на вуліцах горада, дзе ён таропка штось накідваў у сваім «шкіцоўніку». Некаторыя даследчыкі згадваюць такія яго краявіды, як «Вадзяны млын», «Вадаспад», «Вёска ў дождж», але бачыць іх не даводзілася нават у рэпрадукцыях, таму і сказаць няма што… Яшчэ, сведчыць Шэмеш, а пазней далучае свой голас і Уладзіслаў Сыракомля, Дамелю падабалася маляваць пры штучным асвятленні, якое ён наўмысна выстаўляў у кафедральным касцёле, калі пісаў «Вырачэнне Святога Пятра», каб нават самыя драбніцы ў творы выявіць з вялікай натурнай дакладнасцю.

У іншасвет, у крыпту касцёла Узвышэння Святога Крыжа, што на Кальварыйскіх могілках, пад уласнаручны абраз — «Маленне Збаўцы» — ён трапіў у 1840 годзе скрозь Браму — ім жа спраектаваную.



Ян Дамель. Павел І вызваляе Тадэвуша Касцюшку з турмы



Ян Дамель. Архібіскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч



Ян Дамель. Тамаш Ваўжэцкі



Ян Дамель. Святы Язэп з Ісусам

# Таямніцы лонданскай Скарынаўкі: «Жан і Жак, альбо Падроблены рай»



Уладзіслаў ГАРБАЦКІ

**Скарынаўка вабіць многіх, запрашае адзінкі і хавае ў сваіх сховах прыемныя, нечаканыя, хачу верыць, шматлікія таямніцы. Пакуль магу і вельмі хачу падзяліцца адной з іх. Таямніца, якая, няма сумневу, шармуе ўсіх і адкрые яшчэ адзін невядомы і таленавіты бок нашай дыяспары.**

Увесну 2015 года, якраз у той самы дзень, калі памёр Аляксандр Надсан, у Скарынаўцы ў адным са сховаў (бельгійскія архівы-корабы дыяспары) я выпадкова натрапіў на друкапіс, ледзь прыкметна аздоблены «Jean et Jacques ou le faux paradis» par (закрэслена) N. Niva. Спачатку я падумаў, што гэта нейкая справаздача беларусаў паваеннай Бельгіі, але, пачаўшы чытаць і натрапіўшы на мастацкі стыль, на беларускія імёны герояў і мясцовасцяў, я зразумеў, што маю справу з раманам ці аповесцю. З мастацкім тэкстам пра Беларусь, пра аднаго беларуса, пра трагічны лёс беларускай сям'і ў камуністычнай даваеннай Беларусі.

Раман напісаны па-французску беларусам з дыяспары. Ужо гэты факт здзівіў і зачараваў, зрабіў адкрыццё рэвалюцыйным. Вядома, беларусы цудоўна ведаюць усе магчымыя мовы, толькі не сваю, пішуць на шматлікіх вядомых і экзатычных мовах. Але дасюль не было ніводнага франкамоўнага тэксту ў беларускай літаратуры XX стагоддзя. Апрача гэтага тэкст цікавы важнымі ўстаўкамі-развагамі аб беларускасці, беларускай мове, аб дамінаванні рускай і маргіналізацыі беларускай мовы ў БССР.

Тэкст напісаны прыблізна адразу пасля Другой сусветнай вайны (канец 1940-х — пачатак 1950-х гадоў), прыблізна ў Бельгіі, хутчэй за ўсё, кімсьці з лювенскага кола. Псеўданім N. Niva пакуль застаецца дакладна не ідэнтыфікаваны. Але закрэсленае да яго іншае імя MAZUR (удалося прачытаць прозвішча, імя адкрываецца прыблізна — TODAR) вядзе нас да вядомага, хоць мала прысутнага ў літаратуры і ў сеціве, і слаба апісанага сёння дыяспарніка Тодара Мазура. Ён, хутчэй за ўсё, і з'яўляецца аўтарам знойдзенага нядаўна рамана.

Тым не менш, трэба больш доказаў і сцвярджэнняў на гэту карысць. Таму пакуль што Тодара Мазура можна назваць папярэднім аўтарам рамана «Жан і Жак, альбо Падроблены рай», першым беларускім пісьменнікам франкафоніі.

Дарэчы, французская мова тэксту заслугоўвае ўвагі: гэта добрая, дакладная, наколькі я магу ацэньваць мову дэ Бавуар і Сартра, крыху штучная, што зноў падкрэслівае той факт, што пісаў не натуральны франкафон. Заўважаюцца пэўныя абдрукоўкі, не зусім слушнае размяшчэнне прыметнікаў да ці пасля назоўнікаў, але ў цэлым уражанне добрае. Варта адзначыць цікавае і ўласцівае дыяспары ўжыванне прыметніка і назоўніка «беларускі», «беларус-ка» (bielorussien-ne, Bielorussien-ne). Гэтай традыцыі прытрымліваліся ўцекачы з БССР, прытрымліваюцца і цяперашнія дыяспарнікі франкамоўнай прасторы. Гэта таксама сведчыць аб беларускім следзе аўтарства. Бельгіец ці, тым больш, француз напісаў бы, без усякіх сумневаў, «bielorusse».



JEAN ET JACQUES

ou

LE FAUX PARADIS..

par [redacted].

N. Niva.

**Лонданская Скарынаўка дасюль застаецца мекай для ўсіх рэдкіх зачараванцаў (у тым ліку франкафонаў) Беларуссю**

Што да формы тэксту, то тут, на маю думку, ёсць значна больш заўвагаў ды зачэпак. Калі глабальна, то раман гэты не належыць да шэдэўраў, але пры гэтым яго не назавеш паразай ці нізкаякаснай літаратурай. Гэта добры кантэкстны раман з пэўнымі элементамі кінасцэнару. Наогул, уражанне ад раману, што з яго атрымаўся б цудоўны фільм.

Варта адзначыць, канечне, нейкую схематычнасць, прадказальнасць, часам наіўнасць рамана. Апісальнасць не заўсёды поўная і багатая. Але, паўтаруся, гэта раман — сведка часу, эпохі, раман-дакумент, раман-сімвал нашай дыяспары ў Бельгіі пасля вайны. І, канечне, гэта вельмі ідэалагічны тэкст, што, мяркую, часамі паслабляе ягоную мастацкую вартасць. Але, з другога боку, заідэалагізаванасць (антысавецкасць і хрысціянацэнтрычнасць) апраўданая, бо вынікае з асабістага, па ўсім бачна, з сапраўды перажытага, зведанага. І таму тэкст ператвараецца ў пэўны дакумент, дзённік, успамін, у якім ідэалагічнасць успрымаецца арганічна.

Зрэшты, трэба ўспрымаць гэты тэкст як непаўторную беларуска-бельгійскую повязь, як дыялог паміж нашымі культурамі. У рамане паўстае другі важны пратаганіст Жак, паўстаюць паралелі паміж Беларуссю і Бельгіяй. У тэксце шмат вельмі цікавых, хоць часам і стэрэатыпных, развагаў краіназнаўчага кшталту.

І, канечне (дыяспарны кантэкст абавязвае!), тэкст скрыжоўваецца з рэлігійным, а таму часам і маралізатарскім пасланнем (глядзіце другую частку назвы рамана). На прыкладзе галоўнага героя Яна Грынкевіча, ён жа Жан, прасочваецца лінія духоўнага пошуку беларуса з вёскі, які стаў піянерам, потым ідэйным камуністам, атэістам, а ў дарослы век, апынуўшыся на Захадзе, пасля шматлікіх пакутаў-пошукаў, вярнуўся да сапраўднага сябе — верніка. І гэтая, няма сумневу, біяграфічная лінія дадаткова прывязвае нас да беларускага аўтарства тэксту.

Варта таксама адзначыць, што тэкст, хутчэй за ўсё, дасылаўся бельгійцу ці французу, магчыма, бельгійскаму ці французскаму выдавецтву, бо спачатку рамана маюцца заўвагі, якія звычайна робіцца ў выдавецтвах. Так, у заўвагах пазначана: «Назва спрэчная. Трэба зрабіць праўку французскай мовы. Будзе друкавацца як асобны раман, аповесць ці як раман у перыёдыцы».

Пакуль ідзе пошук ці, дакладней, доказ сапраўднага аўтарства тэксту, ён застаецца недаступны ані беларускаму, ані бельгійскаму чытачу, але таямніца паступова дэвуалюецца, адкрываецца. Ужо добра тое, што тэкст быў знойдзены! Як чытач і перакладнік я перакананы, што дадзены тэкст варты друку і перакладу. Бо гэта тэкст — сведка багацця, смеласці і пакручастасці жыцця нашай дыяспары, якая не проста выжывала, але імкнулася стварадь, пісаць і пакінуць след, памяць. Тэкст схаваны і захаваны для нас у лонданскай Скарынаўцы, якая дасюль застаецца мекай для ўсіх рэдкіх зачараванцаў (у тым ліку франкафонаў) Беларуссю.

Бібліятэка, якая працягвае адкрываць новыя сакрэты, здзіўляць і пераконваць беларусаў у сваёй жа таленавітасці. Можа, у гэтым і ёсць цяперашняя місія Скарынаўкі, каб надаваць смеласці беларусам-мінімалістам, беларусам, якія саромеюцца, мадзеюць на тле больш актыўных і ўдачлівых суседзяў?

# Што ўбачаць беларускія дзеткі

**Што цікавага чакаць у новым тэатральным сезоне? Якімі прэм'ерамі парадуе нас ТЮГ?**

**12 верасня** ТЮГ распачынае юбілейны сезон адной з любімых п'ес Янкі Купалы легендарнай «Сіняй птушкай» М. Метэрлінка ў пастаноўцы Уладзіміра Савіцкага. Вядома, што Уладзімір Савіцкі — не толькі прыхільнік еўрапейскай сімвалічнай п'есы, але і аўтар графічна-вострых, творча-нечаканых пераасэнсаванняў беларускай драматургіі.

**16 верасня** ў ягонай пастаноўцы можна будзе ўбачыць спектакль «Зацюканы апостал» А. Макаёнка. Паводле слоў рэжысёра, свой спектакль ён паставіў пра «...псіхічнае здароўе нашай нацыі, нашага маладога пакалення».

**Да Новага года** на сцэне тэатра вы зможаце пабачыць класічную «Дзюймовачку» Ганса-Хрысціяна Андэрсана (пастаноўка Ул. Савіцкага). Самотна-меланхольная паэзія Андэрсана плюс арыгінальнасць рэжысёрскай трактоўкі ствараюць кранальнае казачнае відовішча.

На сцэну тэатра вернецца Паліяна, гераіня славутай аповесці амерыканскай пісьменніцы Элінар Портэр. Паліяна — вельмі адметная гераіня. Нас, смутнаглядных беларусаў, яна лёгка навучыць такой неабходнай для кожнага гульні ў радасць.

А **бліжэй да Калядаў** рэжысёр Яўген Лёгкін парадуе гледача сваёй новай незвычайнай загадкава-прыгодніцкай і сонечнай казкай «Таямніца вялікага Гудвіна»!

Цяпер шырока абмяркоўваецца пытанне браку пляцовак, на якіх дзеткі і падлеткі маглі б размаўляць па-беларуску і быць удзельнікамі імпрэзаў, спектакляў менавіта на сваёй мове. Апошнім часам з'явіліся пэўныя ініцыятывы, якія даюць такую магчымасць, але гэтага ўсё адно недастаткова. «Новы Час» звярнуўся да рэдактара аддзелу рэкламна-друкаванай прадукцыі Васіля Дранько-Майсюка, каб ён удакладніў, колькі ж з прапанаваных беларускіх бацькам з дзеткамі спектакляў будуць ісці па-беларуску.



«Усе названыя прэм'еры будуць ісці на беларускай мове! На дадзеным момант у афішы тэатра пазначаны толькі адзін спектакль па-руску — «Прыгоды Бібігона». Смела прыходзьце самі і прыводзьце сваіх дзетак!» — падкрэслівае Васіль Дранько-Майсюк.

**«Новы Час»**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**
Намеснік галоўнага рэдактара
**Колб Аксана Мікалаеўна**
**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 1119

Падпісана да друку 28. 08.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.